# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

11 лістапада 1994 г. № 45 (3767) Кошт 75 руб.








## ДЗЯКУЙ, РАМАНТЫКІ АДРАДЖЭННЯ!

Тыя чатыры вечары ўвабралі ў сябе лад пачуццяў, звівы ментальнасці, павевы моды й густаў, парадоксы жыцця людскога, рамантычны водар мінулага стагоддзя. Тыя чатыры вечары прамінулі, як адно стагоддзе — амаль нязнанае, неспазнанае дасюль стагоддзе ў багатай гісторыі развіцця нашай музычнай культуры. Тыя чатыры вечары, зладжаныя арганізатарамі чарговага фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы" пры спонсарскай дапамозе культурна-асветніцкага таварыства "Літвіны", сталіся не толькі спатканнем з гожымі й разнастайнымі канцэртнымі праграмамі. Яны (як, дарэчы, і ўсе акцыі аб'яднання "Беларуская Капэла") сталіся жывым урокам праўдзівай айчыннай гісторыі, урокам духоўнасці, урокам глыбіннага патрыятызму.

Дзякуй вам, рамантыкі Адраджэння, за такое дзейснае, не на словах, вяртанне ў беларускую музычную культуру твораў Н. Орды й Ф. Міладоўскага, А. Абрамовіча ды М. Кл. Агінскага, С. Манюшкі ды В. Дуніна-Марцінкевіча... Праз нейкі час мы больш падрабязна скажам пра канцэрты IV фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы". А пакуль — згадка пра заключны фестывальны вечар у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Выдатны наш скрыпач Леў Гарэлік у суправаджэнні Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі граў творы М. Ельскага. Падзеяй сталася першае прачытанне вакальна-сімфанічнай партытуры В. Казлоўскага — музыкі да трагедыі У. Озерава "Фінгал". Выконвалі твор Акадэмічная капэла імя Р. Шырмы, сімфанічны аркестр, салісты Паўліна Елісеева ды Рыгор Палішчук. Дырыжор — Міхаіл Сінькевіч. Гэты магутны заключны акорд фестывалю прагучаў у мінулую нядзелю...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: народны артыст Беларусі Л. ГАРЭЛІК; кветкі — маэстра М. СІНЬКЕВІЧУ (справа — лаўрэат міжнароднага конкурсу Р. ПАЛІШЧУК).*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***Як ні сумна гэта гаварыць, але ж даўнія ўжо словы класікаў аб тым, што народ наш "цёмны, сляпы, быццам крот" і "дурны, як варона", застаюцца ў сіле, бадай, і сёння. Бо вось жа: новую хвалю росту цэн, у першую чаргу на хлеб, малако, тварог і мяса, а таксама на камунальныя паслугі, ён зноў сустрэў тым жа, усё яшчэ досыць дружным асуджэннем... усё тых жа дэмакратаў. Маўляў, гэта яны, дэмакраты, давялі нас да такога жыцця! Так, так, даражэнькі народзе, вядома ж, вінаваты дэмакраты. "Дэмакрат" Кебіч і цяпер во — "дэмакрат" Лукашэнка. Ды Кебіч — што! Яго ўжо можна і не згадваць. А чатыры месяцы Лукашэнкі даюць вялікія падставы для сумневу ўжо і самым шчырым ягоным прыхільнікам. "За час гэты за кароткі" левы кандыдат у прэзідэнты з самымі папулісцкімі лозунгамі паўстае ўсё больш правым і ўсё часцей вымушаны прымаць жорсткія, зусім не папулярныя меры.***

***А на дварэ тым часам пацяплела, мароз саступіў месца позняй восеньскай імжэчы і слаце...***

## АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

У часе сваёй нядаўняй паездкі ў Нью-Йорк прэм'ер-міністр Беларусі М. Чыгір сустракаўся з амерыканскімі беларусамі. Якое ж ураажанне зрабіў ён на нашых суайчыннікаў? Аказваецца, вельмі прыемнае. Адзін з амерыканскіх беларусаў заявіў: "Пасля сустрэчы з М. Чыгіром адчуваецца яго вера ў свае сілы, у сілы свайго народа. З такой сустрэчы чалавек выходзіць з лягчэйшым сэрцам, з мацнейшай верай у будучыню". А другі ўдзельнік сустрэчы, правільней — удзельніца адзначыла: "Мяне ўразіла тое, што беларускі прэм'ер добра гаворыць па-беларуску, чаго мы не чулі ад многіх папярэдніх прадстаўнікоў улады". Нас бы, папраўдзе, тое таксама ўразіла. І мы паўтарылі б услед за нашай амерыканскай зямлячкай: "Але чаму ён не карыстаецца мовай штодзённа? І калі нарэшце першыя асобы дзяржавы перастануць грэбаваць гэтым фактарам?"

## ПРАГУЛЬШЧЫКІ ТЫДНЯ

У дзень адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета да дэпутатаў са спецыяльным зваротам звярнуўся Старшыня ВС М. Грыб. Што занепакоіла і ўстурбавала спікера? Недысцыплінаванасць калег-дэпутатаў, іхняя заўсёдная адсутнасць у Авальнай зале Дома ўрада ў часе пасяджэнняў. М. Грыб прывёў такія факты: толькі за тыдзень, з 17 па 21 кастрычніка, адсутнічалі звыш 100 дэпутатаў, у тым ліку 5 дзён — 31 дэпутат, 4 дні — 8, 3 дні — 18, 2 дні — 8, 1 дзень — 43 дэпутаты.

Брава, народныя абраннікі, заступнікі і абаронцы!

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Склады беларускіх прадпрыемстваў працягваюць затаварвацца гатовай прадукцыяй, якая не знаходзіць збыту. Як паведамляе друк, на 1 кастрычніка на складах аселі: шкарпэткі і панчохі — 2,2 млн. пар (31,9 працэнта ад агульнага аб'ёму ў верасні), трыкатажныя вырабы — 2,2 млн. штук (32,9 працэнта), абутак — 500 тыс. пар (21,2 працэнта), матацыклы — 4,2 тыс. штук (95,7 працэнта), гадзіннікі — 523 тыс. штук (44,4 працэнта), пральныя машыны — 2,4 тыс. штук (30,7 працэнта), халадзільнікі і маразільнікі — 91 тыс. штук (14,1 працэнта ад агульнай вытворчасці ў верасні). Прадукцыя асядае на складах, бо вельмі дарагая і, на жаль, не лепшай якасці. А не так жа даўно нехта горача абяцаў адным махам расчысціць гэтыя завалы...

## ЧЫТАЧ ТЫДНЯ

Вядомы наш кінарэжысёр М. Пташук наважыўся здымаць фільм пра Вялікага князя Вітаўта. Частку грошай абяцалі даць міністэрствы культуры Расіі і Польшчы (Вітаўт — асоба значная, ён меў дачыненне і да гісторыі гэтых суседніх дзяржаў), а ў нашага Міністэрства культуры і друку грошай няма. Рэжысёр вырашыў знайсці грошы на пастаноўку фільма з дапамогаю прэзідэнта. З гэтаю мэтаю, як паведамляе газета "Свабода", перадаў Аляксандру Рыгоравічу на чытку сцэнарый фільма. Што ж, пажадаем — разам з М. Пташуком — добрага настрою ў часе чытання высокаму чытачу!

## КОНКУРС ТЫДНЯ

Нас ужо, бадай, цяжка чым-небудзь здзівіць, а тым больш — нейкім новым конкурсам. Якіх толькі іх ні было, гэтых самых конкурсаў: і на лепшую бабулю горада, і на міс дзіцячага садка!.. У Расонскім раёне, аднак, наважыліся правесці і яшчэ адзін конкурс, свой, адметны, з мясцовай, так бы мовіць, прывязкай. Для ўдзелу ў ім запрашаюцца школьнікі, а тэма яго вызначана гэтак (на рускай мове, вядома ж): "Пётр Машеров — мой любимый герой". Для пераможцаў устаноўлены тры прэміі і нагрудны знак "Машеровец". Як любіў гаварыць наш класік: дзярзайце, ўюнашы?

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Сёння, напрыклад, магу канстатаваць: ужо больш за месяц мінула з часу прыняцця Праграмы неадкладных мер па вывадзе рэспублікі з эканамічнага крызісу, а краіна і блізка не набліжаецца да тых асноўных паказчыкаў, якіх мы, згодна той жа Праграмы, ужо павінны былі дасягнуць.

На мой погляд, гэта тлумачыцца паўнейшай бяздзейнасцю выканаўчай улады. Каманда А. Лукашэнкі недастаткова працаздольная з пункту гледжання правядзення ў жыццё сваіх ідэй. Гэтыя людзі не накіроўваюць на месцы свае дырэктывы і не кантралююць іх выкананне. Чацвёрты месяц канчаецца з дня выбрання Прэзідэнта, але, можна сказаць, ніводнага распараджэння па выкананні намечаных надзвычайных мер на месца не накіравана. Ствараецца ўражанне, што Праграма створана для таго, каб проста памахаць ёю на парламенцкай трыбуне, як махалі калісьці папкамі з так званым кампраматам".

*(Г. Карпенка. З інтэрв'ю карэспандэнту Інтэрфакса).*

## РАБАВАННЕ ТЫДНЯ

З памятнага знака "Пагоня на Грунвальд", які быў пастаўлены ля Каложы ў Гародні чатыры гады назад, нягоднікі сарвалі бронзавую выяву "Пагоні" і пашкодзілі саму гранітную пліту. Хто і з якою мэтаю зрабіў гэта — невядома. Вандалізм гэта ці простае хуліганства — таксама цяжка сказаць. Ды ад гэтага не лягчэй. Памятны знак, пастаўлены на тым месцы, з якога Вітаўт Вялікі назіраў за пераправай свайго войска праз Нёман, быў адзіным на Беларусі помнікам у гонар Грунвальда. Цяпер вось і яго не стала...

Парламент

# А ПРЭЗІДЭНТ НЕ ПРЫЕХАЎ...

Распаўсюджаныя некаторымі сродкамі масавай інфармацыі звесткі аб тым, што Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, які праходзіў курс лячэння за межамі краіны, вяртаецца дадому і ў сераду 9 лістапада прыме ўдзел у рабоце сесіі Вярхоўнага Савета, не спраўдзіліся. У Авальнай зале Дома ўрада ні ў гэты дзень, ні назаўтра ён не з'явіўся, і, як засведчылі некаторыя чыноўнікі з яго адміністрацыі, у Мінску А. Лукашэнкі ў тыя дні не было.

Сітуацыя, што і казаць, склалася унікальная, і для любой цывілізаванай краіны, дзе не тое што службовая дзейнасць, а і асабістае жыццё першай асобы ў дзяржаве знаходзіцца пад пільным вокам грамадскасці, — немагчымая. Вось ужо больш за два тыдні Рэспубліка Беларусь жыве ў абстаноўцы фактычнага безуладдзя, абумоўленага адсутнасцю прэзідэнта, які нікому сваіх уладных функцый на час сваёй адсутнасці не дэлегаваў. Дадамо да гэтага, што наогул невядома, што з ім адбываецца (ніводнага афіцыйнага паведамлення аб стане здароўя А. Лукашэнкі апублікавана не было) і дзе ён увесь гэты час знаходзіўся. Паводле паведамлення "Народнай газеты", якая паспрабавала высветліць, у якім з сочынскіх санаторыяў папраўляе здароўе Аляксандр Рыгоравіч, яе карэспандэнту ўсюды, куды ён званіў, адказвалі, што сярод мясцовых пацыентаў чалавек з такім прозвішчам не значыцца...

Пішу гэтыя радкі з надзеяй, што мяне не спасцігне лёс некаторых маіх калег, асобныя публікацыі якіх былі расцэнены на сесіі, як падрыў дзяржаўных "устоеў" з усімі вынікаючымі адсюль наступствамі. Пачалося ўсё з таго, што былы міністр унутраных спраў рэспублікі, дэпутат В. Піскароў, рэдка якое выступленне якога ў парламенце абыходзіцца без "выкрыцця" гэтых "пісак", прапанаваў стварыць парламенцкую камісію для высвятлення абставін з'яўлення ў газеце "Известия" вядомага артыкула ўласнага карэспандэнта газеты ў Беларусі А. Старыкевіча, у якім апавядалася аб незразумелых сувязях Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі М. Грыба з крымінальнымі мафіёзнымі асобамі і аб гандлі Беларуссю зброяй, а таксама матэрыялаў, што былі апублікаваны ў некаторых беларускіх газетах. Самае сумнае, што сярод шумнага хору галасоў у падтрымку стварэння такой камісіі толькі адзін ці два дэпутаты ўзвысілі свой голас у абарону журналістаў, справядліва заўважыўшы, што ідзе непрыхаванае наступленне на галоснасць, свабоду слова, якія ў нас з пакутамі прабіваюць сабе дарогу.

Прызнацца, зусім нечаканай з'явілася для мяне ва ўсёй гэтай гісторыі падтрымка, якую атрымаў В. Піскароў з боку лідэра апазіцыі БНФ З. Пазняка і некаторых яго паплечнікаў, адзін з якіх наогул прапанаваў заняцца "крамольнымі" журналістамі КДБ Камітэту дзяржбяспекі.

Застаецца дадаць, што большасць дэпутатаў, начыста забыўшы, што меру вінаватасці журналістаў за дыфамацыю можа вызначыць толькі суд, прагаласавалі за стварэнне нагаданай камісіі.

Два дні правёў я ў сценах парламента. Што яшчэ асабліва запомнілася? Ну, вядома ж, гнеўныя філіпікі, з якімі многія дэпутаты звярталіся да пустуючага прэзідэнцкага крэсла, устаноўленага на подыуме. Думаю, што Аляксандр Рыгоравіч адчуваў бы сябе пад гэтым градам крытыкі не вельмі ўтульна. Тым больш, што крытыка была справядлівай. За сто ўжо з нечым дзён прэзідэнцтва ніводнае з лукашэнкаўскіх абяцанняў палепшыць стан эканомікі, у прыватнасці, не дапусціць далейшага росту цэн, не выканана, некаторыя з іх успрымаюцца сёння, як здзек, бо ніколі яшчэ ў нас не падаў так рэзка жыццёвы ўзровень народа. Ствараецца ўражанне, што Кабінет Міністраў (дарэчы, так да канца яшчэ не сфарміраваны, як і ўладная вертыкаль), страціў кантроль над сітуацыяй у краіне.

Настроем парламентарыяў, відаць, можна было вытлумачыць і нервовую абстаноўку, у якой праходзіла абмеркаванне папраўкі да законаў "Аб Нацыянальным банку" і "Аб банках і банкаўскай дзейнасці". На галаву старшыні праўлення Нацыянальнага банка С. Багданкевіча абрынуліся абвінавачванні за пралікі ў крэдытна-фінансавай дзейнасці, у прыватнасці, за эмісію "пустых" грошай, за неэфектыўную крэдытную палітыку і г. д. Асабліва ваяўніча былі настроены супраць галоўнага банкіра рэспублікі дэпутаты, лабіруючыя ў карысць аграрнага сектара эканомікі, і ўскладаючыя на яго віну за адсутнасць парытэту цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю, у выніку чаго сельская гаспадарка краіны апынулася ў глыбокім крызісе. С. Багданкевіч паабяцаў у бліжэйшы час выдзеліць аграрнаму сектару 90 мільярдаў рублёў, на што дэпутаты-аграрнікі выгукнулі: "Мала!". Сапраўды, мала, калі мець на ўвазе, што нашу нерэфармаваную сельскую гаспадарку не натоляць ніякія фінансавыя ўліванні.

У сераду 9 лістапада пачалося абмеркаванне законапраекта "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь" "Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь". З самага пачатку разгляду законапраекта ў зале ўспыхнулі спрэчкі паміж дэпутатамі, якія выступалі за захаванне існуючай мажарытарнай выбарчай сістэмы, і тымі, хто лічыць, што наяўнасць сёння ў рэспубліцы больш як двух дзесяткаў розных палітычных партый патрабуе новых падыходаў да фарміравання выбарчай сістэмы, што інтарэсы народа ў вышэйшым органе заканадаўчай улады больш поўна будуць прадстаўлены пры змешанай выбарчай сістэме — выбарах часткі дэпутатаў па аднамандатных акругах, а часткі па партыйных спісах. Прыхільнікі абодвух падыходаў горача адстойвалі сваю праваату, тым не менш, было відавочна, што колькасная перавага на баку тых, хто супраць усякіх навацый у выбарчай сістэме. Не памылюся, калі скажу, што многія дэпутаты з так званай наменклатурнай большасці яшчэ псіхалагічна не ўспрымаюць самога паняцця шматпартыйнасці. Ва ўсякім разе, прапанова разгарнуць абмеркаванне выбарчага законапраекта большасцю галасоў была адхілена.

Застаецца дадаць, што сам Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка — прыхільнік мажарытарнай выбарчай сістэмы, што можна было зразумець з выступленняў яго адкрытых прыхільнікаў у парламенце.

**М. З.**

Пошта

# ПЫТАННІ ЗАСТАЮЦЦА

Тая непасрэдная рэакцыя, што выявілася ў "адкрытым адказе" начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Прэзідэнта РБ Аляксандра Фядуты на адкрыты ліст пісьменніка Генрыха Далідовіча, гатоўнасць абаліраца ў спрэчцы на ўладу аргументаў, а не на аргумент улады, не могуць не выклікаць павагі. Аднак у той частцы адказу, якая датычылася беларускай мовы, не ўсё зразумела.

1. Падобна, Аляксандр Фядута лічыць, што ён жыве ў краіне, дзе беларуская мова — дзяржаўная фактычна. Нібы казырным тузом, дзяржаўным статусам беларускай мовы ён пабівае довады свайго апанента. Але як жа тады зразумець словы Аляксандра Фядуты пра беларускамоўную **спецыфіку** газеты "Звязда"? Чаму, даючы інтэрв'ю той жа вельмі "спецыфічнай" па мове "Звяздзе", адзін з галоўных дарадцаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (філолаг-русіст паводле адукацыі і нават вучоны пушкініст) нядаўна змушаны быў прызнацца, што ён не валодае беларускай мовай у такой ступені, каб пагаварыць на ёй з журналістам (глядзі нумар газеты за 19 ліпеня г. г.)? Ці магло б гэта быць у дзяржаве, дзе сапраўды выхоўваюцца паважлівыя адносіны да мовы тытульнай нацыі?

2. Няўжо экс-літаратуразнаўца Аляксандр Фядута сапраўды лічыць, што сувязь паміж якасцю літаратуры і колам яе чытачоў вельмі простая: чытаюць добрых пісьменнікаў, а не чытаюць дрэнных? Але хіба ў краінах, дзе "сутыкаюцца" розныя мовы, не маюць значэння такія паняцці, як "моўная кампетэнцыя" і "сацыяльная прэстыжнасць мовы"? Як вядома, творчасць лаўрэата Нобелеўскай прэміі, "правансальскага Гамера" Фрэдэрыка Містраля не змагла значна паўплываць на лёс правансальскай мовы. У Галісіі таксама ёсць пісьменнікі еўрапейскага маштабу, але нярэдка галісійцы аддаюць перавагу не ім, а другарадным іспанамоўным аўтарам.

Праблема заваявання свайго чытача існуе і ў фрызскіх пісьменнікаў Галандыі. Больш за 90 працэнтаў фрызаў добра або вельмі добра разумеюць сваю мову, 49 працэнтаў жыхароў буйных гарадоў дома размаўляе па-фрызску (у сельскай мясцовасці — 81 працэнт), аднак трэць фрызаў на сваёй жа мове чытае з цяжкасцю або зусім не чытае. У Фрынсландзе рэгулярна чытае па-фрызску толькі 53 працэнты насельніцтва, а сярод уладальнікаў сямейных бібліятэк 51 працэнт мае кнігі толькі на галандскай мове. І гэта не дзіўна: да сярэдзіны XX стагоддзя выкладанне ў школах Фрысланда вялося выключна па-галандску. Гаворачы пра люксембургскіх пісьменнікаў, якія моваю сваёй творчасці абралі французскую (у Люксембургу 90 працэнтаў насельніцтва лепш за французскую ведае нямецкую мову), даследчык А. Аран неяк быў заўважыў, што жыццё гэтых літаратараў нагадвае "бясконцую бітву з самімі сабой", што іх становішча — "амаль гераічнае".

Не варта ўскладаць справу адраджэння беларускай мовы на плечы адзіна Васіля Быкава, Івана Шамякіна ці Вячаслава Адамчыка (аповесці ў творчасці апошняга, дарэчы, займаюць даволі сціплае месца) — гэтая задача для іх непасільная. Вядома, як той казаў, у жыцці заўсёды ёсць месца для подзвігу. Але ці не пара ўжо адмовіцца ад гэтага лозунгу таталітарных часоў?

**Сяргей ЗАПРУДСКІ,**
**намеснік старшыні ТБМ імя Францішка Скарыны**

Надзённае

Пятрусь МАКАЛЬ

# ПЛАЧ ПА ІМПЕРЫІ



## УСТУП

Мы з надрыўным адчаем дзіцячым,
Гадаванцы былой імперыі,
Як сіроты, пакутна плачам
Па матулі сваёй —
Імперыі...
Мілавала, як вышняй ласкаю,
Нас дзяржаўнай сваёй указкаю.
Не пыталі,
Куды ішлі мы, —
Неслі ў рай самалёты-кілімы...
Мы аплакваем тое, што страчана,
Ды адну захавалі маёмасць,
Што пакінута нам, як спадчына, —
Нашу класавую свядомасць!
Мы,
Вайскоўцы,
Вяскоўцы —
Аратыя,
Песняры,
Млынары
І аратары,
Мы марнеем, мы чэзнем, знікаем,
Мы прышэсця другога чакаем!
Як нам быць без дубіны ахоўнай,
Як нам жыць без папругі вярхоўнай?
На адчаі паставім кропку
Мы, што томімся паасобку,
Зноў рады свае ў лагер злучым,
Падпярэзаны дротам калючым...
Мы аркестравым шматталоссем,
Як заложнікі прывідаў Берыі,
Лямантуем, рыдаем, галосім
Па імперыі,
Па імперыі...

## ПЛАЧ РУСКАМОЎНАГА

Мая судная місія, —
Што цяжэй на вяку яшчэ?
Да знямогі стаміўся я,
Прасвятляючы, апякуючы.
Хоць і смачна харчуюся,
Люльку годнасці гушкаю,
Але ўсё ж такі чуюся
Я залётнаю птушкаю.
Хоць з бывалай я гвардыі,
Хоць замежжа тут блізкае,
Ды чамусьці з пагардаю
Мне паглядамі бліскае.
Моўчкі думаю з гонарам:
Быў я сябрам і донарам...
Сустракалі паклонамі,
А праводзяць праклёнамі.
Здані ўдачы развеяны,
Мне гавораць карэнныя,
Што абыдуцца без мяне яны,
Што яны — суверэнныя!
Робяць жэсты павіныя
Мне з ухмылкаю горкаю,
Што валодаць павінны я
Іх тутэйшай гаворкаю.
Аддаю ім належнае:
Намаганні дармовыя!
Не спасцігну замежнае,
Як і бацькавай, мовы я!
Больш ужо не турбуеце
Вы мяне як мудрэйшага...
Як жа гэтак — ганьбуеце
Годнасць брата старэйшага?
Дзе, не знаю, знаходжуся,
Смуткам зрок мой арошаны.
Я ад плачу заходжуся,
Слёзы — быццам гарошыны.
Вера ў лепшае згінула,
Мушу згортваць паперы я.
На каго ж мяне кінула
Ты, прамаці Імперыя?

## ПЛАЧ ГЕГЕМОНА

Чаму я, пытаеце, плачу?
Падумайце, колькі трачу!
Насіў, нібы пыху царскую,
Годнасць сваю пралетарскую!
Быў я нічым, нішчымны, —
Усім вы мяне зрабілі,
У гонар мой пелі гімны,
Дутую славу трубілі.
Хіба ж не меў я чэсці,
Як самы рухавы і бравы,
Несці ў парадным шэсці
Іконы багоў дзяржавы?
Спаўняў я і акт рытуальны
Заезджых вітаць палякаў,
І нават сам Генеральны
Мяне па плячы паляпаў...
Было, можа, некаму горка,
Што зверху казалі дарадцы:
Мне ўжо геройская зорка
Свеціць — па разнарадцы!...
Быў і ў малым і ў вялікім
У першых радах байцоў я,
А сёння пачварным лікам
Падміргвае мне беспрацоўе!..
Мяне, гегемона, як служку,
Лаюць, што спрыту не стала,
Што я развучыўся стружку
Здымаць на варштаце з метала...
На дзень разоў па дзвесце
Уводзяць мне ў вушы ўпарта,
Што не зашкодзіла б сесці
Зноўку за школьную парту...
Хіба ж не я — падзвіжнік
Сусветнага бунту і брацтва?
Дык што ж, мне ізноў за булыжнік,
Яснавяльможныя, брацца?

## ПЛАЧ АРАТАГА

Гавораць мне, бяры зямлю —
Загон, мурог і градку...
А я прывык, а я люблю
Жыць у дзяржаўным статку!
Гавораць, будзь гаспадаром!
Сказаць, вядома, лёгка.
Ды словы гэтыя, як гром,
Мяне калоцяць дрогка...
Прыходзіла ў руплівы рух
Вясковая акруга,
Калі над намі быў пастух
І ляскатала пуга...
Хто я такі без грамады?
Акцёр, што страціў сцэну.
Куды, скажыце мне, куды
Я свой надзел падзену?
Відаць, ніколі не пазбыць
Мне погляд свой застойны:
Я ж кроку не змагу ступіць,
Як стану самастойны...
Малю, о Божа, прасвятлі,
Як мой сумніў развеяць!
Я сам не ведаю, калі
Ані араць, ні сеяць...
Магчыма, паясней бы твар
І знік бы ў думках вэрхал,
Калі б хоць нейкі цыркуляр
Спусціла неба зверху...
Ды хіба не за ўсё страшней,
Што з-за кавалка хлеба
(Не тое, што было раней!)
Самому думаць трэба?
З маёй садовай галавой
Ці не згублюся ў жыцце?
Таму я сёння сам не свой, —
Як мне не ўзвыць, скажыце!

(Працяг на стар. 4)

Адгалоскі

# ВОСЬ І ДАЖЫЛІ МЫ, ТАВАРЫШ АКУЛАЎ...

Недзе пятага ці шостага лістапада разам з газетамі я выняў з паштовай скрыні і ўлётку, якая пачыналася досыць шматзначна: "Вот и дожили мы до 77-й годовщины Великой октябрьской социалистической революции". Падпісана была ўлётка Мінскім гаркамам партыі камуністаў Беларусі. Прачытаўшы першы радок і подпіс, злавіў сябе на думцы, што нават з простай журналісцкай цікаўнасці мяне не цягне чытаць яе далей.

Відаць, так бы і праскочыла міма, нічога не зачапіўшы ў душы, чарговая гадавіна кастрычніцкіх падзей 1917-га, калі б не адна з перадач Беларускага радыё, а калі больш дакладна, яго мінскай абласной філіі ў раздзеле "Пазіцыя". Вядзе гэтую "Пазіцыю" ўжо працяглы час нехта Яўген Багадзяж, якога не толькі яго ўласныя каментарыі, але і іх стылістыка, нават галасавое, тэмбравае агучванне выдаюць за асобу надзвычай інтэлектуальную.

Калі ў двух словах вызначыць пазіцыю нагаданай "Пазіцыі", дык гэта поўнае непрыняцце дэмакратычных пераўтварэнняў у рэспубліцы, няспсцерпная настальгія па сплыўшых "в лету" часах камуністычнага панавання на прасторах былога СССР. Адным словам, радыёварыянт газеткі беларускіх камуністаў "Мы и время".

На гэты раз "Пазіцыя" прагучала ў эфіры акурат 7 лістапада і была, натуральна, прысвечана кастрычніцкай гадавіне. Не буду спыняцца на каментарыі вядучага, якое складалася з "джэнтльменскага" набору штампаў, выпрацаваных некалі ідэалагічнымі службамі КПСС. І калі я ўзяўся за пяро, дык толькі таму, што на гэты раз у суразмоўцы Я. Багадзяж выбраў сабе прафесара В. Акулава, фігура якога апошнім часам набыла досыць адыёзны характар "змагара" з беларускім дэмакратычным Адраджэннем.

Валянціна Леанідавіча я ведаю не адзін год і, прызнацца, метамарфоза, што адбылася з ім, мякка кажучы, не перастае здзіўляць. Я помню чатырох-пяцігадовай даўнасці яго артыкулы ў "ЛіМе", артыкулы акрэслена дэмакратычнай накіраванасці, помню яго амаль дэманстратыўнае спыненне членства ў КПСС, пра што ён з непрыхаваным гонарам расказваў у нас у рэдакцыі — у той час гэта было досыць мужным учынкам, помню і яго выбарчую кампанію ў часе першых альтэрнатыўных выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі, кампанію, якая грунтавалася на дэмакратычных каштоўнасцях і была падтрымана народным фронтам.

У дэпутаты тады Валянцін Леанідавіч абраны не быў. Праўда, яшчэ нейкі час ён, мяркуючы па яго выступленнях у друку, не здраджваў сваім дэмакратычным перакананням. Помню лімаўскі "круглы стол", на якім В. Акулаў выступаў у ролі самага яраснага апанента таксама запрошанага сюды тагачаснага сакратара Мінскага гаркама КПБ В. Чыкіна. Сёння ж прафесар Акулаў — адзін з самых актыўных аўтараў газеткі "Мы и время", якую рэдагуе той самы В. Чыкін, сакратар ЦК партыі камуністаў Беларусі.

Дык чым жа так палюбіўся беларускім камуністам прафесар Акулаў, што іх так прыцягвае ў ім, чаму выкарыстоўваюць, як казырную карту? Таму што сучасны камуністычны рух на Беларусі надзвычай бедны на інтэлектуальныя сілы і кожная падобная "знаходка" надзвычай цэніцца? Відаць, і гэта мае месца. Але галоўнае, чым дагадзіў камуністам прафесар В. Акулаў, гэта магчымасць выкарыстаць яго як ідэйнага, непрымірымага праціўніка дэмакратычных працэсаў, што набылі ў рэспубліцы неадваротны характар. Вось і ў нагаданай радыёперадачы В. Акулаў усё сваё красамоўства, увесь палемічны "задор скіраваў" на "выкрыццё" беларускіх дэмакратаў, да якіх ён ужывае, на яго думку, іранічны эпітэт — "любомудрые" (што гэта азначае, не ведае, відаць, і сам аўтар). Зусім у духу камуністычнай прапаганды ён гаварыў аб пагрозе, якую нясе Беларусі "капіталістычны захад", але стараўся капнуць яшчэ "глыбей", даводзячы, што наогул заходняя дэмакратыя з яе інстытутамі правоў чалавека — суцэльны падман, а заадно з'едліва ўшчуваючы беларускую інтэлігенцыю за яе нібыта адвечную схільнасць да заходніх каштоўнасцей.

Тут прафесар Акулаў адразу ўзбіўся на любімага канька, даводзячы, што "тлетворному" ўплыву Захаду можа процістаяць толькі Расія, але не Расія дэмакратычная, а саборная, месіянская, ні з кім не параўнальная. Тут Валянціну Леанідавічу, трэба сказаць, здрадзіў класавы інстынкт, бо чым іншым можна вытлумачыць яго сцвярджэнні, што дарэвалюцыйная Расія па эканамічным развіцці, дабрабыце свайго насельніцтва пераўзыходзіла ўсе так званыя развітыя краіны свету. Не забыўся В. Акулаў паўтарыць і настойліва праводзімую ім апошнім часам сентэнцыю, паводле якой царская Расія ніколі не была ні "турмой народаў", ні імперыялістычнай дзяржавай, як сцвярджаюць яе ворагі (бальшавікі?). Ну, ды, відаць, чыкінцы даруюць прафесару гэтыя яго "вольнасці". Тым больш, што расійскія камуністы, на якіх трымаюць раўненне іх беларускія аднадумцы, сёння заігрываюць, ды і ўвогуле ідуць на альянс з самымі цёмнымі, чарнасоценнымі сіламі.

Вас, таварыш Акулаў, гэта не палохае?

**М. ЗАМСКІ**

Перадрук

# ПРЭЗІДЭНТЫ

Падчас выбарчай кампаніі ў Беларусі, а нават яшчэ і сёння можна пачуць, што Аляксандр Лукашэнка — гэта беларускі Жырыноўскі. Не ведаю, як Лукашэнка ставіцца да Жырыноўскага, але ў нічым або амаль у нічым яго не напамінае. Прэзідэнт Беларусі перш за ўсё ні імперыяліст, ні шавініст. Не збіраецца ён так, як Жырыноўскі, дзяліць чужыя дзяржавы ці вырашаць лёс суседніх народаў. З лідэрам Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расеі спалучае яго толькі зацікаўленне парапсіхалагічнай літаратурай і метадамі палітычнай барацьбы за ўладу. На практыцы абазначае гэта, што трэба гаварыць людзям тое, што яны хочуць пачуць. Але каб ведаць, чаго людзі хочуць слухаць, трэба пазнаць, што скрываецца ў іх нутры. Палітычныя здольнасці і інтуітыўнае распазнанне псіхалогіі грамадства гэта замала, каб дасягнуць такі поспех, які атрымаў Лукашэнка на прэзідэнцкіх выбарах. Народ паверыў яму, як нейкаму здаўна чаканаму збаўцу. Заканамернасць харатэрная Усходняй Еўропе гэта ці выпадковасць?

Калі, аднак, шукаць падабенстваў у Лукашэнкі да кагосьці з вядомых палітыкаў, дык найбольш ён згадвае прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсу. Адзін і другі зрабілі ашаламляльную палітычную кар'еру, пра якую можна дагэтуль толькі прачытаць у нейкай казцы. Рабочы і адміністратар калгаса, не кіруючыя раней ніякай дзяржаўнай структурай, рашыліся непасрэдна ўзяць найвышэйшы пост у сваіх краінах. Выбарчую кампанію вялі яны, змагаючыся перш за ўсё з кандыдатамі са свайго лагера (Мазавецкі, Кебіч). Адзін і другі гаварылі пра злодзеяў, якія раскрадаюць дзяржаву, і абяцалі ўсіх іх вылавіць, пакараць і канфіскаваць іхнюю маёмасць. Абяцалі і навесці парадак і справядлівасць, а добрасумленным, высакародным і прафесіяналам даць уладу. Ні Валэнса, ні Лукашэнка, пачынаючы свае кар'еры, не мелі ніякіх праграм, ні канцэпцыі палітычнага ці эканамічнага ладу ў сваіх дзяржавах. На практыцы кіраванне аказалася імправізацыяй, залежнай ад варункаў, якія існуюць у даны момант на палітычнай сцэне. Мяняюць яны людзей, хваляць тое, што ўчора крытыкавалі, і, наадварот, — крытыкуюць тое, што ўчора ўсхвалялі. Усе лозунгі, якія гучалі падчас выбарчай кампаніі, месяц пазней апынуліся на сметніку гісторыі, як нічога не вартыя.

Валэнсу і Лукашэнку перш за ўсё імпануе ўлада. Яна для іх — мэта сама ў сабе. У Польшчы ўжо трэці год вядзецца дыскусія, ці прэзідэнт павінен мець больш улады, чым урад і парламент разам. У Беларусі Лукашэнка мае ўжо ўладу не меншую, чым манарх у сярэдневяковай дзяржаве, але ўсё яшчэ дамагаецца пашырэння паўнамоцтваў так, каб мець магчымасць уплываць на ўсе галіны грамадскага жыцця. Найгоршае тое, што ён не ведае нават, як выкарыстаць уладу, якую дае яму канстытуцыя. Адсутнасць ідэі дзяржаўнага парадку, праграмы гаспадарчай рэформы вядзе да нервовых жэстаў, непрадуманых выказванняў, асмяшаючых высокі пост і беларускі народ у вачах суседзяў. "Беларусь — краіна агуркоў", — пішуць тады маскоўскія газеты.

Шмат што, аднак, адрознівае Валэнсу і Лукашэнку. Валэнса з'яўляецца сімвалам патрыятызму і незалежнасці свае дзяржавы і народа. Гэтага ў ніякім выпадку нельга сказаць пра прэзідэнта Беларусі. У карысць Лукашэнкі можна, аднак, сказаць тое, што гаворыць ён вельмі лагічна і пераканаўча і ніякі беларускі Урбан, цытуючы яго выказванні, не будзе мець нагоды да пастаянных здзекаў з "бацькі народа". Супрацоўнікі прэзідэнта Беларусі маюць менш нагод паясняць грамадству, што іх шэф думаў і што хацеў сказаць. Дарэчы, сам прэзідэнт у сродках масавай інфармацыі не лянуецца расказваць пра свае праблемы. Гэтыя выступленні не маюць высокага ўзроўню абстрактнасці, так характэрнага палітыкам заходніх краін. Мова Лукашэнкі (расейская) — простая і зразумелая, напоўненая зместам слоў і паняццяў, якімі карыстаюцца рабочыя, салдаты, бюракраты, калгаснікі. Выглядае на тое, што прэзідэнт так думае, як гаворыць. Ён на свой спосаб шчыры. Праблемы Беларусі, аднак, надта складаныя, каб рашаць іх паводле калгасных схем.

Прэзідэнт Валэнса толькі на пачатку кадэнцыі хацеў збаўляць эканоміку і раздаваць грамадзянам мільёны. Пасля займаўся ўсім, толькі не гаспадаркай. І за гэта палякі павінны быць яму ўдзячны. Лукашэнка толькі пачаў фінансавыя эксперыменты і зараз жа выклікаў паніку сярод прадпрымальнікаў. Цяжка прадбачыць, што будзе далей, але здаецца, што прэзідэнт Беларусі не збіраецца ісці следам Леха Валэнсы і адмаўляцца ад кіравання гаспадарчымі працэсамі свае краіны.

**Яўген МІРАНОВІЧ**
*(Беластоцкая "Ніва" за 23 кастрычніка 1994 года)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## «ЛАТЫШСКІЯ ДАЙНЫ»

— так называлася літаратурна-музычная вечарына, якая адбылася ў Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Рада таварыства "Беларусь—Латвія" правяла яе, каб ушанаваць памяць Крыш'яна Барона, якога называлі бацькам латышскай нацыі і які 100 гадоў таму назад выдаў першы сабраны ім зборнік народных песень — дайнаў. Латышы былі адратаваны ад гістарычнага бяспамяцтва, святы песень паслужылі духоўнаму адраджэнню, кансалідацыі нацыі, усталяванню дзяржаўнасці латышскага народа.

На вечарыне прагучалі ў арыгінале дайны ў выкананні Віялеты Кавалёвай і Югасі Воўкавай, песня Р. Паўлса на словы Я. Петэрса ў выкананні Ганны Казловай.

Кампазітар Алег Чыркун прапанаваў свае песні на словы Я. Райніса і М. Кемпэ.

Была наладжана выстава медалёў на беларускую тэматыку латышскага скульптара Яніса Струпуліса. Вучні школы мастацтваў N 3 г. Мінска паказалі сваю кампазіцыю міні-габеленаў, пры вырабе якіх творча выкарыстаны латышскія традыцыі.

Вядучым вечарыны быў даўні сябар латышоў — народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін.

С. ПАНІЗНІК, старшыня Рады таварыства "Беларусь—Латвія"

## «ДЫЯГЕН» У МАЛАДЗЕЧНЕ



30 кастрычніка адбылася чарговая прэм'ера Мінскага абласнога драматычнага тэатра (што ў Маладзечне) — трагікамедыі "Дыяген" па п'есе У. Канстанцінава і Б. Рацара. Спектакль атрымаўся ў меру філасафічным (а як жа інакш, калі галоўны герой — старажытнагрэчаскі філосаф Дыяген), трошкі палітычны (падзеі адбываюцца напярэдадні выбараў архонта) і, вядома ж, пачуццёва-лірычны.

Шматлікія гледачы, прыхільнікі тэатральнага мастацтва, змаглі ацаніць і рэжысуру У. Забэлы, і сакавітую мову п'есы (і не дзіва, бо перакладчык — Рыгор Барадулін), і арыгінальную музыку А. Залётнева, і, вядома, яскравую ігру акцёраў, многія з якіх (а найперш В. Кашчэеў і А. Чэчанеў) у той вечар тварылі цуд на сцэне. І калі В. Кашчэеў паспеў ужо, як кажуць, сыграць першую скрыпку ў "Адцуранні" А. Дударава ды ў "Непаразуменні" А. Камю, дык А. Чэчанеў, які дасюль у асноўным выконваў ролі — і не без поспеху — у дзіцячых спектаклях, тут заявіў пра сябе на поўны голас. Акрамя названых артыстаў, добрае ўражанне пакінулі В. Багушэвіч, Т. Грасевіч і А. Слабодчыкава, якія на маладзечанскай сцэне ігралі ўпершыню. Дарэчы, для А. Слабодчыкавай гэты спектакль наогул быў першым у жыцці. Па-свойму цікавыя і запамінальныя вобразы стварылі таксама Р. Цыркін, Т. Юрык і А. Доніна.

Мікола ШАБОВІЧ

*На здымку: В. Кашчэеў (Феміcтокл) і А. Чэчанеў (Крэонт).*

## НАДЗВЫЧАЙ АПЕРАТЫЎНА...

...Выдадзены зборнік матэрыялаў Міжнароднага кангрэсу ў абарону дэмакратыі і культуры "Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя", які быў наладжаны ў траўні г.г. Беларускім ПЭН-цэнтрам на Іслачы, у Доме творчасці. "ЛіМ" на працягу некалькіх месяцаў друкаваў паасобныя выступленні на кангрэсе (В. Быкава, Р. Барадуліна, А. Мальдзіса, В. Каваленкі, А. Разанава і інш.). Дзякуючы намаганням Беларускага ПЭН-цэнтра і асабіста яго віцэ-прэзідэнта К. Шэрмана ўсе матэрыялы ўключна з прынятымі дакументамі і віншавальнымі лістамі выдадзены сёлета Незалежнай выдавецкай кампаніяй "Тэхналогія". Фінансавую падтрымку выданню — як і кангрэсу — аказаў Фонд Сораса—Беларусь.

# ПЛАЧ ПА ІМПЕРЫІ

*(Пачатак на стар. 3)*

## ПЛАЧ БАЛЬШАВІКА

*Если бы*
*выставить в музее*
*плачущего большевика,*
*весь день бы*
*в музее*
*торчали ротозеи.*

*Ул. МАЯКОЎСКІ.*

Не, пацяшаць разявакаў
Я выглядам не прывык.
Ці бачылі вы, каб плакаў
Ленінец-бальшавік?
Мой розум нязменна цвярозы,
Мой нораў нязломны павек,
Ды здрадна бліскучыя слёзы
Дрыготна збягаюць з павек.
Не можа мой люд пакутны
Стрываць невыносных гадзін,
Калі "непарушны, магутны"
Рухнуў у міг адзін...
Гаваруны прайдохі
У мітынгавай гамане
Плююць на сумленне эпохі,
Значыцца, на мяне!..
Пакутую ад бяссоння,
Пракляцце на мне вісіць,
Што ўсіх вас, хто шкодзіць і сёння,
Не здолеў тады раскусіць...
Каб сцішыць людскія енкі,
Каб улагодзіць сяброў,
Ах, як бы паставіў да сценкі
Я трох белавежскіх зуброў!
А тых, хто ў натоўпах ім пляскаў,
За дрот бы, за лагерны дрот:
Вось роба і кірка, — будзь ласкаў,
Як след папрацуй на народ!
Здаецца, што ў вушы мне ваты
Напхалі, каб пільнасць забіць...
Я ведаю, хто вінаваты,
Я ведаю, што мне рабіць!
Мы плачам, але не бядуем,
Усё ж, як прыхільнікі дзей,
Збудуем,
Збудуем,
Збудуем
Мы статкавы рай для людзей!
Яшчэ мы зямныя прасторы
Грымотным агнём скаланём.
Не марна ж і выстрал "Аўроры"
Мне трызніцца ноччу і днём.

## ПЛАЧ КУХАРКІ

Ці ж я не сціскала, як штангу,
Краіны рычаг рулявы, —
Кухарка дзяржаўнага рангу,
Якую ўзвялічылі вы.
Спасцігнуўшы смак рытуала,
Вярхоўнай сваёй праваты,
Я гмахам такім кіравала,
А вы мяне зноў да пліты?
Няўдзячныя, як вам не сорам!
Усе вы, хто быў ля катла,
Вы, спеўшыся, славілі хорам,
Што з вамі я ў згодзе пякла.
Каб песціць свой гонар законны,
Я маю нямала падстаў,
Ну, хоць бы, што нож мой кухонны
Аховаю карнаю стаў!
Падцята разумнікаў купка
Сталовую кемнасцю баб,
Калі набыла мясарубка
Агульнасаюзны маштаб.
У гонар вялікай дзяржавы
Закасвала я рукавы,
Нястомна гатуючы стравы,
Якія заказвалі вы...
І, дозы прымаючы ціха,
Здавольваўся кожны сваім:
Адным — асятровая юшка,
А страх печкуровы — другім!..
Нарэшце згадаць я дазволю,
Каб вусны знямелі ў прыдзір:
Я спраўна выконвала ролю,
Што вызначыў сам правадыр!
Ну, як без кухаркі наверсе,
Абраныя намі багі?
Вы мудрасці даўняй паверце:
Вяртаецца ўсё на кругі...
Дрыжыце, празорцы святыя,
Жагнаючы здань караля:
Пабачыце вы — ад пліты я
Падамся ізноў да руля!

## ПЛАЧ ПЕСНЯРА

Я ліраю сваёй нястомнаю
За бегам часу паспяваў,
Эпоху нашу векапомную
Абагаўляў і апяваў.
Мне ў ладкі пляскаў люд расчулены,
Як прадракальніку дабра,
Дзяржаўнай ласкаю атулены,
Цягнуў я ношу песняра.
Нутром, як улюбёнец публікі,
Я адчуваў імперскі дах,
Без віз лунаў ва ўсе рэспублікі
Мой спеў, як чарадзейны птах.
Я, дасягнуўшы меднай сталасці,
Згубіў, што ўсё жыццё збіраў.
Ах, што цяпер са мною сталася?
Свой звонкі голас надарваў!
Хоць робіш ты рывок напружаны,
Грашовы беручы рубеж,
Народны ці пакуль заслужаны,
А лужыны — не абмінеш...
Да вышыні душу прывязвае,
Хто слухае і хто пяе.
Ці ж музыку не той заказвае,
Хто шчодра плаціць за яе?
Скажы мне шчыра, песня трубная,
Акрыленая пекнатой,
Няўжо цябе з'ядае згубная
Туга па клетцы залатой?
Мне доля горкая адкроена
Па волі д'ябла-хітруна.
Дык вось чаму на плач настроена
Мая напятая струна!
Ах, дзе сустрэць усмешку ветлую,
Ламаю марна галаву.
Мне б славіць будучыню светлую,
А я рыдаю, я раву!..

## ПЛАЧ ВАЙСКОЎЦА

Вядома, вайскоўцу нягожа
Плакацца слёзна ў рукаў.
Ды ён прамаўчаць не можа,
Бо гэткага не чакаў...
Я ратаваў ад страху
Не толькі айчынны ачаг,
Веліч імперскага даху
Стаяла ў мяне на плячах.
Бравыя нашы хлопцы,
Што там ні гавары,
Пальцы на атамнай кнопцы
Трымалі з зары да зары.
Праўды аспрэчваць не станем:
Звыкшыся пакрысе,
Глядзелі на нас з трапятаннем
І людзі, і нацыі ўсе!
Не пагарджалі намі
Вяльможнага рангу паны,
З намі, нібы з панамі,
Гаворку вялі яны...
Нацэленыя, як алоўкі,
У розныя кропкі зямлі,
Д'яблавы боегалоўкі
Галоўным у спрэчках былі!
А сёння ў нас запыт слушны:
Чым жа змагацца са злом,
Калі, як і наш "непарушны",
Боегалоўкі — на злом?
Бачыце, што я трачу,
На чым непахісна стаю?
Не за сябе плачу,
А за дзяржаву сваю!

## ЭПІЛОГ

Дзеці ніў і дзеці цэхаў
Плачам горка — проста жах:
Над галовамі паехаў
Наш імперскі думны дах!
Енчым, быццам завываем,
Быццам торгаем званы,
Плачам, быццам зазываем
Духаў блізкай даўніны...
Ад краіны да краіны,
Як разводдзе на зямлі
Рэкі, рэчкі, ручаіны
Слёз гарачых пацяклі.
У слязах ты, краю родны,
Як ахвяра волі злой.
Хто суцішыць енк народны
Па імперыі былой?
Божа, дай нам суцяшэнне —
Свой нябесны валідол...
Галашэнне, галашэнне
Скаланае высь і дол.
Скаланае, як цунамі
Небывалае бяды...
Але — стоп! Не плача з намі
Хто з айчыннай грамады?
Ах, як бы вы горка ні плакалі,
Ды з вамі раўці няма калі
Унуку майму, першакласніку,
Нязведаных скарбаў уласніку.
Журбу неадчэпную вытуры,
За ёю замкнуўшы дзверы,
Калі жаўтаротыя літары
На ножкі ўстаюць на паперы...
Ім поступ упэўнены мроіцца,
Літары, як немаўляткі,
Стараюцца ў слова пастроіцца —
Хоць пляскай за ўпартасць у ладкі!
Ці ты адчуваеш, дарэчы,
Мой жэўжык унучак Алёша,
Якая табе на плечы
Легла вялікая ноша?
У пошуку хто суцішыцца,
Крануўшы пісьменства бязмежнасць?
Пішацца,
Пішацца,
Пішацца
Слова адно:
— НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ!
Пакуль яна хай папяровая,
Але яна адбудзецца —
Мроя хлапца пурпуровая
Збудзецца,
Збудзецца,
Збудзецца.

Прэм'ера

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, «АГАТКА»!

Прэм'ера оперы ў эфіры... Дык жа не толькі прэм'ера, але і адкрыццё! Адкрыццё праз 210 гадоў, на якое, мабыць, не кожны са слухачоў спадзяваўся. Зрэшты, лімаўскі чытач да гэтага быў падрыхтаваны шэрагам публікацый пра гісторыю нясвіжскай оперы Я. Д. Голанда "Агатка" на лібрэта М. Радзівіла, пра вяртанне яе на Беларусь, пра запіс "Агаткі" на радыё і, нарэшце, — анонсам пастаноўкі оперы ў музычным радыёэфіры. І вось ён, плён! Вельмі тактоўна і арыгінальна спалучаны асветніцкі аповяд пра шэдэўр беларускай музычнай спадчыны з драматычнымі калізіямі ўласна лібрэта, сюжэта гэтай камедыйнай п'есы. Слухаеш з задавальненнем і тое, што адбываецца, і тое, што з добрым прыжмурам вока мовіць Мацей Радзівіл у выкананні Ю. Авяр'янава.

Вельмі ўдала знойдзена спалучэнне пеўчых галасоў з галасамі драматычных артыстаў: амаль не адчуваецца, што "пяе не той, хто іграе", — у гэтым чуласць рэжысёра Ю. Авяр'янава ды гукарэжысёра Э. Мартэнса не толькі да галасоў, а і да тэмпераментаў артыстаў. У спектаклі ёсць працяг тых знаходак, якія купалаўцы набылі ў "Ідыліі" — ненадакучлівы іранічны прыжмур, з якім сёння сочым за прыгодамі ды страсцямі герояў далёкай мінуўшчыны. Асабліва сакавітыя і каларытныя — Л. Лют ды З. Белахвосцік (Агатка), Г. Маляўскі (Пан, Кароль); сапраўды творчыя работы ў Н. Галеевай ды М. Захарэвіч (Плацюхова), В. Скорабагатава ды В. Белахвосціка (Валенты), Р. Палішчука ды А. Уладамірскага (Антак Цалка), В. Кавальчука ды Г. Аўсянікава (Піяшка)... Годна, на маю думку, гучыць аркестр пад кіраўніцтвам А. Лапунова.

У оперы і ўсёй перадачы добрая сюжэтная пабудова і распрацаваныя характары, узбагачаныя галасамі выканаўцаў вакальных партый і роляў. Словам, у пастаноўцы "Агаткі" выявілася адчуванне паэтыкі радыётэатра, што здараецца ў нашым эфіры не так часта.

Вядома, слухаючы оперны спектакль па радыё, кожны ўяўляе сабе аблічча персанажаў і ўсю атрыбутыку надта ж асабіста. І мае першыя ўражанні — гэта толькі эмацыянальны водгук; магчыма, знаўцы музычнай спадчыны і опернага мастацтва прааналізуюць з часам гэты твор больш грунтоўна. Але, мне здаецца, нікога не можа не ўзрадаваць такая надзвычайная падзея ў культурным жыцці Беларусі — адна-ўленне маштабнага музычнага твора, пра які мы раней нават і не ведалі. Я ўпэўнены: той, хто быў ля радыёпрыёмнікаў 2 лістапада, не пашкадаваў пра пару гадзін "ахвяраванага" часу на "Агатку", бо адчуў сябе багацейшым на эмацыянальныя, эстэтычныя ўражанні і гістарычныя веды. Мне хацелася проста апладзіраваць тым, каму мы павінны быць удзячныя за "Агатку" ў эфіры. Назаву тут і даследчыцу В. Дадзіёмаву (дарэчы, дачка нашага незабыўнага калегі, пісьменніка У. Дадзіёмава), і выканаўцаў, якіх ужо згадваў. Вялікую справу зрабілі аўтар сцэнарыя перадачы-прэм'еры Л. Мітаковіч, рэжысёр Ю. Авяр'янаў, гукарэжысёр Э. Мартэнс. Добрым саюзнікам для ўсіх быў, безумоўна, перакладчык лібрэта У. Мархель.

"Чуеце?" — звяртаецца да нас М. Радзівіл з 200-гадовай даўніны, запрашаючы прыслухацца да радыёдзеі. Адказваем яснавяльможнаму ў канцы XX стагоддзя: "Пачулі!"

Барыс БУР'ЯН,
радыёслухач і літаратар

# «ДЗЯРЖАВА ЗАЎСЁДЫ БЫЛА ДРЭННЫМ ГАСПАДАРОМ»...

## З ПРЭЗІДЭНТАМ САЮЗА ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У. КАРАГІНЫМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ «ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА» М. ЗАМСКІ.

**М. ЗАМСКІ: — Мне хочацца, Уладзімір Мікалаевіч, на пачатку нашай гаворкі зрабіць невялічкі экскурс у філалогію. Ведаеце, як слоўнік рускай мовы Ожагава, выдадзены ў 1953 годзе, тлумачыў слова — па-руску "предприниматель"? — прадпрымальнік. "Капиталист, владеющий предприятием". Мне было цікава гэта прачытаць, бо ў масавай свядомасці слова "капіталіст" дагэтуль успрымаецца, мякка кажучы, з негатыўным адценнем. Дзесяцігоддзямі ж камуністычная прапаганда ўбівала ў галовы людзей, што "капіталіст" — сінонім слова "эксплуататар", а, значыць, вораг працоўнага народа, а з ворагам вядома як трэба абыходзіцца. Цікава, што ў тым жа слоўніку радком вышэй давалася тлумачэнне і слова "предприимчивый": "чалавек, які ўмее прадпрыняць нешта ў патрэбны момант, знаходлівы, вынаходлівы". Якое з гэтых тлумачэнняў вам бліжэй?**

**У. КАРАГІН:** — Я б сказаў, што адно вынікае з другога. Чалавек не прадпрымальны ніколі, на маю думку, не стане капіталістам. Гэта аксіёма. Хоць, дадамо, капіталіст — паняцце намнога шырэйшае, чым прадпрымальнік. Што датычыць яго эксплуататарскай сутнасці, дык дазвольце заўважыць, што мала дзе ў свеце так эксплуатавалі працоўнага чалавека, як у нас пры сацыялістычным ладзе. У СССР рабочы ў якасці розных выплат атрымліваў (і цяпер атрымлівае) толькі 12—15 працэнтаў кошту выробленай ім прадукцыі, у той час як у развітых капіталістычных краінах гэты паказчык складае 80—85 працэнтаў. Але я, здаецца, узбіўся на каляіну "политграмоты", якую ніколі не любіў. Скажу толькі ў дадатак, што слова прадпрымальнік у мяне перш за ўсё асацыіруецца з такімі паняццямі, як энергічнасць, ініцыятыўнасць, знаходлівасць, уменне хутка прымаць рашэнні, адлаведным чынам рэагаваць на розныя жыццёвыя калізіі. Магу вас запэўніць, што наш Саюз прадпрымальнікаў аб'ядноўвае людзей, якім уласцівыя менавіта такія якасці.

**— Мы яшчэ пагаворым пра дзейнасць вашага саюза, а пакуль што я дазволю сабе задаць вам некалькі пытанняў, так бы мовіць, абстрактна-філасофскага плана, якія, думаю, цікавяць чытачоў "ЛіМа". Сёння ў асяродку інтэлігенцыі, значная частка якой, прама скажам, цяжка, нават хваравіта ўспрымае ўсе навацыі, звязаныя з усталяваннем рыначнай эканомікі, не заціхаюць спрэчкі аб месцы чалавека, асобы ў грамадстве, якое грунтуецца на нязвычных нам каштоўнасцях: прагматызме, чыстагане, занядбанні духоўнага пачатку ў чалавеку, у грамадстве, дзе ўсё прадаецца і купляецца: любоў, вернасць, адданасць, сумленне і гонар, дзе ўсё ахвяруецца ў імя "залатога цяльца". Гэта — па-першае. Па-другое, шырока бытуе думка, што прадпрымальнікам трэба нарадзіцца, пры гэтым маецца на ўвазе, што, маўляў, такія людзі ад пачатку не вельмі абцяжараны сумленнем і сорамам. Ва ўсякім разе нам, "нармальным" людзям, выхаваным на лепшых узорах савецкай літаратуры, "мараль" таго ж прадпрымальніка не зразумець ніколі. Можа, я крыху ўтрырую, але падобныя развагі мне неаднойчы даводзілася чуць.**

— Што і казаць, матэрыі вы закранаеце вельмі няпростыя. Вы ведаеце, я гатовы ў нечым з вамі пагадзіцца. Сапраўды, я не ведаю ніводнага літаратурнага твора, дзе б станоўчым героем быў купец ці банкір. Калі яны там і прысутнічаюць, дык толькі ў адмоўным плане. Знайсці тлумачэнне гэтаму я не магу. Тую ж сучасную Англію, па вялікім рахунку, стварыла купецтва. Нямала зрабілі для станаўлення Расіі, як сусветнай дзяржавы, рускія дарэвалюцыйныя купцы. Варта ўспомніць хоць бы імёны Марозава, Мамантава, Траццякова і многіх іншых. Калі гаварыць пра тыя асабістыя сімпатыі, дык з антыподаў — Абломаў і Штольц — мне бліжэй і сімпатычней другі. Я не ўспрымаю абломаўшчыны і лічу, што менавіта на штольцах, людзях практычных і мэтанакіраваных, трымаецца прагрэс, трымаецца грамадства, калі яно хоча забяспечыць сваім членам прыстойнае існаванне.

**— А як быць з духоўнасцю?**

— А хто вам сказаў, што штольцам процілаказана духоўнасць, што яны не здольныя на прыгожыя ўчынкі, на самаахвярнасць і высакароднасць? Вам што, пералічыць вядомыя на ўвесь свет першакласныя тэатры, сімфанічныя аркестры, выдатныя універсітэты і карцінныя галерэі, якія існуюць у капіталістычных краінах дзякуючы тым жа штольцам?

Я шмат паездзіў па свеце і магу засведчыць, — у той жа Германіі, Францыі, Злучаных Штатах Амерыкі капіталістычны лад не вынішчыў у людзях ні спагады, ні дружалюбнасці, ні гатоўнасці дапамагчы ў бядзе. Як гэта ні горка ўсведамляць, але, дальбог, з такімі праявамі там сустракаешся часцей, чым у нас.

**— Што за дзіва! Пры хранічнай нястачы ў чалавека псуецца характар. Адсюль на нашых вуліцах столькі людзей з панурымі, змрочнымі тварамі.**

— Што датычыць вашай з'едлівай заўвагі, што бізнесменам, з яго "пэўнымі якасцямі", трэба нарадзіцца, дык скажу пра сябе. Бацька мой быў вайскоўцам, з якім наша сям'я нямала пакалясіла па краіне. Я скончыў філасофскае аддзяленне гістфака Белдзяржуніверсітэта. Адначасова наведваў заняткі ў двух інстытутах — медыцынскім і політэхнічным. Магу дадаць да гэтага, што з першых студэнцкіх гадоў быў членам будаўнічых атрадаў, дзе набыў спецыяльнасці цесляра і бетоншчыка. Гэта мы ўзводзілі карпусы мінскіх заводаў "Гарызонт" і "Тэрмапласт". Шмат гадоў запар ездзілі на будаўніцтва БАМа. Дарэчы, там, на БАМе, мне пашчасціла блізка пазнаёміцца з вядомым эканамістам акадэмікам Аганбегянам, пасля шматлікіх сустрэч з якім у мяне, відаць, і зарадзілася цікавасць да эканамічнай навукі, прынамсі, да рыначнай эканомікі.

Вось і ўвесь багаж, з якім я прыйшоў у прыватнае прадпрымальніцтва.

**— І з чаго вы пачыналі? Як і большасць вашых калег, з гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасці? Купі-прадай?**

— Вы знаходзіцеся ў палоне звычных ужо стэрэатыпаў аб прыродзе бізнесу. У канцы 1987 года з'явіўся ініцыятарам стварэння першага ў рэспубліцы недзяржаўнага часопіса "Беларуская камерцыйная хроніка". Гэта сёння можна амаль без усякіх праблем выдаць любую газету ці часопіс — былі б сродкі! А тады давялося літаральна лбом прабіваць сцяну, прайсці дзесяткі інстанцый. Праз год быў створаны Саюз навукова-тэхнічных кааператываў, старшынёй якога абралі мяне. Дарэчы, з самага пачатку мяне прыцягвала прадпрымальніцкая дзейнасць на ніве навукова-тэхнічнага абслугоўвання насельніцтва. Асноўныя напрамкі дзейнасці Асацыяцыі дзелавога супрацоўніцтва "Гарант", якую я заснаваў некалькі гадоў назад і прэзідэнтам якой з'яўляюся, — вучэбна-кансультатыўная і інфармацыйная работа па праблемах развіцця бізнесу, падрыхтоўка і перападрыхтоўка спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі і г. д.

Але я крыху забег наперад. У тым жа 1988 годзе быў арганізаваны і Саюз кааператываў БССР, які таксама ўзначаліў я.

**— Помню эйфарыю, якая авалодала часткай грамадства, калі, як грыбы пасля цёплага дажджу, пачалі з'яўляцца кааператывы з самым розным "начыннем" — па вырабе кандытарскіх і іншых прысмакаў, пашыве адзення, абутку, трыкатажу. Тады ўпершыню з'явіліся прыватныя кафэ і рэстараны, якія ўражвалі загартаваных "общепитом" грамадзян і асартыментам, і якасцю абслугоўвання.**

**Колькі тады было размоў аб надыходзе новага НЭПа, які, як і яго папярэднік на пачатку дваццатых гадоў, выцягне эканоміку з багны разрухі. Зараз гэта смешна ўспамінаць, але каб задаволіць сваю журналісцкую цікаўнасць да людзей, што кінуліся тады, як цяпер зразумела, у самы прымітыўны бізнес, я папрасіў нашых рэдакцыйных дам прынесці мне частку свайго гардэроба, ад якой бы яны хацелі пазбавіцца, і панёс тыя некалькі сукенак, кофтачак, жакетаў прадаваць на Камароўскі рынак, папярэдне ўзгадніўшы сваю авантуру з мясцовым міліцэйскім пастом на выпадак узнікнення магчымых канфліктаў у сувязі з маім паяўленнем сярод гандлюючага народу (гандляры тут адзін аднаго ведалі і сферы "ўплыву" іх на рынку былі строга падзелены).**

**Нічога я тады не прадаў, і, не таму, што тавар быў благі, а таму, што абсалютна не валодаў навыкамі прадаўца, быў у гэтым сэнсе поўным няўмекам. Пажылая цыганка, што побач небеспаспяхова гандлявала скуранымі курткамі, павучала мяне: "Не стой, как столб, громко крычи — иди ка мне, дарагая, пасматры, какой тавар, дёшава прадам..."**

**Мо тады я ўбачыў упершыню, што такое на справе прыватная ініцыятыва, якія энергія і захопленасць нараджаюцца ў людзях, зацікаўленых у сваёй працы. І як усё гэта кантраставала з усім, што мы кожны дзень наглядалі, скажам, у тым жа дзяржаўным гандлі. Ды нядоўга тым кааператывам было наканавана жыць, неўзабаве адзін за адным яны пачалі знікаць...**

— Дзяржава прымяніла да іх выпрабаваны сродак — задушыла падаткамі. І мала хто змог у гэтых умовах выжыць. Сёння ў нашай краіне эканоміка на 95 працэнтаў складаецца з дзяржаўнай уласнасці. І гэта ў той час, калі ўвесь цывілізаваны свет жыве ў сістэме адносін, якія грунтуюцца на двух базавых прынцыпах: прыватнай уласнасці і канкурэнцыі. Пакуль наша ўлада будзе трымаць сябе манапалістам ва ўсіх сферах эканомікі, з крызісу нам не выкараскацца.

Разам з тым, я б не стаў глядзець на становішча з развіццём прыватнай ініцыятывы ў нашай эканоміцы так песімістычна. Як бы там ні было, але прыватны бізнес на Беларусі прабівае сабе дарогу. Вось вам некалькі фактаў. Наш Саюз прадпрымальнікаў, а гэта, падкрэслю, недзяржаўная арганізацыя, якая аб'ядноўвае сёння больш за 16 тысяч членаў — прыватных фірм і кампаній, акцыянерных таварыстваў і таварыстваў з абмежаванай адказнасцю (вытворчасць і гандаль), банкаў, страхавых кампаній, навучальных і кансультацыйных цэнтраў. Дадайце да гэтага 180 арэндных прадпрыемстваў і дзяржаўных прадпрыемстваў, што перайшлі на арэнду, якія ўваходзяць у Саюз прадпрымальнікаў-арандатараў.

**— Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка, калі заходзіць гаворка аб прыватным прадпрымальніцтве, паўтарае адну і тую ж думку, што прызнае прыватны бізнес толькі ў сферы матэрыяльнай вытворчасці — вырабе тавараў масавага спажывання, арганізацыі бытавых паслуг насельніцтву, усе іншыя сферы прымянення прыватнай ініцыятывы, на яго думку, звязаны з незаконным абагачэннем прадпрымальнікаў.**

— Так, вядома, наш прэзідэнт мае рацыю, падкрэсліваючы неабходнасць інвеставання прыватнага капітала ў сферу матэрыяльнай вытворчасці. Калі мець на ўвазе наш саюз, дык 94 працэнты яго членаў — прадпрымальнікі, якія валодаюць рознымі прадпрыемствамі і аб'яднаннямі ў розных галінах эканомікі і культуры. Праўда, частка іх спалучае гэта з гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасцю, як, напрыклад, вядомая ў рэспубліцы фірма "Дайнова", якая ў значнай ступені забяспечвае прамысловасць краіны металам і іншымі стратэгічнымі таварамі. Без металу, які пастаўляе "Дайнова", сёння не маглі б працаваць ні Мінскі трактарны завод, ні МАЗ, ні многія іншыя прадпрыемствы. Праз прыватныя камерцыйныя структуры ў рэспубліку пастаўляецца цяпер 50 працэнтаў нафты, 80 — цукру, значная частка абутку, алею і г. д.

**— На абывацельскім узроўні гэтым і тлумачыць няспынны рост цэн на энерганосьбіты, прадукты харчавання і прамысловыя тавары, на якіх "камерсанты наживаюцца".**

— У корані памылковая думка. Менавіта камерсант, а не дзяржаўны чыноўнік зацікаўлены ў тым, каб купіць той тавар за мяжой па больш таннай цане і гэтым самым забяспечыць сабе рынак збыту, перамагчы магчымых канкурэнтаў. Прывяду такі прыклад. Як вядома, частку збожжа, а менавіта пшаніцу, Беларусь купляе ў Казахстане па, так сказаць, дзяржаўных каналах. Купляе па 127 долараў за тону. Мы, калі б нам дазволілі, маглі б забяспечыць рэспубліку больш танным збожжам. У тым жа Казахстане ёсць пшаніца, якую тут гатовы прадаць па 25 долараў за тону, а некаторыя гатункі — і па 15. Але за наяўныя грошы. Тое, чаго не можа зрабіць дзяржава.

Я не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што цесныя сувязі, пастаянны кантакт дзяржаўных і камерцыйных структур толькі на карысць краіне. Калі Латвія збіралася жорстка ўстанаўліваць свой суверэнітэт і выходзіць з рублёвай зоны, прэзідэнт краіны, які адначасова з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам так званага "Клуба-21", што аб'ядноўвае самых буйных бізнесменаў, сабраў іх і спытаў: "Колькі вам трэба грошай, каб за два тыдні скупіць у памежных краінах столькі і столькі нафтапрадуктаў, металу, збожжа і іншых стратэгічных тавараў? Грошы былі адразу знойдзены — і з бюджэтных сродкаў, і з крэдытаў, узятых за мяжой. І што вы думаеце? Пастаўленая перад бізнесменамі прэзідэнтам задача была выканана: неўзабаве ў Латвію патокам пайшла і нафта, і метал, і газ, з якімі краіна змагла пратрымацца паўгода, пакуль не завязала новыя эканамічныя сувязі на Захадзе. Больш таго, частку той жа расійскай нафты латышы з выгадай для сябе перапрадалі ў трэція краіны.

**— Я вельмі ўдзячны вам, Уладзімір Мікалаевіч, за запрашэнне паехаць разам з вамі ў Мазыр на сустрэчу з мясцовымі прадпрымальнікамі. Многае з убачанага там па-сапраўднаму ўразіла. Хоць бы той рынак з навенькімі — з іголачкі — драўлянымі павільёнамі і схаванымі ад дажджу гандлёвымі радамі, іншым абсталяваннем, неабходным для сучаснага рынку. Пабудаваны ён мясцовай прыватнай будаўнічай фірмай, якая плануе яшчэ ўзвесці тут склады, платную аўтастаянку і іншыя аб'екты. Мэр Мазыра Іван Данілавіч Замолка, які суправаджаў нас, помню, прызнаўся, што за кошт уласнага бюджэту горад такі рынак (адзін з лепшых у рэспубліцы, як сказаў ён) ніколі б не пабудаваў. Спадабаўся і невялікі прыватны лесазаводзік, які свае распіловачныя матэрыялы пастаўляе аж у Германію і Ірландыю.**

— Але вы чулі з іх вуснаў і скаргі на перашкоды, якія ім ці не штодзень даводзіцца пераадольваць. Так, вы маеце рацыю, гаворачы, што А. Лукашэнка патрабуе неадкладнага пераарыентавання ўсяго прыватнага бізнесу на вытворчасць тавараў масавага ўжытку. Пра гэта ён, дарэчы, гаварыў і на нашай асамблеі дзелавых колаў, якая праходзіла летам гэтага года. Але 20 верасня з-пад пяра прэзідэнта з'яўляецца Указ за нумарам 114 пад даволі няўцямнай шапкай: "Аб мерах па насычэнні рынку рэспублікі таварамі і выкараненні неабгрунтаванага росту цэн на іх". Здаецца, што тут запярэчыш? Але пунктам трэцім гэтага ўказа забараняецца ўсім дзяржаўным прадпрыемствам, аб'яднанням і арганізацыям адпускаць сваю прадукцыю "суб'ектам гаспадарання недзяржаўных форм уласнасці". Дасведчаны чалавек адразу ўбачыць у гэтым параграфе міну, падкладзеную пад прыватны бізнес, які і займаецца, прынамсі, вытворчасцю тавараў масавага спажывання. Вось вам пераканаўчы прыклад. Да апошняга часу амаль 300 прадпрыемстваў малога бізнесу, якія займаліся шыццём адзення і карысталі-

*(Працяг на стар. 12)*

## КАЛЯНДАР ЛІСТАПАДА

**2 лістапада — 125 гадоў з дня нараджэння беларускага археолага, краязнаўцы, гісторыка, заснавальніка Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея Іосіфа СТАБРОЎСКАГА (1869—1968).**

**3 лістапада — 80 гадоў з дня нараджэння Паўла ЛЕВАНОВІЧА (1914—1943). З нарысамі і апавяданнямі выступаў з 1934 года. Пісаў таксама вершы. Выдаў кнігу апавяданняў для дзяцей "Дружба" (1938). Рукапіс зборніка апавяданняў, падрыхтаваны ў 1940 годзе, загінуў у вайну.**

**6 лістапада — 110 гадоў з дня нараджэння мовазнаўцы і пісьменніка, акадэміка Язэпа ЛЁСІКА, ахвяры сталінізму (1884—1940).**

**6 лістапада — 75 гадоў з дня нараджэння Мікалая ГАРУЛЁВА (1919—1980). Пісаў на рускай і беларускай мовах. Выступаў у галіне паэзіі, прозы, драматургіі, займаўся перакладчыцкай дзейнасцю.**

**7 лістапада — 180 гадоў з дня нараджэння мовазнаўцы, фалькларыста Станіслава МІКУЦКАГА (1814—1890). З 1853 года збіраў на Літве і Беларусі народныя гаворкі. З сабраных матэрыялаў у 1855 годзе склаў слоўнік на 2010 слоў, якія растлумачыў і праілюстраваў прыкладамі з беларускіх народных песень, прыказкамі і прымаўкамі. У 1853 годзе апублікаваў "Беларускія песні і загадкі, запісаныя ў Віцебскай губерні ў маёнтку Зябкі Дрысенскага павета". У 1854 выйшла праца "Беларускія словы".**

**8 лістапада — 210 гадоў з дня нараджэння гісторыка, археолага, даследчыка Вялікага княства Літоўскага Тэадора НАРБУТА (1784—1864). Апублікаваў шэраг гістарычных крыніц, у тым ліку "Хроніку Быхаўца" (1846). Збіраў этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы, займаўся археалагічнымі раскопкамі. Аўтар праекта Бабруйскай крэпасці, удзельнік яе будаўніцтва.**

**9 лістапада — 155 гадоў з дня нараджэння польскага гісторыка, публіцыста Тадэвуша КОРЗАНА (1839—1918). Родам з Мінска. У 1912 годзе апублікаваў успаміны "Мой дагістарычны дзённік". Адзін з іх раздзелаў "Мінск у сярэдзіне XIX стагоддзя" надрукаваў у "Мінскім календары" (1908).**

**10 лістапада — 245 гадоў з дня нараджэння беларускага і польскага драматурга Мацея РАДЗІВІЛА (1749—1800). Напісаў лібрэта аперэт "Агатка..." (1784) і "Войт альбанскага сялення" (1786).**

**16 лістапада — 80 гадоў з дня нараджэння Язэпа СЕМЯЖОНА (1914—1990). Перакладаў з англійскай, французскай, нямецкай, італьянскай, польскай, чэшскай, славацкай, рускай, літоўскай і іншых моў, выступаў з артыкуламі па праблемах мастацкага перакладу.**

**18 лістапада — 70 гадоў з дня ўтварэння Віцебскай філіі "Маладняка", існавала да лістапада 1928 года.**

**20 лістапада — 95 гадоў з дня нараджэння Міхася КЛІМКОВІЧА (1899—1954). Аўтар тэксту Дзяржаўнага гімна БССР (1944). Друкаваўся з 1928 года. Найбольшыя дасягненні ў галіне драматургіі. Апрацоўваў народныя казкі, выдаў кнігу апавяданняў "Лясное возера" (1946), даследаваў беларускую літаратуру.**

**20 лістапада — 85 гадоў з дня нараджэння Паўла СУШКО (1909—1974). Друкавацца пачаў у 1938 годзе ў заходнебеларускай перыёдыцы. Творы змешчаны ў шэрагу калектыўных зборнікаў.**

**25 лістапада — 60 гадоў з дня нараджэння мовазнаўцы, доктара педагагічных навук Леаніда ПАДГАЙСКАГА (1934—1980). Аўтар і сааўтар падручнікаў па беларускай мове для пачатковых класаў і метадычных дапаможнікаў па выкладанню беларускай мовы ў школе.**

**29 лістапада — 135 гадоў з дня нараджэння беларускага, украінскага і рускага вучонага-славіста, пісьменніка Мікалая ЯНЧУКА (1859—1921). Першы на навуковай аснове пачаў збіраць, даследаваць і апрацоўваць беларускі музычны фальклор.**

**30 лістапада — 95 гадоў з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Міхася ЛЫНЬКОВА (1899—1975).**

## НАШЫХ ВЕДАЮЦЬ...

**У Славакіі, у горадзе Нітра, прайшоў 4-ы "круглы стол" кіраўнікоў нацыянальных і цэнтральных сельскагаспадарчых бібліятэк Злучаных Штатаў Амерыкі, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У другі раз у падобным мерапрыемстве прымаў удзел і дырэктар Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэкі Уладзімір Голубеў. Абмяркоўваліся праблемы стварэння інтэграцыйных бібліятэчна-інфармацыйных сістэм, выкарыстання міжнародных сродкаў камп'ютэрнай сувязі, паляпшэння кнігаабмену і іншыя.**

**Нацыянальная сельскагаспадарчая бібліятэка ЗША падарыла беларусам надзвычай каштоўную экспертную базу дадзеных па ландшафтным земляробстве на аптычным кампакт-дыску.**

На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

# ПРА ХЛОПЦАЎ ЖЫВУЧЫХ

Кнігі, пра герояў якіх мне хочацца паразважаць, ведаюць чытачы не толькі майго пакалення, але і людзі старэйшыя і намнога маладзейшыя — сённяшнія хлопчыкі і дзяўчынкі. Школьная праграма, на шчасце, не абышла ўвагай творчасць аднаго са старэйшых гомельскіх пісьменнікаў Івана Сяркова, аўтар шырока вядомых аповесцей "Мы з Санькам у тыле ворага", "Мы — хлопцы жывучыя", "Мы з Санькам — артылерысты". Я і сам, прызнаюся, некалі зачытваўся першымі дзвюма аповесцямі, а трэцюю, заключную кнігу трылогіі, меў магчымасць прагледзець у рукапісе, сказаць сваё слова пра гэты твор. Чытэльная мова з непрыхаванай іроніяй і дасціпным гумарам, яркія характары галоўных герояў — "хлопцаў жывучых" — Івана Сырцова і Санькі Макавея, бубулі, бацькі, Глыжкі і іншых гэтак жа, як і ў першых творах, прымушаюць нас суперажываць, хваляваццa, усміхацца, прамакаць слязу...

І вось гэтыя тры кнігі зноў перада мной. Даведаўшыся, што трылогія вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь за лепшыя творы для дзяцей і юнацтва, перачытаў іх на адным дыханні, і недзе нават пашкадаваў, што не зрабіў гэтага раней. Да таленавітых кніг, пагадзіцеся, трэба ўсё ж вяртацца...

Варта нагадаць, што ўсе тры аповесці адзначаны ў свой час прэміямі на конкурсах, і толькі першая, "Мы з Санькам у тыле ворага", заняла другое месца. Гэта сведчыць аб тым, што не толькі чытачы, але і строгапрыдзірлівыя члены журы розных конкурсаў на лепшы літаратурны твор для дзяцей (нават у Маскве, дзе перамагла аповесць "Мы — хлопцы жывучыя") здымалі, вобразна кажучы, шапкі перад Іванам Сярковым.

Адно шкада: на атрыманне самай высокай літаратурнай прэміі Беларусі аповесці пісьменніка маглі быць вылучаны і раней, але, як гэта часта здараецца, не было, відаць, ініцыятывы ні зверху, ні знізу. Дык добра ўжо хоць тое, што нарэшце гэта адбылося.

Уваходзіў у літаратуру І. Сяркоў з гумарэскамі, і што авалодаў ён гэтым няпростым жанрам добра, бачна, калі чытаеш трылогію. Была б яна напісана нудна, вяла, перагружана апісаннямі і дэталямі, то наўрад ці мела б такі поспех.

Іван Сяркоў таленавіта расказаў пра сябе, пра сваё дзяцінства і юнацтва. Зусім нядаўна ён сказаў мне з сумам і болем: "Санька памёр. У Маскве, дзе жыў..." Але "Іван Сырцоў" чытаецца амаль як прозвішча самога аўтара, а в. Падлюбічы — гэта родныя Пакалюбічы, радзіма пісьменніка, якія амаль што зліліся сёння з Гомелем. Не дзіўна, што і лямпачкі ўспыхнулі ў хатах тут перад вайной — блізка ж абласны цэнтр, не дужа багата спатрэбілася дроту і слупоў, каб абрадаваць і вяскоўцаў. А ўслед за лямпачкамі Іван Буслік, мясцовы электрык, з нейкімі дзядзькамі зноў пачаў лазіць па слупах і цягнуць новыя правады. Неўзабаве з'явілася і радыё.

Вось як апісвае пісьменнік пачатак вайны, як яна ўпершыню ўвайшла ў хаты вяскоўцаў: "Выбраўшы зручны момант, калі ў хаце нікога не было, мы з Глыжкам (малодшы брат. — **В. Т.**) рашылі паглядзець, як зроблена радыё. Адарвалі абцугамі заднюю сценку скрынкі і ткнулі ўсярэдзіну свае насы. Ніякага языка там не аказалася: адны жалязячкі ды дроцікі. Паспрабавалі цвіком — прыліпае.

— Магніт, — растлумачыў я Глыжку.

Мы разглядалі радыё, мацалі, пакуль яно не сапсавалася. Круць-верць — маўчыць, верць-круць — як у рот вады набрала. Таксяк зграблі ўсё ў кучу і ходзім самі не свае.

На другі дзень да нас зноў прыйшоў Іван Буслік. Бацька паклікаў. Паглядзеў Буслік спачатку на радыё, потым на нас з Глыжкам і па-змоўніцку падміргнуў. Затым ён пакалупаўся крыху ў дроціках, скрынка пашыпела, пакашляла, быццам у глотцы яе нешта перасела, і строгім незнаёмым голасам сказала: "Наше дело правое, враг будет разбит, победа будет за нами!"

Бацька аж ускочыў з лаўкі.

— Што гэта?

— Здаецца, вайна, — няўпэўнена адказаў Буслік, потым згроб свае абцужкі, адвёрткі, шрубкі-болцікі і, махнуўшы рукой на бутэльку, якую бацька паставіў на стол, выбег з хаты...

Бацьку Івана Сырцова, як і многіх вяскоўцаў, забралі на фронт. Усе чакаюць з'яўлення з дня на дзень немцаў. Калі дарослыя сушаць на чорны дзень сухары, капаюць бліндажы, то дзятва жыве зусім іншым чаканнем — ёй цікава глянуць, якія з сябе ворагі, на якіх танках яны прыедуць, з якімі вінтоўкамі або аўтаматамі. А Іван з Санькам збіраюцца падацца ў партызаны — прачулі, што недзе паблізу ў лесе фарміруецца атрад, каб помсціць супастатам. А хто цябе возьме ў партызаны, калі няма сумкі, дзе трэба насіць свае няхітрыя рэчы, і без бінтоў і ёду? І вось хлопцы крадком шыюць сумкі з цыраты, месца якой было на стале замест абруса, і прыдумваюць, як абхітрыць мясцовага фельчара. "Нас могуць параніць не адзін раз, таму і бінтоў трэба многа". Як і кожная гісторыя, гэтая — з сумкамі, бінтамі і ёдам — заканчваецца павучальна і не надта смешна для хлопцаў, — смешна толькі чытачам.

На вачах растуць, сталеюць хлопцы. Недзе паблізу бухае, гарыць горад, потым бомба разрываецца на агародзе, забівае карову ў Скокавым хляве асколкам — яна стала першай ахвярай вайны ў Падлюбічах. І людзі, дарослыя і дзеці, задумваюцца ўсур'ёз, што з немцам гэтым жартачкі кепскія, век бы не бачыць і не чуць пра іх, паразітаў!

Героі аповесці "Мы з Санькам у тыле ворага", хоць і гадамі не выйшлі, а засталіся ў сем'ях за мужчын. І як бы ні стараліся яны быць сур'ёзнымі, важнымі, першымі памагатымі матак, дзядоў і бабуль, усё ж з імі адбываюцца такія смешныя прыгоды, ад якіх жывот надарвеш. І не толькі з імі — дарослыя па сваёй недасведчанасці і сялянскай прастаце таксама трапляюць у рызыкоўныя пераплёты. Возьмем хаця б бабулю; вобраз гэты, даволі яркі і праўдзівы: яна — і заступніца, і дубца не пашкадуе, і немцу адкажа так, што збоку слухаць страшна. Знайшла бабуля гранату і бульбу таўчэ, бы таўкачом. А неяк прынесла дамоў нямецкі мех...

— Паглядзі-тка, мой хлопец! — просіць яна.

Я гляджу. Мяшок новы, шчыльны, трывалы. Крыху дзябелаваты, праўда, але ж немцы не ведалі, што такому пану, як я, будуць

# РЭДАКТАР ПАЭЗІІ — ТАКСАМА ПАЭТ

## З АСАБІСТЫХ НАЗІРАННЯЎ

Невыпадкова і не раптам узнікла ў мяне жаданне — падзяліцца з чытачамі сваімі назіраннямі ў такой вельмі складанай і важнай справе, як рэдагаванне паэзіі. На працягу многіх гадоў мне даводзілася працаваць з рознымі рэдактарамі над уласнымі кнігамі і рэдагаваць самому кнігі сваіх таварышаў, сяброў па пяры. Першым і, бадай, галоўным прынцыпам, які я засвоіў на ўсё жыццё, гэта — не ўмешвацца ў аўтарскае "я", больш давяраць аўтарскаму слову, даваць магчымасць паэту самому выказваць свае думкі і вобразы. Рэдактар паэзіі — таксама паэт, ва ўсякім выпадку павінен быць ім і па прызванні, і па вопыце працы.

Ніколі не забуду надта сумную, можна сказаць, горкую для мяне асабіста, даўно перажытую гісторыю ў рэдактарскай практыцы. Гэта было ў 1968 годзе. Не ведаю і зараз, за што я як рэдактар паэзіі, працуючы ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве, атрымаў строгую вымову ад самога старшыні камітэта па друку Р. Канавалава. У загадзе падкрэслівалася: "...за безыдэйнае, беззадказнае рэдагаванне зборніка вершаў Анатоля Вярцінскага "Чалавечы знак". Скажу адразу — такога блюзнерства і нахабства з боку кіруючых органаў у адносінах да літаратуры, у прыватнасці — да паэзіі, я не сустракаў ніколі, ні раней, ні пасля.

У цудоўнай паэтычнай кнізе Анатоля Вярцінскага, апроч многіх добрых вершаў, была паэма "Дажынкі". Паэт шчыра, сардэчна расказваў пра жанчыну-маці, якая ўсё сваё жыццё адпрацавала на полі, ні разу не хварэла, і раптам упала проста на жніве, жнучы жыта. Ёй стала блага пад спякотным сонцам. А брыгадзір не верыць, лічыць, што яна "прыдурваецца", абяцае ёй прыпісаць працаднёў, каб толькі яна не скардзілася. Але хворая жанчына не можа трываць. Яе вязуць на каламажцы ў раённую бальніцу праз лес, па карчэў'і... І па дарозе яна памірае. Я знарок вельмі коратка пераказаў змест паэмы, бо нічога ў ёй аўтар не выдумаў, напісаў усё так, як было ў жыцці.

А вось старшыні камітэта па друку і яго падначаленым не спадабаліся не толькі паэма, але і вершы ў кнізе, яны ўбачылі там нейкую крамолу. Тэрмінова быў выкліканы на пасяджэнне камітэта амаль увесь творчы калектыў выдавецтва на чале з дырэктарам Матузавым, і пачалі "даваць у косці" рэдактару кнігі "Чалавечы знак". Намеснік старшыні, які выступаў першым пасля старшынёўскага разносу, сказаў, помню, такія словы: "Дзіву даюся, як гэта былы палітрук роты Прыходзька мог прапусціць такую безыдэйную кнігу..." Я маўчаў, нават не апраўдваўся. Ды і навошта было апраўдвацца? "Прыйдзе час, — думаў я, — людзі ва ўсім разбяруцца".

Мне не хацелася пра гэта ўспамінаць, ды само жыццё прымушае аглядвацца на мінулае, каб ніколі не паўтарылася тое блюзнерства, здзек з літаратуры і яе талентаў.

Як жа павінен рэдактар адносіцца да паэтычнага твора, калі разам з аўтарам альбо без яго рыхтуе кнігу да друку? Яшчэ раз паўтаруся — ні ў якім разе не навязваць аўтару свае думкі, тым больш не перапісваць за яго цэлыя старонкі (было і такое). Але разумны, уважлівы рэдактар заўсёды можа і павінен заўважыць асобныя пагрэшнасці — няўдалы эпітэт ці цэлы радок, няправільна ўжытае слова і падказаць такое, якое б аздобіла думку, вобраз, дало ім новую афарбоўку, больш яркае эмацыянальнае гучанне. Гэта будзе сапраўдная таварыская дапамога аўтару з боку рэдактара.

Як гэта я адчуваў сам — спашлюся на два прыклады, якія мне запомніліся на ўсё жыццё.

Два першыя мае зборнікі вершаў, якія выходзілі пасля вайны — "Голас сэрца" і "Салдаты міру" (1947—1950 гг.) — рэдагаваў на грамадскіх пачатках у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі Максім Танк.

Для першай кнігі былі адабраны нямногія вершы з франтавых сшыткаў, напісаныя ў часе вайны, у акопах і зямлянках, у перадышках паміж баямі. Аснову кнігі складала паэма "Майсурадзе", прысвечаная воіну нашай дывізіі, радавому Майсурадзе Георгію Васільевічу, якому пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Ён загінуў на правым беразе Дняпра восенню 1943 года ў баі за вызваленне беларускай вёскі Глушэц, што непадалёк ад Лоева. Я ведаў яго асабіста, і паэма пісалася, як гаворыцца, па гарачых слядах. І хоць урыўкі з яе былі ўжо змешчаны ў перыядычным друку, прызнацца, я не быў упэўнены, што мае творы без усялякіх заган.

Максім Танк, перш чым прыступіць да рэдагавання, уважліва прачытаў дома ўсю кнігу, у якой было каля трох аўтарскіх аркушаў, затым паклікаў мяне да сябе. Калі я прыйшоў у прызначаны час, ён паклаў рукапіс на стол і сказаў: "Ну што, браце, будзем працаваць разам. Ты ў сваёй кнізе дабраўся да крыніцы, але ваду п'еш праз расцятыя пальцы. Трэба поўнай жменяй чэрпаць".

Мне вельмі спадабаліся гэтыя словы. Яны ўсялілі мне ў душу ўпэўненасць у тым, што кніга адбудзецца, што рэдактар дапаможа мне пазбавіцца ад "мякіны" і пакіне толькі чыстае, даспелае зерне.

Так і было. Апроч таго, што ў рукапісе былі скарочаны самыя слабыя вершы, рэдактар прайшоўся ў маёй прысутнасці па кожным радку. Асаблівую ўвагу, як зараз помню, ён звярнуў на верш "Перад боем", вылучыўшы яго ў лік лепшых: "Прысядзь, мой дружа, крыху пакуры, пагамані са мною перад боем..." Максім Танк зацікавіўся, калі і як быў напісаны твор. І тут раптам нарадзіліся ў душы радкі, якія затым сталі асобным вершам:

**Нараджаўся верш мой потым,**
**Як зрабіў наперад крок**
**І чаргою кулямётнай**
**Выбіўся ў баі радок.**

Рэдактар не шкадаваў і сваёй фантазіі, калі бачыў, што можна аздобіць радок,

з яго шыць адзежыну. Дзе бабуля здабыла гэты мяшок, яна не гаворыць. На ўсе мае пытанні толькі адмахваецца:

— Дзе ўзяла, там і ўзяла...

Але нарэшце не вытрымала і растлумачыла больш падрабязна:

— У Ярманію збегала і купіла!

З гэтага мяшка будуць раскошныя штаны. Адно мне толькі не падабаецца: чорны арол са свастыкай. Бабулі ён таксама не па душы, ды што ты зробіш? Яна спрабавала яго адмыць, празаліла нават у жлукце (дзежка без дна для празольвання бялізны. — **В. Т.**), а арлу — хоць бы што, як сядзеў, так і сядзіць. Штаноў з нямецкім арлом я насіць не буду. Няхай бабуля на гэта не спадзяваецца.

Бабуля пакрыўджана падбірае губы і злуецца:

— Вялікі асэсар! Зносіш, калі прыпрэ...

Аднак яна ўсё ж паабяцала зрабіць так, каб гэты арол не вельмі кідаўся ў вочы. Яна яму месца знойдзе, тым больш, што зусім неабавязкова, каб ён свяціў наперадзе.

І гойсаў Іван Сырцоў у новых штанах з арлом на заднім месцы, пакуль гэта не ўбачыў паліцай Няўмыка... Ледзь пратакол не склаў, што не на тым месцы аказаўся "сімвал нямецкай улады".

Такіх прыгод у аповесці шмат. Пра ўсе расказаць немагчыма. Дастаткова нагадаць некаторыя падзагалоўкі, каб мець уяўленне, чым і як жывуць героі: "Шукаем сабе хваробы", "Радасны выспятак", "Як нас кот падвёў", "Пі, фашысцкая морда!", "Як Саньку "ажанілі", "Я паўтараю подзвіг Сусаніна", "Санька абяззбройвае ворага", "Засада", "Я іду ў партызаны", "Бацькава пісьмо". Ім, пісьмом ад бацькі, і заканчваецца цікавая аповесць. Бацька жывы, добра ваюе з ворагам. Яго чакаюць дзеці, бабуля, а вось жонка, Іванава з Глыжкам маці, памерла — кволілася яна яшчэ і раней, а тут вайна зусім даканала.

Заахвочаны поспехам аповесці "Мы з Санькам у тыле ворага", І. Сяркоў амаль адразу ж стварае працяг твора — "Мы — хлопцы жывучыя". Героі крышачку памужнелі, падраслі. Вёску занялі нашы. Спакваля, патроху адраджаецца ў Падлюбічах жыццё. Людзі аплакваюць тых, хто не вярнуўся з вайны. Такіх багата. Івану пашанцавала — бацька пераступіў аднойчы зусім нечакана парог роднай хаты, засвяціўся ўсмешкай. І нават такія-сякія падарункі прывёз.

На плечы хлапчукоў легла не толькі вучоба ў школе — за ўсе патрачаныя гады, але і нялёгкая праца па гаспадарцы, у калгасе. Трэба было жыць, перамагаць бясхлебіцу, нішчым'е.

"Сталі мы з Санькам побач, падзвінкалі мянташкамі па косах, паплявалі ў далоні — эх ты, сіла маладзецкая! Размахнуўся Санька і — у купіну. Так і знёс начыста, як брытвай зрэзаў.

Мне купіна трапілася большая".

Вось так яны вучыліся трымаць у руках касу, сякеру, вілы, пілу... Працавалі і жартавалі, вучыліся і хітравалі.

Прыгоды працягваюцца і ў заключнай аповесці "Мы з Санькам — артылерысты", калі Іван Сырцоў і Санька Макавей паступаюць у вайсковае вучылішча. На пачатку твора з уласцівым яму гумарам і спагадай да хлопцаў жывучых І. Сяркоў піша: "Мы з Санькам — дзеравеншчына. Вось пражылі свой хлапечы век і нічога яшчэ толкам не бачылі, апрача немцаў, пажараў, бульбы-гнілушкі. Толькі таго і свету было, што сямігодка, поле, луг ды гарадскі рынак, дзе мы прадавалі шчаўе, каб купіць сабе сшыткі і кніжкі. І не дзіва, што цяпер мы ходзім па вучылішчы, і многае нам у навіну. Прывёў Юрка ў спартыўны зал — раты разявілі: вялізны ж, як гумно, а вокны пад самай столлю. Хваробу ты праз іх што-небудзь на вуліцы ўбачыш. Адна сцяна нагогул не наша, Юрка кажа — шведская. На ёй ад столі да падлогі драўляная рашотка. Нейкія рэйкі ў кутку стаяць на жалезных нагах з нікеляванымі круцёлкамі. Гэта нібыта сапраўдныя брусы. А для чаго яны, бог святы знае.

А народу тут, як у вулеі, і ўсе — шпакі. Гэта ж іх столькі рвецца ў афіцэры! А ўсіх жа, мабыць, не возьмуць. Значыць, і мы з Санькам можам праляцець міма. І ў нас павіслі насы".

Наперадзе ў нашых герояў — новае жыццё. Яны палюбіліся, сталі блізкімі, нечым роднымі, і таму хочацца, каб шчасліва склаўся далейшы лёс хлопцаў. І верыш, што стануць яны не толькі добрымі афіцэрамі, але і добрымі людзьмі.

"Жывучыя", з зайздросным літаратурным лёсам аповесці стварыў пісьменнік. Вельмі трапна заўважыў у свой час крытык і літаратуразнаўца Серафім Андраюк: "Беларускую дзіцячую літаратуру сёння нельга ўявіць без непаўторна-самабытных аповесцей Івана Сяркова, якія па праву заваявалі шырокую вядомасць, прызнанне грамадскасці і ўсеагульную любоў чытача. Такі лёс кожнага па-сапраўднаму таленавітага твора".

Што можна дадаць да гэтага?

**Васіль ТКАЧОЎ**

---

зрабіць яго яшчэ больш яркім, эмацыянальным. Замест няўдала ўжытых слоў, эпітэтаў, параўнанняў, метафар ён знаходзіў тут жа больш удалыя, замяняў асобныя назоўнікі, дзеясловы, прыметнікі такімі свежымі для маіх абпаленых порахам вушэй выразамі, як "паведаў сябру", "у засені дрэва", "жменька сонечнай расы" і г. д. У выніку такой уважлівай працы з рэдактарам у мяне самога нараджаліся новыя, больш яркія радкі. А калі я сказаў неяк не падумаўшы, што зайздрошчу аднаму былому франтавіку, які ўжо выдаў кнігу, Яўген Іванавіч шчыра глянуў мне ў вочы і ціха прамовіў: "У паэзіі не зайздросціць трэба, а злавацца, каб лепш напісаць за таварыша". Гэтыя словы таксама запомніліся.

Пры рэдагаванні другой, чарговай маёй кнігі "Салдаты міру" Максім Танк асаблівую ўвагу звярнуў на творы, звязаныя адной нізкай "Ранак над Эльбай". Вершы былі напісаны ў час маёй пасляваеннай службы ў групе войск у Германіі. Ён сказаў, што гэта мая творчая ўдача, бо там былі вершы пра помнік нашаму салдату ў Берліне, у Трэптаў-парку, пра якога яшчэ ніхто не пісаў, пра нараджэнне новай дэмакратычнай дзяржавы ў Еўропе замест фашысцкай Германіі. Асабліва спадабаўся яму верш "Ліст з Германіі". Ён амаль нічога ў ім не правіў, толькі дапамог пазбавіцца ад лішніх радкоў. Я і па сённяшні дзень застаюся бясконца ўдзячным Яўгену Іванавічу за чулыя адносіны, за тую дапамогу, якую ён мне аказаў на пачатку самастойнага творчага шляху.

У другім прыкладзе чулага, уважлівага і, можна сказаць, майстэрскага рэдагавання паэзіі спашлюся на некаторыя публікацыі ў нашым паважаным часопісе "Полымя". Асабліва гэта можна было заўважыць, калі загадчыкам аддзела ў ім працаваў вядомы нам усім, выдатны паэт Анатоль Вялюгін.

У пачатку 1963 года я прынёс у рэдакцыю часопіса толькі што напісаную, невялікую памерам паэму "Вішнёвы агонь". Анатоль Сцяпанавіч назаўтра ж раніцой пазваніў мне на кватэру і сказаў: "Віншую з добрай паэмай, дарагі дружа. Будзем друкаваць. Але тое-сёе трэба папраўляць. Прыходзь, паглядзі, якія зроблены праўкі".

Пра тое, як Анатоль Вялюгін умее праправіць верш, які ў яго добры густ, — ведалі многія, не толькі я. На гэты ж раз ён мяне проста абрадаваў сваім умельствам, сваёй шчырасцю і ўвагай у рэдактарскай працы. У ёй сапраўды адчувалася рука майстра, які не перапісваў асобныя словы, выразы, цэлыя радкі, а надаваў ім новую, свежую афарбоўку, альбо замест аднаго слова знаходзіў і запісваў іншае, пры якім радок набываў больш ёмкае, важкае гучанне. Напрыклад, першыя два радкі ў маёй паэме гучалі так: "Бялеюць хаты ў ціхіх вёсках, Сады ля іх шумяць вакол". Замест трох слоў "ля іх шумяць" рэдактар паставіў адно — "мяцеляцца". І атрымалася жывая карціна, — а не проста апісанне мясцовасці: "Бялеюць хаты ў ціхіх вёсках, сады мяцеляцца вакол. І ціха падаюць пялёсткі, нібы гусіны пух на дол".

Другім разам у вершы пра салдата ў мяне было сказана, што ад ягонай гімнасцёркі "чуцен пот і пах махоркі". Рэдактар замяняе слова "пах" словам "дух". І сапраўды, пачуўся адразу моцны, адчувальны дух жывой чалавечай істоты, яшчэ больш узвысіўся вобраз мужнага салдата.

На жаль, бывае часам і так, што чытаеш у газеце ці часопісе свой верш — і не пазнаеш, нібыта яго хтосьці падмяніў: твор ці скарочаны, ці выкраслены, альбо пераблытаны цэлыя строфы, і табе самому становіцца сорамна за яго. Альбо бывае яшчэ так: рэдактар прачытае тваю кнігу, твой рукапіс, наставіць птушак чорным ці каляровым алоўкам, падкрэсліць кожны радок без тлумачэнняў, без канкрэтных заўваг, верне табе са словамі "Дацягвай да кандыцыі сам", а ты прыйдзеш дадому, схілішся над рукапісам і не ведаеш, з чаго пачынаць. Пасціраеш акуратна гумачкай усе зробленыя простым алоўкам "птушкі", прыносіш зноў рукапіс рэдактару, ён паглядзіць і скажа: "Ну, вось, іншая справа. Цяпер можна падпісваць у набор"...

Ніколькі не утрырую, далібог, даводзілася назіраць і такое. Аднойчы нават вымушаны быў прасіць дырэктара выдавецтва, каб перанеслі кнігу для дзяцей у другую рэдакцыю, дзе аднесліся да яе больш чула і ўважліва.

Нікога не хачу пакрыўдзіць. Хацелася гэтым артыкулам сказаць толькі адно: рэдагаванне паэзіі — справа вельмі тонкая і карпатлівая. І адносіцца да яе трэба так, як да кожнай адказнай і важнай, плённай чалавечай працы.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

---

# ЗА СМУГОЮ — ПРОБЛІСКІ СВЯТЛА

Пра Васіля Супруна лімаўскі чытач з большага ведае. Васіль Рыгоравіч неаднаразова выступаў на старонках штотыднёвіка і з вершамі, і са сваімі згадкамі, звязанымі з перажытым у гады сталінізму. Акрамя таго, В. Супрун праўдзіва і ўсхвалявана расказаў пра сваё завочнае знаёмства з Ларысай Геніюш, калі паміж імі, вязнямі, якія знаходзіліся ў розных лагерах, завязалася спачатку звычайная, а пасля і паэтычная перапіска. І з вершаў, і з публіцыстычных разваг няцяжка было здагадацца, наколькі ўлюбёны В. Супрун ва ўсё беларускае, як з маленства нёс ён у сэрцы закаханасць у Бацькаўшчыну і любві да яе не здрадзіў на суровых жыццёвых ростанях. Аб гэтым, дарэчы, сказаў пранікнёна зямляк В. Супруна Алег Лойка ў прадмове да зборніка паэзіі Васіля Рыгоравіча, выпушчанага выдавецтвам "Мастацкая літаратура".

Нядаўна прадставілася яшчэ адна нагода бліжэй пазнаёміцца з паэтам-гулагаўцам — у выдавецтве "Полымя" выйшла кніга В. Супруна "За смугою часу". Гэта зборнік краязнаўчых нарысаў з серыі "Па родным краі", у якой сабралася ўжо даволі ладная бібліятэчка. Але кніжка В. Супруна — адметная. Найперш тым, што аўтар шмат у чым абапіраўся на асабістыя назіранні, уласныя археалагічныя раскопкі.

З чаго пачалося захапленне краязнаўствам, Васіль Рыгоравіч расказвае ва ўступным артыкуле "Прыцягненне". На родную Слонімшчыну ён вярнуўся ў 1963 годзе. Як прызнаецца, "не маючы ніякуткай магчымасці для духоўнай творчасці на карысць свайго народа, яго культуры, я вырашыў здзейсніць даўнюю мару — заняцца даследаваннем старажытнасцей краю. Гэта было зусім апалітычна і не пагражала новымі рэпрэсіямі ні сям'і, ні акружэнню, а для душы давала такую неабходную аддушыну". Каб жыць, уладкаваўся на будоўлю (пазней якіх толькі прафесій ні асвоіў В. Супрун!), а "пасля цяжкай работы садзіўся на веласіпед і да змяркання даследаваў наваколле, фіксуючы і апісваючы ўсе выяўленыя археалагічныя помнікі, у першую чаргу курганы, старыя грунтовыя могільнікі, умацаваныя гарадзішчы і яўна выражаныя селішчы. Адкрыццё кожнага новага, раней невядомага помніка падбадзёрвала — гэта быў крок для пазнання мінулага".

І, вядома ж, знаёміўся са спецыяльнай навуковай літаратурай, наладзіў кантакт з навукоўцамі-археолагамі з Акадэміі навук Беларусі, прапанаваў ім матэрыялы сваіх даследаванняў. Яны былі адобраны, В. Супрун атрымаў афіцыйны дазвол праводзіць раскопкі, а да ўсяго паступіў на завочнае аддзяленне гістарычнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута.

І працаваў, можна сказаць, за цэлы калектыў. Падумаць толькі — на працягу 1963—1964 гадоў яму "ўдалося выявіць і апісаць 43 стаянкі першабытных людзей, якія адносіліся да эпох мезаліту, неаліту і бронзы, каля 120 селішчаў пазнейшага часу, 17 гарадзішчаў, 23 курганныя могільнікі, 4 грунтовыя могільнікі з каменнай выкладкай, больш за 10 кустоў па выплаўцы жалеза з балотнай руды і кавальскай яго апрацоўцы"! І гэтак — год за годам... Апантана, настойліва, з нязменнай любасцю да роднай зямлі...

Працаваць бы і надалей, ды праследаванні з боку ўлад не спыніліся. У 1967 годзе В. Супрун вымушаны быў пакінуць Бацькаўшчыну, прапісаўся ў Алушце і... "там вывучаў чужую гістарычную спадчыну, каб затым яшчэ болей цаніць сваю". А потым — праца на Брэстчыне і далейшыя археалагічныя даследаванні. Па вяртанні ў Слонім "у вольны час заняўся больш паглыбленым аналізам сабраных матэрыялаў".

Сам пра сябе і гэтак падрабязна? Уся справа ў тым, што ў шэрагу артыкулаў, нарысаў (асобныя і раней друкаваліся) В. Супрун выказвае меркаванні, якія супярэчаць афіцыйным. Васіль Рыгоравіч пераконвае, што да падобных разваг ён прыйшоў зусім невыпадкова, што з'явіліся яны на аснове "паглыбленага аналізу сабраных матэрыялаў", а таксама шматлікіх пісьмовых крыніц.

А наколькі смелы ў развагах В. Супрун, як не баіцца выказваць уласныя версіі, відаць з артыкулаў "Ці балцкі ў нас субстрат?", "Называліся літвінамі", "Загадкавае племя", "Варыяцыі на тэму росаў (русаў)", "Імёны нашых далёкіх продкаў". Бадай, ужо з назваў відочна, у якім кірунку разгортваюцца даследчыцкія памкненні аўтара. В. Супруна цікавіць паходжанне беларусаў, задумваецца над значэннем наймення "літвіны", расказвае пра племя гудаў і г. д. І спакваля пераконвае ў праваце ўласнага меркавання.

Як тут не прыслухацца да думкі нябожчыка Г. Каханоўскага, выказанай у "Слове пра аўтара": "Не з усімі яго высновамі можна пагадзіцца, але ж калі нешта забараняць і не друкаваць, то тады ніколі не пачуем жывы голас і думкі даследчыка. Так што няхай ідзе да чытача так, як мяркуе сам Васіль Рыгоравіч Супрун. Гэта яго справа. Мяне ў ім падкупляе захопленасць ідэяй, добрай справай".

Добрую палову кнігі займаюць матэрыялы, пазначаныя як "Штрыхі з мінулага Слонімшчыны". Здаецца, нічога, вартага ўвагі, не застаецца па-за пільным позіркам аўтара. В. Супрун, адштурхоўваючыся ад сівой даўніны, як бы раскручвае клубок нацыянальнай гісторыі. І робіць гэта з вялікай любоўю да Слонімшчыны. І чытач, які возьме кнігу ў рукі, таксама палюбіць слонімскую зямлю. І не толькі палюбіць, а і ўспрыме яе часткай усёй Бацькаўшчыны, а багатае мінулае тутэйшых мясцін стане для яго адным з раздзелаў увогуле багатай нацыянальнай гісторыі.

Цікавыя і матэрыялы, у якіх, здавалася б, няшмат новага. Прынамсі, неаднойчы пісалася пра старадаўняе Крэва ("Некалі грозная мясціна"). Не сказаць, каб увагай даследчыкаў і краязнаўцаў абыходзіліся Сынкавіцкі і Маламажэйкаўскі храмы ("Калі і кім збудаваны храмы-крэпасці"), архітэктурны комплекс ў пасёлку Ружаны ("Тут уладарылі Сапегі")...

Але, па-першае, хіба лішне кінуць яшчэ адзін позірк туды, дзе, здаецца, чуецца дыханне самой гісторыі? А, па-другое, і ў дадзеным выпадку В. Супрун не толькі сведчыць агульнавядомае, ён не адмаўляецца і ад спробы выказаць асабістыя меркаванні, калі адчувае, што ёсць спрэчныя моманты (напрыклад, наконт узвядзення згаданых Сынкавіцкага і Маламажэйкаўскага храмаў).

"За смугою часу" называецца кніга В. Супруна. Але ж смуга, рана ці позна, развейваецца. У гісторыі — калі даўнія падзеі высвечваюцца позіркам зацікаўленым. У жыцці — калі настае спрыяльная часіна для вяртання гістарычнай праўды.

Кніжка В. Супруна пацвярджае гэта.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

# ПЕСЕННАЯ АНТАЛОГІЯ ПАЭТАВАЙ РАДЗІМЫ




Каля ста народных песень, запісаных на радзіме Якуба Коласа, увайшло ў нядаўна выдадзены аддзелам культуры Стаўбцоўскага райвыканкама першы том песеннага зборніка. Яго ўкладальнікам з'яўляецца студэнтка-чацвёртакурсніца філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Людміла Камароўская.

Акрыленая ідэяй захавання для нашчадкаў багатых фальклорных традыцый радзімы народнага песняра, яна вырашыла сабраць песні родных мясцін Якуба Коласа. Абышоўшы з дыктафонам і нататнікам у руках Мікалаеўшчыну і навакольныя з ёй вёскі, маладая даследчыца сабрала багаты матэрыял, частка якога і склала першы том згаданага ратапрынтнага выдання.

Як зазначыў карэспандэнту БелаПАна загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама Анатоль Грэкаў, ужо засланы ў друк і 2-гі том "Народных песень радзімы Якуба Коласа". А ў планах — выданне 3-га ды 4-га тамоў, куды, акрамя песень, увойдуць і іншыя фальклорныя матэрыялы, сабраныя работнікамі бібліятэк раёна ў многіх населеных пунктах Стаўбцоўшчыны.

**Сяргей ГАЛОЎКА**

# «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА», N 9

Матэрыялы нумара пазначаны роздумам аб нашым часе, жаданнем аўтараў асэнсаваць тое, што было раней і што ёсць цяпер. У "Літаратурнай гасцёўні" філасофскай лірыкай прадстаўлены Н. Гілевіч. У раздзеле "Спадчына" выступаюць П. Краўчанка ("Акно ў вялікі свет") і Л. Раманенка "Люлянне на арэлях разбэрсанай ідэі". Г. Булыка гутарыць з маладым акцёрам В. Цітовым, які выконвае галоўную ролю ў фільме "Кветкі правінцыі", што здымаецца па сцэнарыі Г. Марчука — "У пошуках героя". У. Вялічка ("Мерсэдэс" прапісаўся ў Мінску") закранае надзённыя праблемы супрацоўніцтва паміж рознымі краінамі. Як заўсёды, змястоўныя раздзелы "Сацыяльны ракурс", "Права", "Экалогія" і іншыя.

# З ВЕРАЙ І ДУМАЙ ПРА НАШЧАДКАЎ...

Новымі сіламі жывяць духоўнасць нацыі слынныя майстры культуры. Такія, як доктар філалагічных навук прафесар Беларускага універсітэта культуры Мікалай Міхайлавіч Грынчык, які, акрамя грунтоўных даследаванняў у філалогіі, займаўся зборам рэдкіх і каштоўных выданняў. З верай і думай пра нашчадкаў перадаў Мікалай Міхайлавіч частку сваіх каштоўных выданняў у фонд рэдкай кнігі бібліятэкі універсітэта культуры.

Калекцыю прафесара Грынчыка склалі такія выданні, як "Гісторыя беларускай (крэўскай) кнігі" В. Ластоўскага (Коўна, 1924), "Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского" Г. А. Киприановича (Вильна, 1897), "Bielaruski chryscijanski ruch" A. D. Stankievica (Vilnia, 1939), Віленскае выданне 1923 года "Геаграфія Беларусі" А. Смоліча, кнігу М. Танка "Журавінавы цьвет" (Вільня, 1937), "Беларускія народныя песні" сабраныя і выдадзеныя Г. Шырмай (Вільня, 1929), выданне Вітаўта Тумаша "Наша песьня. Рэпертуар беларускага хору Р. Шырмы" (Вільня, 1938) і шмат іншых рэдкіх кніг.

Такое ахвяраванне яшчэ і яшчэ раз пацвярджае тое, што беларуская культура мае магутны духоўны патэнцыял, які дапаможа нашаму народу жыць цывілізавана, далучаючы новыя і новыя пакаленні да здабыткаў роднай мовы, літаратуры, культуры.

Л. ДОЎНАР

# НА ЖАЛЬ, ТОЛЬКІ Ў МІНСКУ

Дні з 17 па 22 лістапада мусяць прадставіць беларусам культуру Польшчы — у чарговы раз. На жаль, гэтым чарговым разам за ўсю Беларусь будзе адрабляць толькі Мінск.

Перадусім у адным з гарадскіх кінатэатраў (удакладняецца, у якім) пойдзе тыднёвая гаворка пра творчасць Анджэя Вайды пад абагульненым вызначэннем "Ягонае кіно і ягоныя акцёры". Праграму распачне "Дантон". За ім з'явяцца знакамітыя "Попел і алмаз", "Краявід пасля бітвы", "Беразняк", "Зямля абяцаная", "Пілат і іншыя", "Пані з Вілкі", "Пярсцёнак з арлом у кароне". Дадамо, што вызначэнне "знакамітыя" ўжыта пасля кансультавання з нашымі кіназнаўцамі; беларускі глядач цалюткі тыдзень мае магчымасць спадзявацца на адкрыцці.

"Любоўныя лісты" Гарнэя з вуснаў Даніэля Альбрыхскага і Барбары Вжэсіньскай пачуюць наведнікі Малой сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы 18 лістапада; у той самы дзень з зацікаўленымі асобамі сустрэнецца дэпутат Польскага сейма Анджэй Цыліньскі (месца сустрэчы вызначаецца).

20 лістапада ў касцёле св. Роха або Зале камернай музыкі філармоніі адбудзецца канцэрт Станіславы Цыліньскай.

Асобным абзацам паведамім, што ў такой дарагой — ва ўсіх сэнсах — акцыі знайшліся самаахвярныя фундатары: Беларускі фонд Сораса і Фонд Стэфана Баторыя (Польшча). Ім дапамагалі Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі, Міністэрствы культуры (адпаведна— Беларусі ды Польшчы), а таксама Саюз кінематаграфістаў і нават гарадское аб'яднанне "Кінапракат".

Паэзія



Антаніна ХАТЭНКА

## ЗАМОВА-ЗАКЛІНАННЕ

І ўдзень, і ўночы, і світаннем,
і на змярканні, і на ўсходзе,
бяжы, вада, — журбы адхланне...
Спатоль пякельны боль, народзе!
У чыстым полі і ў дуброве:
у цемры пушчы, ў ціхім гаі
ўзыдзі, маё святое слова,
на паратунак... Заклінаю!
Бяры святло зямлі, крыніца,
нясі, як кроў жывую вены.
Знясіленаму дай напіцца,
каб уваскрэсла ў сэрцы вера!
Блакіт слязы тваёй, крыніца,
няхай азорыць шчодра сонца!
...Пад крыж стары
вада бруіцца струменем
памяці бясконцай.
І маладзік, і поўня, й ветах,
І Мілавіца, і Дзянніца,
дабро пашлеце людзям свету!
Насыпце зорак у крыніцу!
У небе зоркі, ў лузе росы,
у лесе зёлкі лекавыя —
збалелых душаў чуйны космас,
Сусвету клетачкі жывыя.
Не раздзімайце, буйны ветры,
былінкі кволыя на свеце!
Трымай дзяцей, зямная нетра!
Гадуй заступнікаў суквецце!
Разгушкай голас чалавечы
увысь, бязмежная прастора!
Хай зазірне у вочы вечнасць,
каб не душыла сэрца змора!
Гайдай, зямелька, жытні колас —
святую будучыню веку!
Круціся, Божых летаў кола —
не дай загінуць Чалавеку!
Не дай спустошыць людзям
душы, аберажы, кара зямная!
Гаючай повязі не рушце
зямлі і неба... Заклінаю!
Не рушце пругкай ніткі лёсу,
вятры залётныя, чужыя!
...Пляту жаночай долі косы,
вяду быццёвыя сцяжыны.
Іду. Праду зямнога шляху
жывое прадзіва святое
Жыццё звівае боль са страхам
і нараджэнне смерці тоіць.
Імкні, світальная дарога!
Надзея крылы развінае.
...Святла айчыннага парогу
Не растапчыце. Заклінаю!

•

Зямля-зямелька... Свята сямейка.
Мая надзея. Нясу нядзельна
гаючы зёлкі...
Малюся сонцу, чырвону золку.
Святыя вязні сваёй Радзімы...
Душа не гасне. Зямля не стыне.
Мае турботы. Мае трывогі.
Пчаліне — соты. А мне — дарога.
Іду шляхамі між неба й долу.
У светлым храме
малю я долі
майму народу, маёй Айчыне.
...Жывому роду не стлець, не згінуць.
Бялеюць косці... Зямля мудрэе.
Гадуе Космас Жыццёва Дрэва.
Сусвет гукае да чыстых зорак.
Зямля трымае. Дзіця гаворыць.
... Сын чалавечы. Зямны. Нябесны.
Люляе вечнасць матулі песню...

## ПАЕДУ

*Паводле народных спеваў*

Паеду. Паеду... —
назад не вярнуся —
ў чужую бяседу
шукаць Беларусі.

Паеду. Паеду.
У ночаньцы згіну.
Ні знаку, ні следу
я тут не пакіну.

Паеду. Паеду
ад роднае хаты,
ад пана-суседа,
ад хіжага брата.

Паеду далёка,
за горы, за долы.
Не кліч, не галёкай —
не ўчую твой голас...

Паеду. Паеду...
Адплачу. Забуду.
Не думаць, не ведаць,
як вецер-прыблуда...

Паеду. Паеду
ў чужыя харомы
вячэраць і снедаць
да гойстрай аскомы.

Паеду ў дарогу.
Крыжам памалюся.
А там, за парогам
няма Беларусі...

Паеду. Паеду —
куды глянуць вочы...
У прорву, у бездань
зняверана збочу.

Паеду. Паеду.
Слязінай утруся.
Ды спраўлю абедню
за лёс Беларусі...

## МАЛІТВА Ў ДЗЕДАВУ СУБОТУ

Ціха пад вокнамі дыхае вечар.
Ноч атуляе стамлёныя плечы.
Зорных нябёсаў таемнае веча
Душы Дзядоў выпраўляе на стрэчу...
На далані маёй дыхае свечка.
А над Айчынаю дыхае вечнасць.

Жаліцца небу старэнькая груша —
Вецццю счарнеламу
завязь не гушкаць...
Памяць астылае лісце варушыць.
Гуслі Дзядам спавядаюцца скрушна.
З выраю жальна
вяртаюцца птушкі —
чуйныя родныя дыхаюць душы.

Стогне Радзіма,
з няволяй павенчана,
Хіжаю шабляй варожай
пасечана,
Здраднай касой курапацкай
скалечана.
Попелам чорнае былі апечана...
...І паўстае неадольная, вечная,
Гордаю княжай крывёю асвечана.

Перад балеснай зямелькай
укленчу —
чую: магілы паўстанцкія енчаць.
чую: адчайным заходзяцца крэчам
хаты пустыя, астылыя печы.
Чую самоту дарогі адвечнай —
боль невылечны і жаль чалавечы.

Белая поўня над чорнаю пожняй.
Дыхае свечка,
на вечнасць варожыць.
Мовай чужынскай і воляй варожай
не пакарай мяне, праведны Божа!
Белай Краіне не згінуць парожняй —
Абарані ад бяспамяцтва, Божа!

З веку мінулага дыхае вецер.
Дыхае памяць у зорным Сусвеце.
Свеціць паходня, у цемрадзі свеціць.
...Белае мроіва неба парушыць.
Белай малітвы начное не рушу —
Пад абразамі на покуці — душы...

Проза

Не ведаю як для каго, а для мяне заўсёды самым салодкім часам быў час ранішні. Цёплая падушка, цёплая коўдра, прыкідванне, як і што трэба зрабіць гэтым яшчэ адным падараваным табе днём.

Сённяшняя раніца нічым не адрозніваецца ад іншых, можа, толькі адным: мне — восемдзесят. Вунь на календары абведзена і дата — 11 мая 2027 года. Папраўдзе, дык і не думалася, што дацягну да гэтага дня. Спадзявалася на якіх-небудзь 65—70, а Бог накінуў яшчэ адзін дзесятак. І вось ляжу, з асалодай пацягваюся, любуюся парычком (на яго якраз гэтымі гадамі вярнулася мода), які сёння ўпрыгожыць за юбілейным сталом маю не такую ўжо і прывабную галоўку. Слухаю, як раз-пораз на кухні дзынькае посуд: дачка, нявестка, унучкі рыхтуюць святочны стол. Ну, а мне можна трошкі і адпачыць. Госці збяруцца дзесьці а пятай гадзіне. Ледзь не цэлы дзень вольнага часу, не садзіцца ж сёння за пісьмовы стол! Як ніколі на ім сапраўдны вэрхал: паштоўкі, віншавальныя тэлеграмы, нават зборнічкі вершаў ад маладых, — усё легла на яго. Толькі віншавальны ліст ад пана прэзідэнта паклала асобна.

Дзіўная рэч, некалькі гадоў таму назад ён мне адкрыў адну маленечкую таямніцу: сваё захапленне астраноміяй. На гэтым мы з ім і сышліся. Астраномія неаднойчы прыцягвала і мяне. Туманнасці, газападобныя зоркі, суседнія Галактыкі, тэорыі сціскання і разгортвання Сусвету, — суцэльная неспазнанасць і загадкавасць. Увогуле, цікавы чалавек гэты наш ці не пяты ўжо прэзідэнт. Падазраю, што ён вядзе перапіску не толькі са мною. А чаму б і не? З гісторыі вядома, што імператрыца суседняй Расіі Екацярына II перапісвалася з Вальтэрам. Вядома ж, я не Вальтэр, а прыемна атрымаць чарговы ліст ад прэзідэнта і развеяць яго нейкія сумненні, ці нават паспрачацца наконт той ці іншай астранамічнай тэорыі. Праўда, ён не надта любіць спрэчкі, ва ўсім хоча бачыць гармонію. Ат... Вось і званок... Напэўна, віншавальны. Трэба ўставаць і падыходзіць да тэлефона, сямейнікі сказалі: "Бабуля, сення твой дзень. Мы да тэлефона не датыкаемся!"

— Алё-ё... Танечка! Божа... Ну, вядома, усё разумею, пра што гаворка... Нічога страшнага, спазняйцеся!

Значыцца, Таня Сапач і Сяргей Дубавец спозняцца. А я ж казала: "На якое ліха вам гэты "Мерсэдэс", купляйце лепш "Таёту", мая хаця і старэнькая, а вунь яшчэ як цягне!" Не прыслухаліся, купілі. Цяпер штодня рамантуюць. Ну нічога, як-небудзь дабяруцца з Вільні. Дзе ж гэта? Куды прыткнула апошні нумар "Полымя"? Якая светлая ў Тані там нізка вершаў, — з нейкім прытоеным сумам, які, што ранішні туманок, запаўзае ў душу і працінае да дрыжыкаў. Столькі наставіла радасных клічнікаў, не забыцца б паказаць ёй.

Класціся назад у ложак ужо не хочацца. Трэба трошкі размяцца, пахадзіць па пакоі. І пра што ж гэта думалася да званка Дубаўцоў? Ага, прэзідэнт... Яго віншавальны ліст... А я, здаецца, апошнюю сваю кніжку яму не паслала, ды штосьці ён пісаў пра яе ў лісце. Значыцца, купіў сам. Дзіўная ўсё-такі штука жыццё! Зазірнеш у мінулае і ўсё роўна, як які тэлесерыял, сцэнарый якога напісаны рукою Самога Творцы. І не збочваеш, ідзеш па тым, што наканавана, — дзе подбегам, дзе больш павольна. Там спатыкнешся, там абтрасешся, а там і заплачаш... І ўсё ідзеш, ідзеш...

— Бабуля, які даставаць фарфор? Кітайскі, ці, можа, паставіць наш?

— Гэта ўжо на ваш густ... Які палічыце патрэбным.

От... Справа, напэўна, не ў фарфоры. Нявестка паслала ўнучку, каб дазнацца, сплю я ці паднялася ўжо. Бач ты, посуд не могуць выбраць. А іх бы туды, у тую вялікую дэпрэсію, як калісьці пра свой падобны час гаварылі амерыканцы. Думалі б не пра фарфор, а пра тое, што пакласці на талерку. Якія ж гэта былі гады? Дзесьці сярэдзіна дзевяностых... Не, пачыналася ўсё значна раней. Сярэдзіна дзевяностых — гэта ўжо ледзь не самы пік. Распачыналася прыватызацыя... Куды ж падзеўся, у якіх гадах застаўся той малады празаік, што ўсё тады крычаў на нейкіх сходах: "Дайце мне Ясную Паляну і я стану Львом Талстым!" Яснай Па-

Раіса БАРАВІКОВА

# Я НЕ ВАЛЬТЭ́Р, АЛЕ...

АПАВЯДАННЕ-ФАНТАЗІЯ






*Малюнак Ул. СКРЫГАНАВА*

**І ў пацалункавы ерусалім**
**Па небу шлях паказвае дакладны...**

Трэба ж, як завярнуў! "Пацалункавы ерусалім"... Валодзя Някляеў яшчэ з часоў маладосці пры сустрэчы заўсёды так далікатна цалуе ў шчочку. А сёння, дык, напэўна, і ў абедзве. Праўда, шкада, што на шчочку нічога гладзенькага ды ружовенькага не нацягнеш. Але Валодзя ўсё разумее, яму й самому не васемнаццаць, як, дарэчы, і ўсім астатнім, хто сёння прыйдзе за гэты святочны стол. А Лёні Дранько-Майсюку трэба будзе напісаць ліст... Па тэлефоне не паспела сказаць, што на тым тыдні ў старым Мінску адкрывалі помнік нашаму любаму Н. Ён быў трошкі маладзейшы ад нас, але мы лічылі яго сваім сябрам. Я толькі плакала, — Н. агромністы ў бронзе! А колькі люду! Урад, інтэлігенцыя, шмат было і з самых багатых слаёў. Вельмі ўсхвалявана і пранікнёна гаварыў адзін надта вядомы і шаноўны банкір. Ганарыўся тым, што яму выпала жыць у адным часе з Н. Што яшчэ даўно-даўно сустракаў яго вершы ў друку і захапляўся гэтым вялікасным талентам. Мне перапала трошкі больш, чым вядомаму банкіру, бо не толькі захаплялася вершамі Н., а і даволі часта сустракалася з ім. Ну вось хаця б тады, дарэчы, усё ў тых жа дзевяностых у той самай сярэдзіне. Вяртаюся са сваёй "Работніцы і сялянкі", дзе тады працавала, і ў пераходзе пад круглай плошчай заўважаю Н. Звярнула ўвагу на нейкія летнія атопкі, а на дварэ ці не лістапад ужо быў. Праўда, яны і не здзівілі. Купіць прыстойны абутак творчаму люду ўжо і не ўяўлялася магчымым. Час быў блытаны, грамадства спяшалася як мага хутчэй падзяліцца на багатых і бедных. Ужо шмат хто назапашваў першапачатковы капітал, а той-сёй дык даўно і назапасіў. Ну, а які капітал у паэта? Толькі вершы, за якія плацілі ледзь не дзірку ад бубліка.

— Што ты стаіш такі пахмурны? — пытаюся.

— Ды праваліся яно ўсё, хачу хаця б на тыдзень куды-небудзь з'ехаць! У вёску, у нізкае неба, у дажджы, каб як след выпісацца...

— З'едзь!

— А за які шыш? Без білета не паедзеш, ды і не кулак жа там будзеш грызці!

І тут я ўспомніла... Быў у мяне такі знаёмы Ігар К. Знаёмства наша пачалося дзесьці з сярэдзіны васьмідзесятых. Помню, ці не ў "Маладосці" быў надрукаваны мой верш, які пачынаўся радкамі:

**Я з душы сваёй вырвала слова**
**і яго акрыліць не змагла,**
**за абдымак куплю ў птушкалова**
**маладога пад восень шчыгла...**

ляны яму не далі, і Талстым ён не стаў таксама. Столькі гадоў прайшло, а вось, глядзі ты, помніцца... І тая дарагоўля, і тая інфляцыя. Напаўгалоднае жыццё, дзеці ў школах прытомнасць страчвалі, пра што, пэўна, мала хто і ўспамінае цяпер. Наша старэйшае пакаленне паціху адыходзіць, маладзейшыя неяк умелі тады круціцца. Але адно добра ведаюць усе: адтуль, з тых гадоў, мы вынеслі сваю Незалежнасць. Тады ж абіралі і свайго першага прэзідэнта. Самы першы, відаць, і самы запамінальны, — малады, няўрымслівы. Праўда, спачатку было шмат непаразуменняў, асабліва з нашым творчым людам, бо яшчэ ці не ў перадвыбарчай кампаніі прэзідэнт сказаў: спачатку эканоміка, а потым разбяромся і з астатнім... Трэба было разумець: з культурай, мастацтвам, літаратурай. І гэта насцярожвала, нават абурала, тым больш, што былі незразумелымі і адносіны прэзідэнта да нашай мовы. Адны ўпікалі яго, другія, наадварот, спрабавалі нейкім чынам апраўдаць, спасылаючыся зноў-такі на суседнюю дзяржаву. Маўляў, у Расіі, скажам, у тым жа дзевятнаццатым стагоддзі ўвесь царскі двор размаўляў выключна па-французску. Ды і той жа Іван Тургенеў вёў перапіску з Флаберам, з Жорж Санд, з Мапасанам на французскай мове. Толькі чамусьці творы свае пісаў на роднай, узбагачаючы залаты фонд не чыёй-небудзь, а сваёй нацыі. І гэта ніякім чынам не замінала высокім уладам бачыць у ім вялікага пісьменніка. Ці не ў часы цяжкіх дэпрэсій, як ні ў якія іншыя, інстынкты, закладзеныя ў чалавеку, пачынаюць барацьбу з Духам. І самы страшны, напэўна, інстынкт самазахавання, абы выжыць, любымі сродкамі, адсюль — разбой, крадзеж, гвалтаванне. Дух кліча да гармоніі, да ідэалаў, у вышыню; інстынкт цягне назад, бліжэй да братоў нашых меншых: урваць, адабраць, назапасіць. І якая ўжо тут духоўнасць, якая святасць! Ад гэтага ў старажытнасці гінулі цэлыя народы. Ці ж не было дэвізаў: хлеба і відовішчаў, жахлівых і разбэшчаных? Але што цяпер успамінаць пра тое, тым больш, што і непаразуменні нашы з прэзідэнтам працягваліся нядоўга. Гэта ўжо, напэўна, быў дзевяноста пяты год... А, можа, нават дзевяноста шосты? Хто ж тады пазваніў мне? Здаецца, Валя Аколава.

— Рая, ты ў спісе!

— У якім? — бы штосьці здранцвела ўва мне.

— Хіба не ведаеш? Прэзідэнт хоча паслухаць нашых паэтаў. У Саюзе пісьменнікаў (тады яшчэ была гэтая сістэма) ладзіцца літаратурны вечар.

Іду ў саюз. Там вялікая мітусня. Старшыня саюза пайшоў да дырэктара Літфонду прасіць грошай. Трэба ж наладзіць хоць які фуршэт, ёсць магчымасць пагаварыць з прэзідэнтам вочы ў вочы. А дырэктар Літфонду развёў рукамі: няма! Апошнія аддаў у якасці дапамогі на зубы вядомаму крытыку. Тады ўжо паслугі дантыста пісьменніку былі не па кішэні. Што ж тут рабіць? І, як заўсёды, знайшоўся хтосьці дасціпны. А што рабіць, хто будзе красавацца перад прэзідэнтам, той хай і прыходзіць са сваім шампанскім. Дурных няма, у нас цяпер рынкавыя адносіны. На тым і спыніліся. Праўда, у мяне дома тады ўзнік маленькі канфлікт. Муж заўпарціўся: "Ніякай пляшкі шампанскага! Твайго апошняга ганарару не хапіла табе нават на калготкі. Адмаўляйся ад вечара!" Але ўсё ўтраслося. Пазванілі з саюза, сказалі, што ў ім яшчэ не перавяліся джэнтльмены і жанчыны ад шампанскага вызваляюцца. А потым і джэнтльменам яно не спатрэбілася. На дапамогу прыйшла "Дайнова", ці нейкі камерцыйны банк. І ўсё прайшло добрым ладам. А неўзабаве і больш таго... Прэзідэнт пачаў у сваёй рэзідэнцыі наладжваць паэтычныя чытанні, дзе арганізоўваліся невялічкія кніжныя выстаўкі, куды запрашаліся аташэ па культуры розных дыпламатычных прадстаўніцтваў. З іх дапамогай шмат хто пачаў перакладацца на іншыя мовы, пачалі выходзіць нашы кніжкі ў Чэхіі, у Італіі, у Германіі... Вось так з дапамогай нашага першага прэзідэнта мы і пачалі ўлівацца ў агульначалавечы літаратурны працэс. Зноў званок... Можа, Лена Папова? Мелася прыехаць раней.

— Алё-ё... Лёня? Лёнечка! Ды ты ці не з Гаваяў звоніш?! З іх самых? Прывязеш у падарунак вершы! Вельмі ўсцешана...

Вось і Лёня Дранько-Майсюк пазваніў. Ён ужо з паўгода жыве на Гавайскіх астравах. Калісьці, вельмі даўно, сваю першую кніжку назваў "Вандроўнік" і ўсё вандруе з тых часоў: то ў Італіі, то ў Францыі... Неяк мне казаў, што Парыж стаў зусім не тым. Сумна і нецікава. Заходнееўрапейцы апошнімі гадамі чамусьці аблюбавалі нашу Гародню. Ім таксама ў Парыжы сумна. Лёня хутка вернецца з новай кнігай. А я ж зусім нядаўна перачытвала яго "Акропаль". Ды вось яна, кніжка, яшчэ нават не закрытая:

**Паэты любыя, вы ўсё маглі,**
**Таму не дзіва, што ў вачах каханых**
**Вы мора бачылі і караблі**
**І свой апошні дзень, у кут загнаны.**

**Але ці бачылі вы туманок,**
**Той самы, што пад позіркам панурым**
**Пазвоньвае, як сонечны пясок,**
**У звонікі іконнай кампанулы, —**

**А пад вясёлым позіркам маім**
**Празрысты робіцца і лістападны**

І мяне праз які час проста завалілі лістамі і ледзь не на кожным адваротны адрас: п/с і нумар... Пісалі маладыя людзі, як гаворыцца, з месцаў не надта аддаленых, якія апынуліся там у сілу нейкіх абставін на той ці іншы тэрмін. Ігар быў адным з тых адрасатаў і, як пасля расказваў, прачытаўшы той верш, уявіў сябе маладым шчыглом у клетцы, але справа ўжо не ў гэтым. Дзесьці на пачатку дзевяностых званок у дзверы. Адчыняю. Стаіць яшчэ малады чалавек з "мільёнам пунсовых руж". Гэта і быў Ігар. А, бывала, мы сустракаліся выпадкова ў метро ці на вуліцы. Я радавалася за яго. Ён адкрыў нейкі свой бізнес і ўсё ў яго было проста выдатна. Вось і сказала нашаму міламу Н.:

— Ведаеш, ёсць у мяне адзін чалавек, які, напэўна, табе дапаможа, і з'едзеш ты ў свае дажджы. Пойдзем званіць...

Гэтак яно і здарылася. Ігар не адмовіўся стаць, як тады гаварылі, спонсарам, і Н. надоўга знік... Потым у яго былі і шумная слава і грошы, і нават званне ганаровага акадэміка нейкай французскай акадэміі. І вось... Н. у бронзе. Магчыма, прыйдзе да яго і Ігар. Не ведаю, дзесьці згубіліся яго сляды ў часе, як нярэдка губляецца след шчырага добрага чалавека. І прамовы ля помнікаў пачынаюць гаварыць зусім іншыя людзі. Зноў званок...

— Алё-ё... Волечка?! Якое палатно?! Мужа? Не турбуйцеся, прымацаваць, вядома, будзе дзе... Прыязджайце з унукам, пабавіцца тут з маёй праўнучкай.

Званіла Вольга Куртаніч. Трэба ж, надумалі... Муж у яе выдатны мастак, дык хочуць цэлае палатно прывезці ў падарунак. І хаця дом у мяне і не надта вялікі, усяго два паверхі на дзевяць пакояў, але сцен дастаткова. Прыладзім палатно на самым кідкім месцы. Усё-ткі добра, што тут, пад Шышчыцамі, я аблюбавала сабе гэты дамок. Ці ж магла калісьці падумаць, што так разрасцецца Мінск, і што можна будзе замахнуцца нават на ўласную будыніну? Калі ж гэта я купіла яе? Ды ўжо гадоў з восем... У Англіі тады выдалі майго "Міжпланетнага пажарніка" для дзетак. Вось і з'явілася магчымасць. І зазірае штодня густое кляновае голле ў вокны, прасейваючы сонечныя промні, замінаючы ім да канца асвятліць гэты пакойчык. А я, дарэчы, і люблю паўзмрок. Ён засяроджвае думкі і заўсёды навявае нейкую неразгаданую тугу... Па чым? Ці па кім? Усё імкнуся і імкнуся штосьці ўспомніць, а яно ніяк не даецца, і ці ўвогуле было яно, тое штосьці? Вялікая радасць, каханне, звычайнае простае шчасце... Ды і што яно такое? Хто можа сказаць, што спатоліў душу шчасцем?

— Бабуля... Чуеш, бабуля! Хтосьці ўжо звярнуў да нас... Табе трэба выйсці!

Ну, напэўна... Унучка прыадчыніла дзверы і адразу ж знікла. У іх сёння свой клопат, вунь які апетытны дух ідзе з кухні. Трэба ж нешта накінуць на плечы... І хто ж гэта там палівае кветкі ў пярэднім пакоі? Ба-а, Лена... Лена Папова... А я ж і думала, што яна мелася прыехаць раней...

— Дык ты ўжо тут? А чаго ж адразу не зайшла да мяне?

— Хацела, але Сяргей твой сказаў, што расхвалюешся раней часу і, чаго добрага, падскочыць ціск. Ну, ідзі, выходзь на ганак... Там ужо нехта прыехаў.

Глядзі ты, і надвор'е не падвяло, — вясёлы і цёплы майскі дзень. Шкада, што чарнабрыўцы яшчэ не цвітуць. Столькі кветак за жыццё прайшло праз рукі, а любімымі засталіся толькі гэтыя. Чыя ж там машына? Ды Лёша... Лёша Дудараў з Валяй!.. І навошта абыходзяць клумбу?

— Не абыходзьце! Прастуйце цераз яе!

А вунь і яшчэ легкавічок заворчвае... Вось і пачынаюць збірацца мае госці.

— Усё-ткі абышлі клумбу...

— Ды кінь ты пра яе! — Лёша, нібыта і не змяніўся, тыя ж лёгкія рухі. — Што ж табе сёння сказаць, Баравікова?!

— Што сказаць?.. Ды, каб жа я ведала, Лёша! Чарнабрыўцы яшчэ не цвітуць. Думаю, ці браты змогуць прыехаць... І ўвогуле... Маладосць наша дзесьці далёка-далёка ззаду, а наперадзе так блізенька дыхае вечнасць. Што ж тут ужо скажаш? Што скажаш?..

# «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА», N 9

Матэрыялы нумара пазначаны роздумам аб нашым часе, жаданнем аўтараў асэнсаваць тое, што было раней і што ёсць цяпер. У "Літаратурнай гасцёўні" філасофскай лірыкай прадстаўлены Н. Гілевіч. У раздзеле "Спадчына" выступаюць П. Краўчанка ("Акно ў вялікі свет") і Л. Раманенка "Люлянне на арэлях разбэрсанай ідэі". Г. Булыка гутарыць з маладым акцёрам В. Цітовым, які выконвае галоўную ролю ў фільме "Кветкі правінцыі", што здымаецца па сцэнарыі Г. Марчука — "У пошуках героя". У. Вялічка ("Мерсэдэс" прапісаўся ў Мінску") закранае надзённыя праблемы супрацоўніцтва паміж рознымі краінамі. Як заўсёды, змястоўныя раздзелы "Сацыяльны ракурс", "Права", "Экалогія" і іншыя.

# З ВЕРАЙ І ДУМАЙ ПРА НАШЧАДКАЎ...

Новымі сіламі жывяць духоўнасць нацыі слынныя майстры культуры. Такія, як доктар філалагічных навук прафесар Беларускага універсітэта культуры Мікалай Міхайлавіч Грынчык, які, акрамя грунтоўных даследаванняў у філалогіі, займаўся зборам рэдкіх і каштоўных выданняў. З верай і думай пра нашчадкаў перадаў Мікалай Міхайлавіч частку сваіх каштоўных выданняў у фонд рэдкай кнігі бібліятэкі універсітэта культуры.

Калекцыю прафесара Грынчыка склалі такія выданні, як "Гісторыя беларускай (крэўскай) кнігі" В. Ластоўскага (Коўна, 1924), "Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского" Г. А. Киприановича (Вильна, 1897), "Bielaruski chryscijanski ruch" A. D. Stankievica (Vilnia, 1939), Віленскае выданне 1923 года "Геаграфія Беларусі" А. Смоліча, кнігу М. Танка "Журавінавы цьвет" (Вільня, 1937), "Беларускія народныя песні" сабраныя і выдадзеныя Г. Шырмай (Вільня, 1929), выданне Вітаўта Тумаша "Наша песьня. Рэпертуар беларускага хору Р. Шырмы" (Вільня, 1938) і шмат іншых рэдкіх кніг.

Такое ахвяраванне яшчэ і яшчэ раз пацвярджае тое, што беларуская культура мае магутны духоўны патэнцыял, які дапаможа нашаму народу жыць цывілізавана, далучаючы новыя і новыя пакаленні да здабыткаў роднай мовы, літаратуры, культуры.

Л. ДОЎНАР

# НА ЖАЛЬ, ТОЛЬКІ Ў МІНСКУ

Дні з 17 па 22 лістапада мусяць прадставіць беларусам культуру Польшчы — у чарговы раз. На жаль, гэтым чарговым разам за ўсю Беларусь будзе адрабляць толькі Мінск.

Перадусім у адным з гарадскіх кінатэатраў (удакладняецца, у якім) пойдзе тыднёвая гаворка пра творчасць Анджэя Вайды пад абагульненым вызначэннем "Ягонае кіно і ягоныя акцёры". Праграму распачне "Дантон". За ім з'явяцца знакамітыя "Попел і алмаз", "Краявід пасля бітвы", "Беразняк", "Зямля абяцаная", "Пілат і іншыя", "Пані з Вілкі", "Пярсцёнак з арлом у кароне". Дадамо, што вызначэнне "знакамітыя" ўжыта пасля кансультавання з нашымі кіназнаўцамі; беларускі глядач цалюткі тыдзень мае магчымасць спадзявацца на адкрыцці.

"Любоўныя лісты" Гарнэя з вуснаў Даніэля Альбрыхскага і Барбары Вжэсіньскай пачуюць наведнікі Малой сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы 18 лістапада; у той самы дзень з зацікаўленымі асобамі сустрэнецца дэпутат Польскага сейма Анджэй Цылiньскі (месца сустрэчы вызначаецца).

20 лістапада ў касцёле св. Роха або Зале камернай музыкі філармоніі адбудзецца канцэрт Станіславы Цылiньскай.

Асобным абзацам паведамім, што ў такой дарагой — ва ўсіх сэнсах — акцыі знайшліся самаахвярныя фундатары: Беларускі фонд Сораса і Фонд Стэфана Баторыя (Польшча). Ім дапамагалі Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі, Міністэрствы культуры (адпаведна— Беларусі ды Польшчы), а таксама Саюз кінематаграфістаў і нават гарадское аб'яднанне "Кінапракат".



Паэзія

Антаніна ХАТЭНКА



## ЗАМОВА-ЗАКЛІНАННЕ

І ўдзень, і ўночы, і світаннем,
і на змярканні, і на ўсходзе,
біжы, вада, — журбы адхланне...
Спатоль пякельны боль, народзе!
У чыстым полі і ў дуброве:
у цэмры пушчы, ў цiхім гаі
ўзыдзі, маё святое слова,
на паратунак... Заклінаю!
Бяры святло зямлі, крыніца,
нясі, як кроў жывую вены.
Знясіленаму дай напіцца,
каб уваскрэсла ў сэрцы вера!
Блакіт слязы тваёй, крыніца,
няхай азорыць шчодра сонца!
...Пад крыж стары
вада бруіцца струменем
памяці бясконцай.
І маладзік, і поўня, й ветах,
І Мілавіца, і Дзянніца,
дабро пашлеце людзям свету!
Насыпце зорак у крыніцу!
У небе зоркі, ў лузе росы,
у лесе зёлкі лекавыя —
збалелых душаў чуйны космас,
Сусвету клетачкі жывыя.
Не раздзімайце, буйны ветры,
былінкі кволыя на свеце!
Трымай дзяцей, зямная нетра!
Гадуй заступнікаў сусвеце!
Разгушкай голас чалавечы
увысь, бязмежная прастора!
Хай зазірне у вочы вечнасць,
каб не душыла сэрца змора!
Гайдай, зямелька, жытні колас —
святую будучыню веку!
Кружся, Божых летаў кола —
не дай загінуць Чалавеку!
Не дай спустошыць людзям
душы, аберажы, кара зямная!
Гаючай повязі не рушце
зямлі і неба... Заклінаю!
Не рушце пругкай ніткі лёсу,
вятры залётныя, чужыя!
...Пляту жаночай долі косы,
вяду быццёвыя сцяжыны.
Іду. Праду зямнога шляху
жывое прадзіва святое
Жыццё звівае боль са страхам
і нараджэнне смерці тоіць.
Імкні, світальная дарога!
Надзея крылы развінае.
...Святла айчыннага парогу
Не растапчыце. Заклінаю!

•

Зямля-зямелька... Свята сямейка.
Мая надзея. Нясу нядзельна
гаючы зёлкі...
Малюся сонцу, чырвону золку.
Святыя вязні сваёй Радзімы...
Душа не гасне. Зямля не стыне.
Мае турботы. Мае трывогі.
Пчаліне — соты. А мне — дарога.
Іду шляхамі між неба й долу.
У светлым храме
малю я долі
майму народу, маёй Айчыне.
...Жывому роду не сплесць, не згінуць.
Бялеюць косці... Зямля мудрэе.
Гадуе Космас Жыццёва Дрэва.
Сусвет гукае да чыстых зорак.
Зямля трымае. Дзіця гаворыць.
... Сын чалавечы. Зямны. Нябесны.
Люляе вечнасць матулі песню...

## ПАЕДУ

*Паводле народных спеваў*

Паеду. Паеду... —
назад не вярнуся —
ў чужую бяседу
шукаць Беларусі.

Паеду. Паеду.
У начаньцы згіну.
Ні знаку, ні следу
я тут не пакіну.

Паеду. Паеду
ад роднае хаты,
ад пана-суседа,
ад хіжага брата.

Паеду далёка,
за горы, за долы.
Не кліч, не галёкай —
не ўчую твой голас...

Паеду. Паеду...
Адплачу. Забуду.
Не думаць, не ведаць,
як вецер-прыблуда...

Паеду. Паеду
ў чужыя харомы
вячэраць і снедаць
да гойстрай аскомы.

Паеду ў дарогу.
Крыжам памалюся.
А там, за парогам
няма Беларусі...

Паеду. Паеду —
куды глянуць вочы...
У прорву, у бездань
зняверана збочу.

Паеду. Паеду.
Слязiнай утруся.
Ды спраўлю абедню
за лёс Беларусі...

## МАЛІТВА Ў ДЗЕДАВУ СУБОТУ

Ціха пад вокнамі дыхае вечар.
Ноч атуляе стамлёныя плечы.
Зорных нябёсаў таемнае веча
Душы Дзядоў выпраўляе на стрэчу...
На далані маёй дыхае свечка.
А над Айчынаю дыхае вечнасць.

Жаліцца небу старэнькая груша —
Вецці счарнеламу
завязь не гушкаць...
Памяць астылае лісце варушыць.
Гуслі Дзядам спяваюцца скрушна.
З выраю жальна
вяртаюцца птушкі —
чуйныя родныя дыхаюць душы.

Стогне Радзіма,
з няволяй павенчана,
Хіжаю шабляй варожай
пасечана,
Здраднай касой курапацкай
скалечана.
Попелам чорнае былі апечана...
...І паўстае неадольная, вечная,
Гордаю княжай крывёю асвечана.

Перад балеснай зямелькай
укленчу —
чую: магілы паўстанцкія енчаць.
чую: адчайным заходзяцца крэчам
хаты пустыя, астылыя печы.
Чую самоту дарогі адвечнай —
боль невылечны і жаль чалавечы.

Белая поўня над чорнаю пожняй.
Дыхае свечка,
на вечнасць варожыць.
Мовай чужынскай і воляй варожай
не пакарай мяне, праведны Божа!
Белай Краіне не згінуць пароўжній —
Абарані ад бяспамяцтва, Божа!

З веку мінулага дыхае вецер.
Дыхае памяць у зорным Сусвеце.
Свечкаць паходня, у цемрадзі свеціць.
...Белае мроіва неба парушыць.
Белай малітвы начное не рушу —
Пад абразамі на покуці — душы...

Проза

Не ведаю як для каго, а для мяне заўсёды самым салодкім часам быў час ранішні. Цёплая падушка, цёплая коўдра, прыкідванне, як і што трэба зрабіць гэтым яшчэ адным падараваным табе днём.

Сённяшняя раніца нічым не адрозніваецца ад іншых, можа, толькі адным: мне — восемдзесят. Вунь на календары абведзена і дата — 11 мая 2027 года. Папраўдзе, дык і не думалася, што дацягну да гэтага дня. Спадзявалася на якіх-небудзь 65—70, а Бог накінуў яшчэ адзін дзесятак. І вось ляжу, з асалодай пацягваюся, любуюся парычком (на яго якраз гэтымі гадамі вярнулася мода), які сёння ўпрыгожыць за юбілейным сталом маю не такую ўжо і прывабную галоўку. Слухаю, як раз-пораз на кухні дзынькае посуд: дачка, нявестка, унучкі рыхтуюць святочны стол. Ну, а мне можна трошкі і адпачыць. Госці збяруцца дзесьці а пятай гадзіне. Ледзь не цэлы дзень вольнага часу, не садзіцца ж сёння за пісьмовы стол! Як ніколі на ім сапраўдны вэрхал: паштоўкі, віншавальныя тэлеграмы, нават зборнічкі вершаў ад маладых, — усё легла на яго. Толькі віншавальны ліст ад пана прэзідэнта паклала асобна.

Дзіўная рэч, некалькі гадоў таму назад ён мне адкрыў адну маленечкую таямніцу: сваё захапленне астраноміяй. На гэтым мы з ім і сышліся. Астраномія неаднойчы прыцягвала і мяне. Туманнасці, газападобныя зоркі, суседнія Галактыкі, тэорыі сціскання і разгортвання Сусвету, — суцэльная неспазнанасць і загадкавасць. Увогуле, цікавы чалавек гэты наш ці не пяты ўжо прэзідэнт. Падазраю, што ён вядзе перапіску не толькі са мною. А чаму б і не? З гісторыі вядома, што імператрыца суседняй Расіі Екацярына II перапісвалася з Вальтэрам. Вядома ж, я не Вальтэр, а прыемна атрымаць чарговы ліст ад прэзідэнта і развеяць яго нейкія сумненні, ці нават паспрачацца наконт той ці іншай астранамічнай тэорыі. Праўда, ён не надта любіць спрэчкі, ва ўсім хоча бачыць гармонію. Ат... Вось і званок... Напэўна, віншавальны. Трэба ўставаць і падыходзіць да тэлефона, сямейнікі сказалі: "Бабуля, сення твой дзень. Мы да тэлефона не датыкаемся!"

— Алё-ё... Танечка! Божа... Ну, вядома, усё разумею, пра што гаворка... Нічога страшнага, спазняйцеся!

Значыцца, Таня Сапач і Сяргей Дубавец спозняцца. А я ж казала: "На якое ліха вам гэты "Мерсэдэс", купляйце лепш "Таёту", мая хаця і старэнькая, а вунь яшчэ як цягне!" Не прыслухаліся, купілі. Цяпер штодня рамантуюць. Ну нічога, як-небудзь дабяруцца з Вільні. Дзе ж гэта? Куды прыткнула апошні нумар "Полымя"? Якая светлая ў Тані там нізка вершаў, — з нейкім прытоеным сумам, які, што ранішні туманок, запаўзае ў душу і працінае да дрыжыкаў. Столькі наставіла радасных клічнікаў, не забыцца б паказаць ёй.

Класціся назад у ложак ужо не хочацца. Трэба трошкі размяцца, пахадзіць па пакоі. І пра што ж гэта думалася да званка Дубаўцоў? Ага, прэзідэнт... Яго віншавальны ліст... А я, здаецца, апошнюю сваю кніжку яму не паслала, ды штосьці ён пісаў пра яе ў лісце. Значыцца, купіў сам. Дзіўная ўсё-такі штука жыццё! Зазірнеш у мінулае і ўсё роўна, як які тэлесерыял, сцэнарый якога напісаны рукою Самога Творцы. І не збочваеш, ідзеш па тым, што наканавана, — дзе подбегам, дзе больш павольна. Там спатыкнешся, там абтрасешся, а там і заплачаш... І ўсё ідзеш, ідзеш...

— Бабуля, які даставаць фарфор? Кітайскі, ці, можа, паставіць наш?

— Гэта ўжо на ваш густ... Які палічыце патрэбным.

От... Справа, напэўна, не ў фарфоры. Нявестка паслала ўнучку, каб даznацца, сплю я ці паднялася ўжо. Бач ты, посуд не могуць выбраць. А іх бы туды, у тую вялікую дэпрэсію, як калісьці пра свой падобны час гаварылі амерыканцы. Думалі б не пра фарфор, а пра тое, што пакласці на талерку. Якія ж гэта былі гады? Дзесьці сярэдзіна дзевяностых... Не, пачыналася ўсё значна раней. Сярэдзіна дзевяностых — гэта ўжо ледзь не самы пік. Распачыналася прыватызацыя... Куды ж падзеўся, у якіх гадах застаўся той малады празаік, што ўсё тады крычаў на нейкіх сходах: "Дайце мне Ясную Паляну і я стану Львом Талстым!" Яснай Па-

які з 1601 г. служыў пры двары Зыгмунта III Вазы (хутчэй за ўсё, у гродзенскай капэле), таксама пісаў лютневыя "польскія танцы", скарыстоўваючы мясцовы ліцвінскі фальклор.

Каштоўны дакумент па гісторыі бытавання лютні на Беларусі — літаратурныя ўспаміны Кшыштафа Завішы (1666—1721). Мінскі ваявода, пісьменнік-мемуарыст сур'ёзна захапляўся і музыкай — цудоўна граў на лютні ды наогул, вельмі шанаваў мастацтва лютністаў: "...Шаснаццатага дня (сакавік 1699 г.) прымаў гасцей, былі ксяндзы Юрэвіч і Панежынскі — канонікі віленскія, кс. Старжынскі — захавальнік смаленскі, жонка жмудскага суддзі Шэмета з дачкамі і сынамі, п. Войта — староста браслаўскі ды святары дамінікане. Дачка суддзі — маладая паненка на лютні музіцыравала, вельмі добра граючы, і тая музыка ў пост не выклікала абурэння, як у той прымаўцы: "каго лютня не ўсцешыць" (Pamietniki Krzysztofa Zawiszy. Warszawa 1862). Сярод "слуг і дробнай чэлядзі, памершых ад 1863 г.", Завіша згадвае прозвішча музыканта Былінскага: "Лютніст і скрыпач, цудоўны чалавек, надзвычай добры, дні свае, на сухоты хварэючы, закончыў набожна ў Вільні ў 1699 г.".

Біёграф Агінскага — Анджэй Цеханавецкі пісаў таксама: "Колькасць капэлаў і музычных ансамбляў у дадзеную эпоху была такой вялікай, што ўздымаліся галасы, каб абкласці гэтую раскошу падаткам. Так, жыхар Наваградчыны Казімір Несялоўскі апублікаваў у 1743 г. артыкул "Аб правядзенні вольнага часу ў прыватных дамах". У ім гаворыцца: "Пан, які ўтрымлівае капэлу, павінен штогодна плаціць трыста злотых падатку. За малы арган — дзесяць злотых, за віяланчэль — два злотых, ...за лютню — дваццаць грошаў..."

Шэраг цікавых звестак падаецца ў навуковых працах беларускіх даследчыкаў. Так, Г. Барышаў у кнізе "Тэатральная культура Беларусі XVIII ст." піша: "Першыя сведчанні пра арганізацыю балета ў Слуцку адносяцца да восені 1753 г. У перапісцы Г. Ф. Радзівіла з К. Вендорфам — конюшым літоўскім ёсць сведчанні аб тым, што рэгент П. Марахоўскі спыніўся ў Белай па дарозе ў Слуцк з трупай акцёраў і інш. тэатральных спецыялістаў, якіх нанялі ў Вене: "Рэгент прывёз з сабою балетмайстра, італьянку-кантатрычэ, арфіста, лютніста" (ст. 188); "першая камедыя У. Ф. Радзівіл "Дасціпнае каханне" пабачыла свет 13-га чэрвеня 1746 г. ... Пастаральнай трэба лічыць сцэну "ў полі"... Сцэна ішла на фоне лірычных песень пад акампанемент флейты, гітары і лютні" (ст. 110). Пра тое, што лютня гучала ў тэатральнай п'есе "Сонца ў кнізе" (Віцебск, 1733 г.), можна даведацца з кнігі В. Дадзіёмавай "Музычная культура гарадоў Беларусі" (ст. 116). Музыказнаўца сцвярджае, што паміж 1740—1756 гг. у Нясвіжы выступала лютністка "пані Лянскаронская, чыё мастацтва прыйшлося па густу Міхалу Казімежу Радзівілу" (ст. 42); што "слуцкая капэла Гераніма Фларыяна Радзівіла ў канцы 1740-ых гадоў" таксама "ўключала лютню" (ст. 29). Аўтарка кнігі прыводзіць фрагмент верша, прысвечанага музыкантам слуцкай капэлы:

**Замест муз Апалона капэла прадстала,**
**Інструментаў прыемным гучаннем**
**нам сэрцы натхняла,**
**...Тон гукаў музыкаў, гармоніі пераліўы**
**Зліваюцца, рэзаніруючы,**
**Пану для забавы.**
**Гэты настройвае ціхенька лютню,**
**той — клавічэмбала...**

Вельмі сціплая даведка даецца А. Мілерам ("Тэатр польскі і музыка на Літве"), а таксама В. Дадзіёмавай пра чэшскага музыканта Ёзафа Когута — лютніста нясвіжскай і слуцкай радзівілаўскіх капэл. Праўда, прозвішча "Ё. Когут" (1736—1793) уключана ў энцыклапедыю "Ottaw slownik naucny" (Прага, 1897 г.) не толькі як прозвішча лютніста, але і трубача, кампазітара (аўтара камічнай аднаактовай оперы, пастаўленай у Парыжы). Ці не тая самая гэта асоба?

Словам, фактаў багата. Хвала лютні гучыць і ў аперэце Р. Вардоцкага "Апалон-заканадаўца", пастаўленай вучнямі забельскай дамініканскай калегіі (1789 г.) ... Але ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. на змену арыстакратычнаму мастацтву лютністаў прыйшла больш дэмакратычная гітара. Нягледзячы на гэта, лютня засталася гераіняю свецкіх літаратурных салонаў; словамі ашмянскага паэта А. Адынца — яшчэ пануе "лютні Боскай спеў". Вось — пачатак папулярнай тады на Беларусі песні Яна Аношкі (1775—1827 гг.):

**Тут, дзе плач птушыных дзетак,**
**Дзе бруіць крыніца,**
**Стогне лютня — смутак гэтак**
**Я змушаю ліцца.**

*(З артыкула Р. Падбярэскага "Беларусь і Ян Баршчэўскі").*

А вось У. Мархель (кніга "Крыніцы памяці") знаёміць чытача з малавядомым у пачатку XIX ст. польскамоўным паэтам Юзафам Маралеўскім — ураджэнцам Віцебшчыны, аўтарам песні "Да лютні", паэмы "Лютня".

Свае паэтычныя радкі прысвячае ёй Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч:

**О, Апалон-бажок! У дрэнным я настроі,**
**Ты, можа, развяселіш,**
**лютню мо настроіш?**
**Складзі геройскі гімн,**
**чароўныя ўскінь тоны,**
**На пусташ нашу, на Люцынскія загоны.**

*(Апавяданне "З-пад Іслачы").*

Або яшчэ:

**Ці песні, што мной валадарыць,**
**Цяпер у смутку адзінокім**
**Я не забыўся ненарокам?**
**Спрабуйма ў струны лютні ўдарыць.**

*(Меладрама "Апантаны").*

Гучыць яна і ў санетах А. Міцкевіча, і ў яго ліцвінскім рамансе "Дудар":

**Нейк аднойчы яго насцігаю,**
**Як і заўсёды, ён марыў,**
**Лютня са мною, песні я знаю,**
**У звонкія струны я ўдарыў.**

Адзін з ранніх вершаў Францішка Багушэвіча быў напісаны ў Вільні пасля канцэрта варшаўскага харавога таварыства "Лютня":

**"Лютня" айчыны! У старонцы любімай**
**Уваскрашай нашу родную песню!**
**І можа, песняй, напевам радзімым**
**Вызваліш дух наш ад сну і ад плесні?**
**О, чараўніца! Гучанне шырокіх**
**Песень тваіх, што мы любім без меры,**
**Хай разлятаецца з рэхам далёка**
**І поўніць душы надзеяй і верай.**
**"Лютня", спявай нам!**
**Бо спеў твой — прарочы:**
**Твой люд жыве, што свае песні мае,**
**Бо мёртвы пець больш нічога не хоча,**
**Песню ж жывую і смерць не спужае.**
**Ты аблягчай песняй мукі няшчасных,**
**Будзь для іх ласкай, любоўю, душою;**
**Стань ты надзеяй для тых, хто заўчасна**
**Горка аплаквае шчасце былое.**
**Гукі злівай у гармоніі весняй,**
**Сімвалам еднасці стань для краіны,**
**Вечна жыві і спявай нам, бо песня**
**Можа і мёртвых падняць з дамавіны.**

Вядомы віленскі публіцыст Люцыян Узембла ў сваім некралогу "Паэт-юрыст" параўнаў паэтычную творчасць Ф. Багушэвіча з музычным майстэрствам В. Бакфарка: "У жыцці, як у песні, рвуцца струны ўсякіх лір у элегійных стогнах — іншыя нацягваюць новыя; але часам доўга яны маўчаць. Як пасля Бекварка лютню, хто ж з годнасцю возьме ў спадчыну беларускую жалейку пасля пана Францішка?" (з кнігі Г. Кісялёва "Пачынальнікі").

XIX стагоддзе слушна называюць перыядам упадку лютневага мастацтва. Нават у буйнейшых музычных цэнтрах Еўропы гэты інструмент — даволі рэдкая з'ява на канцэртнай эстрадзе. Напісаныя ў Барэйкаўшчыне "Каралеўскія лютністы" У. Сыракомлі прысвечаны пані Караліне Пранеўскай "W dowodzie powazenia Jej talentu". Хто яна — невядомая пані? Можа, з тых апошніх арыстакратак, што валодалі гэтым вытанчаным мастацтвам?..

На пачатку XX ст. паэтычную назву "Лютня" меў віленскі польскі тэатр, якім захапляўся Янка Купала; пад гэтай жа назвай у лістападзе 1906 г. у Дзвінску ўзнікла музычнае таварыства. Вобраз лютні прадаўжае жыць і ў беларускай літаратуры. Прынамсі, Змітрок Бядуля згадвае лютню ў апавяданні "Сімфонія": "Голас яе гучыць старадаўняй лютняй. Чуецца сум, жальба..." А ў аповесці "У дрымучых лясах" ён піша: "Іду лясной дарогай. Пахне смалою, багуном і грыбамі. Спяваюць жаўранкі. Можа, гэта грае на лютні мая Мірыям? Здалёк плывуць да мяне гукі жніўных песень. Спявае некалькі жанчын. Палоняць мяне жыватворныя сілы зямлі — яе радасці і смуткі".

Павольныя паваны ды трохдольныя гальярды, скрупулёзна зашыфраваныя ў лютневых табулатурах... Яны не памерлі — яны ажываюць пад пальцамі сучасных гітарыстаў, натхняючы паэтаў і пісьменнікаў. Прыемна завяршыць гэты нарыс фрагментам з цыкла Валянціны Аксак "Каларатурнае сапрана":

**Мне сын іграе на гітары**
**мелодыю,**
**якую склаў для лютні**
**Франчэска да Мілана,**
**і выцінаў яе**
**ў Мантуі герцагу,**
**а ў Рыме —**
**кардыналу.**
**Камусьці ліра,**
**некаму літаўры**
**распавядуць,**
**як найхутчэй распутаць**
**клубок крыцянскай дзевы**
**Арыядны**
**і шлюбную пачуць кіфару.**
**Мне ж сын зайграе**
**на гітары**
**мелодыю для лютні.**

**Валеры ЖЫВАЛЕЎСКІ,**
**старшы выкладчык Беларускай акадэміі музыкі**

# АМЕРЫКА — ЯЕ АМЕРЫКА

Нячаста мастацкія выставы суправаджаюцца розгаласамі. Яшчэ больш рэдкая з'ява — чэргі на іх. Ды і абмеркаванні пасля адкрыцця — таксама не прыняты. Выстава Тамары Стагановіч у Мастацкім музеі — адметная. Шматлюдным, шматгадзінным адкрыццём. Такой нязвыклай цікаўнасцю наведвальнікаў нават у будзённыя дні, не гаворачы пра велічэзны спіс спонсараў (Інфармацыйная служба Амбасады ЗША ў Мінску, Фонд Сораса, Нацыянальны мастацкі музей, фірмы "DAINOVA", "Экспасервіс", "PUSHE", "RONAS", "Інтэркантыненталь— СКВ", "Белмед", "VESNA", "ТПЦ ЎЛАД", "TUMAS"), магчыма, так нараджаюцца доўгачаканыя мясцовыя мецэнаты?



*Т. Стагановіч.*

Але галоўнае — не гэта. Пачнём з таго, што Тамара — родам з Наваградка, у 1950 годзе, у свядомым ужо ўзросце, разам з бацькамі эмігравала ў ЗША. Скончыла Оксфардскі вестэрн коледж, вучылася ў Нью-Йоркскім універсітэце ў інстытуце прыгожага мастацтва, а дыплом магістра атрымала ў Калумбійскім універсітэце, студыявала графіку. Тамара Стагановіч — прафесійная мастачка і, мяркуючы па ўсім, досыць вядомая ў Амерыцы. Зрэшты, і там не многія дазваляюць сабе раскошу жыць са сваёй творчасці. Яна — жывапісец, улюбёны ў прыроду, і графік, які з дзівоснай вытанчанасцю і лірызмам стварае кніжныя мініяцюры і замалёўкі. Беларусь прыходзіла да яе праз успаміны і кнігі. Трыпціх "Статуя Свабоды", падораны ёю летась нацыянальнаму мастацкаму музею, быў натхнёны этнаграфічнымі зборамі Міхася Раманюка.

На Беларусь пасля эміграцыі Тамара Стагановіч упершыню прыехала да адкрыцця сваёй выставы. Уражанне ад сустрэчы з ёю трохі збянтэжыла: не было звыклай амерыканскай раскаванасці і ўпэўненасці. Сціплая, крыху сарамлівая ад такой цікаўнасці да сябе жанчына (адразу згадваеш непрыкметных, але такіх прыгожых бабулек каля сімвала Амерыкі на трыпціху мастачкі), удзячная за цеплыню і ўвагу да сваёй асобы. Тым больш, што выявілася гэта ў бясплатна прадастаўленай музеем галерэі.



*Зубры. Елаўстонскі нацыянальны парк. Штат Ваёмінг.*

Дыяспара беларусаў у свеце не такая ўжо вялікая і багатая на свядомыя таленты. Тым не менш жыве на Беласточчыне Лёнік Тарасэвіч, у Аўстраліі — Уладзімір Каржанеўскі, у Швецыі — Ян Кузьміцкі, у Францыі — Георгій Забораў, у Амерыцы — Галіна Русак, Тамара Стагановіч, Мікола Пашкевіч... Але пакуль яшчэ не ўсвядомілі мы сваіх знаных эмігрантаў часткай нацыянальнай культуры, не пачалі разважаць пра іх творчасць з пазіцый прафесійнасці і якаснасці, а толькі-толькі спрабуем праз зразумелую сентыментальнасць знайсці ім належнае месца ў беларускім мастацтве. А гэта — складаны працэс, бо мусіш меркаваць пра вядомых за мяжою мастакоў.

Вядома ж, прыцягальна вышукваць у работах эмігрантаў пэўную еднасць з намі, адухоўлёную беларускасць, адчуваць нязнікшы ад чужой мовы і лепшага ладу жыцця генетычны нацыянальны код. Прыгадаем эмацыянальны ўзрыў грамадства падчас першых канцэртаў Данчыка, гэта размовы з Ахолам-Вало, айцом Надсанам, з усімі, хто захаваў сваю айчыннасць. Што датычыць выяўленчага мастацтва, яно больш за астатнія творчыя галіны агульнасусветнае. Мастацкія тэндэнцыі і накірункі чужыя звыклай этнаграфічна-нацыянальнай прыналежнасці. А пануючы зараз у свеце мадэрн не дазваляе прамалінейнага нацыянальнага прачытання работ. Галоўнае, што ацэньваецца, — прафесійнасць, глыбіня мыслення, арыгінальнасць. Код нацыянальнага становіцца падтэкстам, які праз колеравую гаму, малюнак ліній, кампазіцыю замацоўвае гэтую генетычную прыналежнасць падсвядома.

Як мастачка Тамара Стагановіч была нам цалкам невядомая. Тое, што паказала яна на сваёй выставе (каля пяцідзесяці работ), дазваляе паразважаць пра творчасць беларусаў-эмігрантаў. Па-жаноцку лірычны, колерава гарманічны жывапіс яе дае адразу шматлікія паралелі — з Тыцыянам, з французскімі імпрэсіяністамі (мяккія колеры Нью-джэрскіх балот), з японскімі гравюрамі, якія натхнялі Ван Гога (геаметрычнасць і колеравае буйства Чырвонага каменя). Пра Тамару нельга гаварыць спрошчана, спрабуючы знайсці яўныя паралелі з беларускім мастацтвам. Памяць падказвала ёй зімовыя шэра-карычневыя пейзажы, дзе няўлоўна праглядаецца мілы сэрцу пералесак дзе-небудзь пад Наваградкам. А скалы над Гадсанам выглядаюць як кастрычніцкая чырвань лясоў. Альбо такія блізкія яе сонечныя сосны (мастачка так і назвала работу "Мае сосны"). Асабіста мяне кранула адна з апошніх, найбольш абстрактных яе работ "Чарот N 1", дзе на ветрыку злёгку калышацца мяккага колеру трава. Знаёмая прыгажосць... Сама мастачка ўзгадвала, як у дзяцінстве пабачыла ў Альтэ Пінакотэк музеі ў Мюнхене карціну "Пан, седзячы ў чароце, грае на флейце". Пан — славянскі паганскі сімвал, загадкавы і прыцягальны. Каб так уяўляць, пэўна, трэба нарадзіцца ў мясцінах, дзе пануе лес і прырода, дзе паганства захоўвае сваю моц і да сёння, дзе разумовае адступае і закрадаецца ў сэрца прыгажосць, якую часам называюць міфалагічным мысленнем. Мажліва, менавіта яно, з дзяцінства закладзенае ў свядомасць і падсвядомасць, дазваляе не выдумляць, а рэальна знаходзіць у творах Тамары Стагановіч і многіх іншых беларусаў-эмігрантаў код нацыянальнага мастацкага мыслення.

Грунтоўнае асэнсаванне мастацтва эміграцыі — наперадзе. Мы ўжо звыкаемся з думкай, што яно — частка беларускай культуры, і не горшая. Бо гэта таксама наша прадстаўніцтва ў свеце, сцверджанне нацыі.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота А. МАЦЮША*

# ПРАФЕСІЯНАЛЫ — ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Адкрыла свой трэці канцэртны сезон Філармонія для дзяцей і юнацтва. Толькі 1 верасня, у Дзень ведаў, артысты далі 29 канцэртаў, якія з вялікім поспехам прайшлі ў розных навучальных установах Мінска. А ўвогуле штомесячна калектывам праводзіцца больш за 200 канцэртаў. Пераважна ўсе яны адбываюцца ў сталіцы, але некаторыя канцэртныя брыгады выязджаюць у райцэнтры Віцебскай, Брэсцкай, Гродзенскай абласцей, маючы дамоўленасці з мясцовымі філармоніямі.

Калектыў аб'ядноўвае спевакоў, чытальнікаў, музыказнаўцаў, салістаў-інструменталістаў — усяго каля 60 чалавек. Сярод іх спевакі — заслужаныя артысты Беларусі У. Вепрык, Б. Казанцаў, Ф. Севасцьянаў, І. Краснадубскі, цымбалісты — лаўрэаты Рэспубліканскага і Усесаюзнага конкурсаў А. Лявончык і Т. Шумакова, музыказнаўцы — І. Зубрыч, А. Парэцкі, А. Агаркава, чытальнікі В. Сабераў, М. Казінін, канцэртмайстры Т. Вішнякова, М. Лапацін, А. Цяльцоў ды інш. Усе яны займаюцца высакароднай справай далучэння дзяцей і моладзі да мастацтва, выхавання іх эстэтычных густаў. Не вельмі простая гэта праца, але патрэбная і пачэсная. Артысты адчуваюць асаблівую адказнасць перад дзецьмі і заўсёды робяць сваю справу на самым высокім прафесійным узроўні.

**Вольга БРЫЛОН**

# МАСТАК З СЯМ'І КУПАЛЫ



**На творчай ніве твораць нямала мастакоўскіх, пісьменніцкіх сямействаў. Гэта асаблівая пераемнасць годным чынам тычыцца і роду Янкі Купалы, чый пляменнік Янка Раманоўскі (сын сястры паэта) стаўся прафесійным мастаком.**

**Дваццаць год мінула, як адышоў ён з жыцця на ўзлёце свайго творчага даравання. Урачыстая вечарына памяці мастака, наладжаная ў Літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску, дазволіла ўваскрасіць раней невядомыя старонкі яго жыцця ва ўспамінах сваякоў, родных. Выступалі яго калегі-аднакурснікі Арлен Кашкурэвіч, Людвіг Асецкі, Кастусь Ціхановіч, Пётра Драчоў, Ілля Немагай; аднадумцы з літаратурнага асяроддзя — Рыгор Барадулін і Мікола Аўрамчык. Янка Раманоўскі пасля заканчэння ў канцы 50-х гадоў Тэатральна-мастацкага інстытута (першы выпуск графікі) працаваў мастацкім рэдактарам часопіса "Маладосць" і праз яго асобу многія маглі ўзаемна пазнацца ў коле беларускай творчай інтэлігенцыі. Мастак, вельмі сардэчны і спагадлівы ў адносінах да людзей, не мог не прыцягваць аднагодкаў і маладзейшых.**

**Янка Раманоўскі і ў творчасці быў асабліва мэтанакіраваны, распрацоўваючы тэму "Купаліяны". Ён не быў першым і адзіным, хто стварыў у жывапісе і графіцы вобраз Янкі Купалы. Але яго серыі, пачынаючы ад "А хто там ідзе", увекавечылі свет песняра і яго герояў з псіхалагічнага боку, што заслугоўвае найвышэйшай адзнакі. Пра гэта сведчыла выстава Раманоўскага, разгорнутая ў памяшканні музея.**

**Мастак паходзіў з сям'і, асвечанай духам Купалы. Ён пражыў з паэтам пад дахам менскай кватэры больш за дзесяць першых год свайго жыцця. Гэта не магло не паспрыяць фармаванню яго творчых здольнасцей. З другога боку, як прадстаўнік нацыянальна свядомай сям'і, ён спазнаў тэрор і гвалт. У 1937 г. быў закатаваны ягоны бацька, і толькі значнасць імя Купалы выратавала дзяцей сястры.**

**Нягледзячы на чорную адмеціну трагічных выпрабаванняў, мастак праз асобу роднага дзядзькі стаў у мастацтве прапагандаваць нацыянальныя каштоўнасці, што на той час былі ў ідэалагічнай апале. Ён наблізіў да пасляваеннага пакалення "жывы", ненадуманы вобраз Купалы і распачаў шлях апазіцыйнага і незалежнага ў адносінах да афіцыйнага штукарства нацыянальнага мастацтва 60—70 гг. Хіба гэтага мала, каб заслугоўваць найменне класіка ў мастацтве незалежнай, адроджанай ад нацыянальнага бяспамяцтва краіне?**

**Гэта дакладна бачыцца праз часавую аддегласць. Як і тое, што адсутнасць дакладных звестак пра мастака, знаёмства з яго творамі праз рэпрадукцыі газетных і часопісных старонак даволі моцна зніжае аб'ектыўныя ўяўленні і ўражанне ад творчасці. Дзякуючы намаганням музея асоба Янкі Раманоўскага пачынае паўставаць у сваіх магутных памерах побач з постаццю вялікага паэта, як прыклад творчай пераемнасці на ніве беларускага Адраджэння.**

**Яўген ШУНЕЙКА**

*Я. Раманоўскі. Партрэт Я. Коласа. 1961 г.*

*Фотарэпрадукцыя А. МАЦЮША*

Віншуем!

# Івану КУРБЕКУ — 60

"Іван, Сцяпанаў сын, Курбека — гумарыст прыроджаны. Каб у гэтым пераканацца, варта толькі адзін раз паслухаць яго ці прачытаць невялічкі досціп". Гэтак сказаў Рыгор Барадулін, прадстаўляючы ў "Бібліятэцы часопіса "Вожык" кнігу І. Курбекі "Абы здароўе". Хто-хто, а Рыгор Іванавіч ведае цану слову, у тым ліку і слову сатырыка-гумарыстычнаму, таму і звярнуў увагу на І. Курбеку. Як звярнулі і іншыя, каму давялося пазнаёміцца з творамі Івана Сцяпанавіча, якія рэгулярна можна сустрэць у рэспубліканскай перыёдыцы.

Увогуле ж І. Курбека свой лёс звязаў з музейнай справай. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта працаваў у Літаратурным музеі Янкі Купалы, а затым перайшоў у Літаратурны музей Якуба Коласа, дзе працуе ўжо трыццаць гадоў.

Шмат робіць па прапагандзе беларускай літаратуры. Склаў альбом-выстаўку ў школе "Янка Купала" (былі два выданні), альбом-выстаўку "Якуб Колас у школе" (разам з М. Базарэвічам, таксама два выданні), альбом "Якуб Колас" (у сааўтарстве). Да 100-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа падрыхтаваў кнігу "Успаміны пра Якуба Коласа".

Піша І. Курбека і для дзяцей. У прыватнасці, у 1991 годзе выйшла яго кніжка "Хітрыя літары", змест якой склалі творы, што дазваляюць лепш адчуць магчымасці роднага слова. Гэтай жа мэце падначалены і зборнік "Руска-беларускія крыжасловы. Займальны дапаможнік для ўдасканалення мовы".



# «ДЗЯРЖАВА ЗАЎСЁДЫ БЫЛА ДРЭННЫМ ГАСПАДАРОМ»...

*(Пачатак на стар. 5)*

ся прадукцыяй Жлобінскай дзяржаўнай футравай фабрыкі, сёння, пасля ўводу ў дзеянне нагаданага ўказа, спынілі сваё існаванне. Пад пагрозай закрыцця апынулася і футравая фабрыка, якая не можа цяпер рэалізаваць сваю прадукцыю і поўнасцю затаварылася.

**— У падобнай сітуацыі, калі помніце, апынуўся ў Мазыры і ўладальнік невялікага швейнага прадпрыемства, які пасля гэтага ўказа вымушаны яго закрыць, даўшы разлік 16 швачкам, якія тут працавалі. "Роспачы іх не было канца, — расказваў прадпрымальнік, — бо сёння ў Мазыры ўладкавацца на працу вельмі цяжка".**

— Вось я і пытаюся: хіба гэта дзяржаўны падыход? Мы ў саюзе падрыхтавалі дакумент, у якім гэты прэзідэнцкі ўказ кваліфікуецца як акт, што парушае законы аб уласнасці, аб прадпрымальніцтве, аб прадпрыемстве і інш. Адным словам, з многімі ўрадавымі структурамі мы пакуль што паразумення не знаходзім.

Інвеставаць сродкі ў прыватны бізнес наш урад не хоча. А, тым часам, у першым квартале гэтага года дзяржава ўбухала ў непрацуючыя прадпрыемствы 3 мільярды рублёў, каб выплаціць зарплату і гэтым папярэдзіць, нейтралізаваць незадаволенасць рабочых. А калі б 10—15 працэнтаў бюджэту праз доўгатэрміновыя крэдыты выдзелілі на развіццё прыватнага бізнесу ў вытворчасці, напрыклад, будаўнічых матэрыялаў, швейных вырабаў, прадуктаў харчавання, развіцця гандлю, сферы бытавога абслугоўвання, стан нашай эканомікі не выглядаў бы так змрочна як сёння.

**— Я чуў, што ў Маладзечне для бізнесменаў створаны рэжым найбольшага спрыяння?**

— Так, і ад гэтага горад толькі выйграў. 65 працэнтаў яго бюджэту фарміруецца за кошт падаткаў з прыватных прадпрымальнікаў. Тут зразумелі, што нельга забіваць курыцу, якая нясе залатыя яйкі. Ільготы ў падаткаабкладанні прыватнага бізнесу прыцягнулі сюды шмат фірм з іх капіталам, У прыватнасці, тая ж "Дайнова" зарэгістравана ў Маладзечне, хоць яе офіс знаходзіцца ў Мінску (гэта дазваляецца законам).

Але, на жаль, Маладзечна хутчэй у гэтым сэнсе выключэнне з правілаў. У Докшыцах, напрыклад, доля падаткаў з прыватнага бізнесу ў мясцовым бюджэце складае ўсяго 0,02 працэнта.

**— А ў Мінску?**

— У Мінску — 32 працэнты. Лічу, што магло быць больш.

**— І ўсё-такі, Уладзімір Мікалаевіч, што асабліва замінае актывізацыі айчыннага бізнесу?**

— Прычын такіх шмат. Пра некаторыя з іх мы ўжо з вамі гаварылі. Самай невыноснай удаўкай на шыі прадпрымальніцтва з'яўляецца існуючая падаткавая палітыка. Наогул, разабрацца ў нашых падатках — чорт галаву зломіць. Адны з'яўляюцца, другія знікаюць, увесь час мяняецца практыка іх спагнання і г. д. У нас бяруць падаткі нават з часткі прыбытку і дабаўленай вартасці, якія ідуць на інвеставанне, пашырэнне вытворчасці. Нідзе ў свеце такога не робіцца. У краінах з развітой рыначнай эканомікай колькі ні было налічана падаткаў, у суме яны не павінны перавышаць 34 працэнтаў з атрыманага прыбытку. Лічба гэтая была разлічана амерыканскім эканамістам лаўрэатам Нобелеўскай прэміі Ласэр, які даказаў, што ўжо 35-ы працэнт спагнанага падатка ўключае механізм антыматывацый і грошы пачынаюць пераходзіць у ценявую эканоміку. Ёсць навукова выверaная мяжа, за якой павелічэнне падаткаў, як гэта ні парадаксальна, пачынае збядняць бюджэт. У нас гэта аніяк зразумець не жадаюць.

Другое пытанне, у разуменні якога мы разыходзімся з прэзідэнтам, — роля дзяржавы ў развіцці эканамічных інстытутаў. Аляксандр Рыгоравіч, мы лічым, надае залішняе значэнне кантралюючым функцыям дзяржаўнага апарату, які павінен умешвацца ў "все і вся". Але ж гэта — адна з праяў адміністрацыйна-каманднай сістэмы, і ўсё гэта мы ўжо "праходзілі"...

**— У масавай свядомасці прыватны бізнес у першую чаргу асацыіруецца з так званымі "камкамі", якія знявечылі выгляд нашых гарадоў.**

— "Камкі" і ўсё, што з імі звязана, ніякіх адносін да сапраўднага, цывілізаванага бізнесу не маюць. Ва ўсякім разе, сярод членаў нашага саюза іх няма.

**— Я вам падкіну яшчэ адно "интересное" пытанне. Каб пачаць бізнес, патрэбны першапачатковы капітал. А нажыць яго сумленным шляхам, кажуць, немагчыма. Вы згодны з гэтым?**

— У якасці першапачатковага капіталу можна выкарыстаць банкаўскі крэдыт. У іншых краінах існуюць крэдытныя саюзы, інвестыцыйныя фонды. Капітал, якім валодаюць крэдытныя саюзы ў ЗША, — 300 мільярдаў долараў. Падобныя структуры трэба ствараць і ў нас. Дарэчы, да кастрычніцкага перавароту Беларусь была неафіцыйнай сталіцай крэдытных саюзаў усёй Расійскай імперыі. Цікавы збег акалічнасцей — офіс Саюза прадпрымальнікаў Беларусі зараз месціцца ў доме па вуліцы Інтэрнацыянальнай, які да рэвалюцыі належаў крэдытнаму саюзу.

**— Скажыце, Уладзімір Мікалаевіч, ці многа ў нашай краіне вельмі багатых людзей?**

— Гледзячы што вы маеце на ўвазе, кажучы — вельмі багаты чалавек...

**— Баюся паказацца смешным і наіўным, але, па маім разуменні, пры нашых рэаліях, гэта людзі, якія валодаюць сотнямі тысяч долараў.**

— Вы сапраўды наіўны чалавек. У дадзеным выпадку рахунак ідзе на мільёны долараў.

**— Гэта бізнесмены?**

— Гэта людзі, якія ходзяць у вельмі някідкім адзенні, не маюць ні дач, ні прэстыжных аўтамашын і наогул вядуць вельмі сціплы лад жыцця.

**— Гэткія сучасныя Карэйкі з "Залатога цяляці" Ільфа і Пятрова?**

— Амаль што.

**— Вы мяне, Уладзімір Мікалаевіч, заінтрыгавалі. Каго ж вы маеце на ўвазе?**

— Звычайных дзяржаўных чыноўнікаў, якія мелі дачыненне да заключэння рознага роду кантрактаў з замежнымі фірмамі.

**— Як я зразумеў, фірма магла добра аддзячыць чыноўніка за выгадны ёй кантракт?**

— Вы ўсё правільна зразумелі.

**— Але ж ад дзяржаўнага чыноўніка залежыць і наш айчынны бізнесмен. Так што прымаўка "Не падмажаш, не паедзеш" тут акурат дарэчы?**

— Гэта і ёсць тое, што мы называем дзяржаўным рэкетам. У адрозненне ад рэкета мафіёзнага, непрыхавана крымінальнага, калі табе тыцкаюць у твар пісталет. Але калі бізнесмена абкладаць данінай такія асобы, ён хоць ведае, з кім мае справу, можа з імі нават неяк дамовіцца, патаргавацца. Перад чыноўнікам, які перад табой у чаканні хабару закрые ўсе дарогі, ты, па сутнасці, безабаронны.

**— Пра вельмі сумныя рэчы вы расказваеце, Уладзімір Мікалаевіч. Давайце паспрабуем узняць настрой у чытача расказам пра ваш Саюз прадпрымальнікаў — я пра яго чуў шмат добрага і павучальнага.**

— Асноўныя яго параметры я вызначыў на пачатку нашай гаворкі. Калі гаварыць пра асноўныя напрамкі дзейнасці саюза, дык гэта ў першую чаргу — прадстаўленне інтарэсаў прыватнага бізнесу ў перагаворным працэсе з урадам, парламентам і прафсаюзамі, развіццё кантактаў з міжнароднымі і нацыянальнымі аб'яднаннямі прадпрымальнікаў і работадацеляў, удзел у міжнародных кангрэсах, выстаўках і іншых мерапрыемствах, падтрымка малога і сярэдняга бізнесу, развіццё адукацыйнай сеткі і г. д. Цывілізаваны бізнес, дарэчы, вымагае вельмі высокага інтэлектуальнага і прафесійнага ўзроўню людзей, якія прысвяцілі сябе гэтай справе. Дарэчы, дзве трэці членаў савета Саюза прадпрымальнікаў — дактары і кандыдаты навук.

У нас працуе Акадэмія парламентарызму і прадпрымальніцтва, у гэтым годзе ў Бабруйску адкрылі інстытут кіравання, у якім вывучаюць усе аспекты бізнесу 140 чалавек, у асноўным — таленавітая моладзь. У Магілёве 600 чалавек займаюцца ў камерцыйнай акадэміі. Усяго за апошнія тры гады ў недзяржаўнай сістэме адукацыі адкрыта 14 вышэйшых навучальных устаноў, якія існуюць за кошт асобных фірм і саміх студэнтаў.

Да ўсяго сказанага хачу дадаць, што наш Саюз прадпрымальнікаў Беларусі падтрымлівае сувязі з аналагічнымі арганізацыямі ў 105 краінах свету. Я, напрыклад, з'яўляюся віцэ-прэзідэнтам Еўрапейскага саюза малога бізнесу са штаб-кватэрай у Страсбургу і членам Сусветнага саюза малога бізнесу. Неўзабаве мы адпраўляем вялікую дэлегацыю ў Іспанію, дзе адбудзецца Еўрапейскі з'езд прадпрымальнікаў. З краін СНД беларуская дэлегацыя будзе самая прадстаўнічая, у яе ўвойдуць каля 70 чалавек. Заўважу, што з Расійскай Федэрацыі запрошана 19 чалавек, а з Украіны — усяго 5.

Вы пераканаліся, што тэма, якой мы прысвяцілі нашу сустрэчу, па сутнасці, невычарпальная, і ўцісьнуць усе яе аспекты ў адну гутарку проста немагчыма. Але і тое, што было сказана, мне здаецца, дасць уяўленне аб станаўленні бізнесу на Беларусі. Рана ці позна ў грамадскую свядомасць прыйдзе разуменне таго неабвержнага факта, што з прыватнай ініцыятывай, а не з дзяржаўнымі інстытутамі, дзяржаўнымі структурамі трэба звязваць будучае нашай краіны, бо дзяржава была заўсёды дрэнным гаспадаром.

**— Мне застаецца толькі падзякаваць вам, Уладзімір Мікалаевіч, за змястоўную гутарку і пажадаць поспехаў.**

Што чытаюць

# СЁННЯ — АМАЛЬ ЯК І ДАЎНЕЙ

Прычын таму, што не ідзе пакуль эканамічная рэформа, не разварочваюцца не тое каб ушыркі, а наогул на месцы топчуцца рыначныя адносіны, можна знайсці і ў тых умовах, у якіх існавала чалавечая натура на нашай зямлі больш чым сто гадоў таму назад. Як цяпер сузіральнікі камунізму, носьбіты чалавечых душ тых далёкіх часоў сцвярджалі, што "пры прыгоне было лепш". Безумоўна, тут можна правесці паралель у плане адсутнасці ў адпушчаных на волю сялян зямлі, з аднаго боку, і невыдзяленнем дзяржаўнай маёмасці ва ўласнасць сённяшнім суграмадзянам. Сумневу няма: падабенства тут відавочнае, але насцярожваюць і іншыя тоеснасці — супадзенне менталітэтных праяў. А іменна: адсутнасць у большасці людзей здаровай, сумленнай ініцыятывы, волі да пераўтварэння жыцця... Нейкая абшчынная парука, прага ўраўнілаўкі, туга па патэрналісцкіх адносінах на ўсіх узроўнях быцця, паражэнская (калі не рабская) псіхалогія, на вялікі жаль, сведчаць аб тым, што ой як цяжка пойдзе (калі ўвогуле пойдзе!) перабудова нашага жыцця на новы, капіталістычны — не ў сэнсе драпежніцкі — лад.

На такія думкі наводзяць **"Мае ўспаміны" Адама Ягоравіча Багдановіча** — бацькі выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча (часопіс "Нёман", NN 5—8, 1994 г.). Фрагментарна яны былі апублікаваны яшчэ ў 70-я гады ў выдавецтве "Навука і тэхніка". Цяпер жа калектыў работнікаў музея М. Багдановіча на чале са сваім дырэктарам Алесем Бяляцкім падрыхтаваў гэту, можна смела сказаць — энцыклапедычную ў сэнсе спасціжэння гісторыі беларусаў, іх душы, разумовай, эстэтычнай, этычнай іпастасяў існавання народа на пачатку XX ст. — публікацыю. Тут жа мы маем шчаслівую магчымасць паназіраць генеалогію таленту будучага класіка беларускай літаратуры — Максіма Багдановіча.

Ва ўспамінах усцяж расказваецца пра разнастайную, часта нялёгкую працу людзей, пра народныя святы, песні, гульні, забавы і г. д., раслінны і жывёльны свет — пра ўсё, што спадарожнічае чалавеку ад дня нараджэння да апошняга часу яго на зямлі. І ўсё там па-свойму перагукваецца з нашымі днямі.

Таму, хто займаецца даследаваннямі наяўнасці ў беларускай тапаніміцы і ўвогуле ў мове беларусаў фіна-ўгорскага моўнага субстрату, таксама будзе цікава. Больш таго — ён даведаецца, што ў нашага глыбокапаважанага і, на жаль, рана пайшоўшага ад нас паэта і вучонага Івана Ласкова на гэтай ніве быў такі салідны, аўтарытэтны папярэднік, як сам аўтар "Успамінаў".

Напісаныя цнатлівым, шырока- і глыбокаадукаваным чалавекам, мемуары расказваюць нам сярод іншага і пра не вельмі прыгожыя паводзіны казакоў (бізуншчыкаў) і вайскоўцаў, якія перапоўнілі сабой Беларусь пасля задушэння Масквой паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. А гаворыцца гэта для таго, што сёння сёй-той выстаўляе казацтва ледзь не носьбітам высокай маральнасці.

Прачытаўшы пра дзяцінства мемуарыста, мы ўбачым, як яно перагукваецца з дзяцінствам М. Горкага, з якім у свой час сябраваў А. Багдановіч. Дарэчы, яны ў свой час былі жанаты на родных сёстрах у Ніжнім Ноўгарадзе, і М. Горкі быў маладзейшы за Адама Ягоравіча.

Шмат цікавага ва "Успамінах" паведамляецца пра нашу сённяшнюю сталіцу — Мінск 70—80-х гг. мінулага стагоддзя. Трэба сказаць, што Адам Багдановіч асобна прысвяціў Мінску нарыс памерам у сто старонак машынапісу. Гэты рукапіс, падрыхтаваны да друку таксама ў музеі, ужо каторы год ляжыць у рэдакцыі часопіса "Маладосць" і чакае сустрэчы з чытачамі.

У А. Багдановіча вельмі багатая літаратурная спадчына. Сярод мноства розных работ назавём наступныя: "Да гісторыі партыі "Народнай волі" ў Мінску і Беларусі", "Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў" (гэты твор выходзіць сёлета ў выдавецтве "Навука і тэхніка"), шматтомная "Мова зямлі" і шмат іншых. Як сведчыць і сённяшняе жыццё, час, каб іх выдаваць і перавыдаваць, — ужо прыйшоў.

Немагчыма не сказаць (не без шкадавання) пра адзін істотны недахоп гэтай публікацыі. У ёй ёсць купюры — праўда, нешматлікія, і дзякуй, што пазначаны — дзе, на думку рэдакцыі, у горкіх словах мемуарыста прыхавана абраза ў адрас беларусаў. Будзем памятаць, што праўда толькі дапамагае вызваліцца ад заганаў і хвароб. Навошта ж замоўчваць яе?

І апошняе. Прыемна, што выдавецтва "Мастацкая літаратура" мае намер выдаць "Успаміны" асобнай кнігай. Можна не сумнявацца, што чалавек, сур'ёзна настроены на спасціжэнне жыцця і свету, знойдзе гэтую кнігу і адкрые для сябе нанова асобу бацькі Максіма.

**Яўген ГУЧОК**

Гэта было...

# «ЯНЫ ЖЫВЫМІ ЗГАРАЛІ ЛЯ ВОГНІШЧАЎ»

Гады сталінскага кіравання страшным цяжарам леглі на плечы нашага народа. Вынікам адной толькі прымусовай калектывізацыі з'явіліся сотні тысяч пакалечаных лёсаў, незлічоныя матэрыяльныя і духоўныя страты.

Вастрыё рэпрэсіўнай машыны ў 1929 годзе было накіравана ў асноўным супраць сялянства, якое складала асноўную масу насельніцтва СССР, у тым ліку і Беларусі. З канца 1929 да сярэдзіны 1930 года ў краіне саветаў было "раскулачана" звыш 320 тысяч сем'яў (не менш за 2 мільёны чалавек), канфіскавана маёмасці коштам больш за 400 мільёнаў рублёў. Па ацэначных дадзеных у Беларусі ў 20—40-я гады было "раскулачана" не менш за 350 тысяч чалавек.

Тэрор быў абрынуты не толькі на "контррэвалюцыйны кулацкі актыў", а і на значныя масы забяспечаных сераднякоў, якія толькі эпізадычна ўжывалі наёмную працу або не ўжывалі яе зусім. Ужо к маю 1930 года ў рэспубліцы было раскулачана 15626 сялянскіх гаспадарак, што складала каля паловы іх агульнай колькасці. Пры гэтым, як вымушаны былі прызнаць самі арганізатары раскулачвання на XIII з'ездзе КП(б)Б, з іх 2395, або 15,3% неабгрунтавана.

З лета 1930 года, калі пачаўся працэс калектывізацыі, органы АГПУ распачалі правядзенне масавых акцый супраць сялянства. Указанні Сталіна і яго паплечнікаў былі ўспрыняты на месцах як кіраўніцтва да дзеяння. У вёсцы для забяспечанай часткі насельніцтва месца не аказалася. Слова "кулак" на доўгія гады стала сінонімам слова "вораг". Апраўданымі ў адносінах да раскулачаных лічыліся любыя беззаконні з боку органаў АГПУ-НКУС.

Усё гэта не магло не выклікаць супраціўлення з боку сялянства. Праўда, яно насіла стыхійны, неарганізаваны характар і было, хутчэй, пасіўнай формай пратэсту. Ва ўсякім разе, пра арганізаваныя масавыя выступленні сялян у перыяд калектывізацыі на тэрыторыі Беларусі дагэтуль амаль нічога невядома. Праўда, асобныя выпадкі спантанных пратэстаў вядомы ў Капыльскім, Лепельскім і іншых раёнах рэспублікі. Усе яны былі разгромлены з прымяненнем рэгулярных часцей Чырвонай Арміі.

У перыяд масавай калектывізацыі па пастановах упаўнаважанага прадстаўніцтва АГПУ па БССР, судоў, рашэннямі пасялковых Саветаў дзесяткі тысяч жыхароў Беларусі былі высланы за межы сваёй гістарычнай радзімы. Частка з іх апынулася на поўначы цяперашняй Томскай вобласці, другая — у шматлікіх лагерах Сіблага НКУС, раскіданых па тэрыторыі Новасібірскай, Кемераўскай абласцей, а таксама Краснаярскага і Алтайскага краёў. У выніку толькі гэтай акцыі ў паўночныя краі ў перыяд 1929—1932 гадоў было саслана звыш 100 тысяч беларускіх сялян. Многія з іх загінулі, асабліва ў першыя гады ссылкі ў спецыяльна створаных лагерах.

Адзін з такіх лагераў быў арганізаваны на поўначы Нарымскай акругі Заходне-Сібірскага краю ў пачатку 1930 года і прызначаўся для размяшчэння ў ім ад 5 да 10 тысяч "сацыяльна-небяспечных" злачынцаў. Напрыклад, у Томскім лагеры-ізалятары ў 1931 годзе ўтрымлівалася 13 тысяч "кулакоў". Штодня там памірала 18—20 чалавек. З 4880 чалавек, што прыбылі ў кастрычніку 1931 года з Беларусі ў Сібірскі лясны лагер, да красавіка 1932 года памерла 2500.

20 красавіка 1933 года СНК СССР прыняў пастанову: "Аб арганізацыі працоўных пасяленняў". Каго ж трэба было высылаць у 1933 годзе, калі, здавалася б, кулацтва "як клас" ліквідавана? Меркавалася перасяляць сялян за зрыў і сабатаж хлебанарыхтовак і іншых кампаній; гарадскіх жыхароў, якія адмаўляліся ў сувязі з пашпартызацыяй 1932—1933 гадоў выязджаць з Масквы, Мінска і Ленінграда; насельніцтва памежных вёсак, высланых у 1933 годзе ў парадку "ачысткі" дзяржаўных межаў і г. д. Тройчы кіраўнікі Сіблага АГПУ ў 1933 годзе складалі дыслакацыю рассялення новага кантынгента ссыльных. Першы раз указвалася, што прыбудуць 340 тысяч чалавек, другі — 281 тысяча, і 21 чэрвеня 1933 года краявому зямельнаму ўпраўленню была паслана дыслакацыя на рассяленне 248 тысяч чалавек. У Аляксандраўскі, Чаінскі, Бакчарскі, Калыванскі, Тэрвізскі, Тарскі раёны Заходне-Сібірскага краю было накіравана каля 80 тысяч спецперасяленцаў — выхадцаў з раёнаў РСФСР, Украіны, БССР. У раёнах Нарымскай акругі меркавалася размясціць каля 150 тысяч чалавек.

Адной з буйных акцый, праведзеных упраўленнем Сіблага НКУС, была высылка ў маі 1933 года на Назінскі востраў звыш 5000 чалавек, якія былі схоплены ў час аблаў у Маскве і Мінску па праверцы "ўкаранення" пашпартнай сістэмы.

У сярэдзіне мая 1933 года тры баржы гэтага "спецкантынгента" былі высаджаны на востраў Назіна ў Аляксандраўскім раёне Нарымскай акругі Заходне-Сібірскага краю.

На другі дзень пасля прыбыцця баржаў, 19 мая, выпаў снег, узняўся вецер, потым ударыў мароз. Галодныя, знясіленыя людзі апынуліся ў безвыходным становішчы. Яны былі здольны толькі паліць вогнішчы, сядзець, ляжаць, спаць ля агню, блукаць па востраве і есці гнілушкі, кару, мох.

Людзі пачалі паміраць. Яны жывымі згаралі ля вогнішчаў падчас сну, паміралі ад знясілення і холаду, ад апёкаў і сырасці. Толькі на чацвёрты дзень на востраў прывезлі аржаную муку, якую і пачалі раздаваць галодным па некалькі сот грамаў. Атрымаўшы муку, людзі беглі да вады, і хто ў чым мог — у шапках, галёшах — разводзілі баўтушку і елі яе.

Пачаліся выпадкі людаедства. На востраве ўтварыліся шайкі, яны тэрарызавалі людзей, адбіраючы хлеб, адзенне, збіваючы і забіваючы іх.

З 6100 чалавек, што прыбылі на востраў у маі 1933 года, на 20 ліпеня засталося 2200. Яны, ацалелыя, былі эвакуіраваны ў іншыя лагеры Сіблага АГПУ.

Калі масавыя рэпрэсіі супраць сялянства пераўзышлі ўсе разнарадкі цэнтра, 8 мая 1933 года выйшла інструкцыя — "Усім партыйна-савецкім работнікам АГПУ, суда і пракуратуры", падпісаная Сталіным і Молатавым, у якой канстатавалася, што беспарадкавыя масавыя арышты ў вёсцы ў 1933 годзе ўсё яшчэ працягваліся. У шэрагу раёнаў, у тым ліку і БССР, арышты праводзілі старшыні калгасаў, старшыні сельсаветаў і сакратары партыйных ячэек.

Дзесяткі тысяч людзей былі асуджаны паводле прынятага 7 жніўня 1932 года УЦВК і СНК СССР Закона "Аб ахове маёмасці дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і кааперацыі і ўмацаванні грамадскай сацыялістычнай уласнасці". Гэты дакумент прадугледжваў і вышэйшую меру пакарання — расстрэл. Па дадзеных Вярхоўнага Суда СССР, толькі судовымі органамі ў перыяд 1933—1939 гадоў па гэтым законе было асуджана 78691 чалавек, а калі да гэтага дадаць асуджаных калегіяй АГПУ СССР і паўнамоцнымі прадстаўніцтвамі АГПУ ў рэспубліках, краях і абласцях, то колькасць рэпрэсіраваных перавысіць 540 тысяч чалавек. Па ацэначных дадзеных, у БССР гэтая лічба склала не менш чым 40 тысяч чалавек, якія ў асноўным потым і апынуліся ў шматлікіх лагерах ГУЛАГа НКУС.

У паўночны край, у раёны, якія цяпер уваходзяць у Томскую вобласць, было саслана каля 350 тысяч сялян, у асноўным з Украіны, Беларусі, Заходняй Сібіры. Адны з іх загінулі, асабліва ў першыя гады ссылкі, частка збегла і здолела недзе ўладкавацца, але нямала было злоўлена і адпраўлена на Калыму, Салаўкі, Ігарку і іншыя мясціны зняволення.

Мне давялося аналізаваць дадзеныя па ўраджэнцах Беларусі, рэпрэсіраваных у 30-я гады на тэрыторыі былога Заходне-Сібірскага краю. Дык вось якая карціна атрымліваецца: галоўны ўдар рэпрэсіўнай машыны быў скіраваны супраць сялян (да 55%); асноўнымі матывамі арышту (да 90%) было "ўчыненне" "контррэвалюцыйных злачынстваў"; каля 80% усіх асуджаных было расстраляна, а вось мінімум — пяць гадоў — атрымала з іх не больш за 2 працэнты.

Шмат часу мінула пасля тых падзей. Відавочна, ужо ніколі не ўдасца аднавіць імёны ўсіх пацярпеўшых. Нічым не папоўніць урон, нанесены сотням тысяч людзей, але трэба яшчэ і яшчэ нагадваць пра злачынствы, здзейсненыя сталінскім рэжымам, каб гэта не паўтарылася.

**І. КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Што пакінем будучым пакаленням? Паэзію, найперш. Звяртаюся ў Саюз пісьменнікаў: абвесцім конкурс на верш, на яго пластычнае ўвасабленне. Хай у Мінску на плошчы Свабоды, на Цэнтральнай ці іншай дзе паўстане помнік народу — верш "А хто там ідзе?". І хай будуць далей нашы помнікі не генералам і палкоўнікам, не мсціўцам ці самадзержцам, а таму, што напета сэрцам.

•

Кажуць, што працэс даўно пайшоў, здабываюць з сутарэнняў па цагліне, будзе многа новых гаражоў, як расцягнуць Брэсцкую цвярдыню. Ды чаму адну толькі цвярдыню, ёсць у нас і іншыя руіны.

•

У сне прайшоў усё: спачатку ўказалі, тады паставілі на від, папярэдзілі, далі вымову, страгача, страгача з апошнім папярэджаннем, аб'явілі аб няпоўнай службовай прыгоднасці, звольнілі з працы, выключылі з КПСС... Ачомаўся: Божа, дзе цяпер тая КПСС? Але ўсё астатняе засталося!

•

Дыскусіі вучонай адгалоскі: зебры ў белую ці ў чорную палоску. Нашто наогул тыя флагі-рэбры — патрэбны аднаколерныя зебры.

Спадары з Інстытута Слова, ці не робім мы штосьці непапраўнае, калі не фіксуем мову нашага сацыялістычнага нядаўняга? Грувасцяцца выразы звыкла, адзін аб адно пэцкаюцца, возьмем для прыкладу тое ж "сацыялістычнае" і "савецкае". Застылі моўныя глыбы: сацыялістычны выбар, сацыялістычныя абавязацельствы, сацыялістычная рэчаіснасць, сацыялістычная свядомасць, сацыялістычны рэалізм, савецкія моладзь і жанчыны, савецкі лад жыцця, савецкае — значыць выдатнае, савецкая сям'я (народаў). Не словы выходзяць з моды, быт выпадае з быцця. Неяк унучак спытаўся пра беларускі коксагыз, навошта той "кок" табе здаўся, а нам ён у знакі даўся, час яго, унучак, згрыз... Спадары ахоўнікі мовы, эпохі сыходзяць са словам.

## ВЯЛІКІ «ЛЕС» КУПАЛАЎЦАЎ

**Гісторыя гэтая ўвасаблялася рознымі сцэнамі свету шмат-шмат разоў. Але не састарэла, не прыцьмела, не надакучыла: акцёрская гісторыя знаных Шчасліўцава ды Нешчасліўцава. На сцэне Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы іх іграюць, адпаведна, у розных складах, Генадзь Аўсяннікаў з Сяргеем Краўчанкам ды Валеры Філатаў з Віктарам Тарасавым. "Лес" А. Астроўскага зазнаў прэм'ерныя паказы 9 і 10 лістапада, якія паўторацца 16 і 30 лістапада. Рэжысёр — Аўгуст Мілаванаў, мастак — Барыс Герлаван, кампазітар — Аляксандр Рэнанцкі. Дадамо, што, дзякуючы двум складам, у пастаноўцы бярэ ўдзел буйная частка трупы тэатра.**

## ЁСЦЬ ПЕЎЧЫ ДАР...

**Імя заслужанага артыста Беларусі Мікалая Багданава добра вядомае аматарам вакалу. Спявак мае прыгожы барытон, якому падуладныя музычныя творы самых розных жанраў. Сёлета ён адзначыў 25-годдзе сваёй творчай дзейнасці, прысвяціўшы гэтай падзеі сольны канцэрт, які адбыўся днямі ў Зале камернай музыкі.**

**Аднойчы Мікалай Багданаў ці то жартам, ці то ўсур'ёз сказаў, што ягоны лёс наканавала ягонае прозвішча. Сапраўды, і адметная знешнасць, і дзівосны голас, і выдатныя акцёрскія дадзеныя — усё гэта было закладзена ў яго самой прыродай, нібыта падаравана небам. Але, апрача гэтых вартасцяў, у М. Багданава ёсць і іншыя, так бы мовіць, прыдбаныя. Гэта перш за ўсё — яго вялікая працаздольнасць, настойлівасць у дасягненні пастаўленых мэтаў і, нарэшце, адкрытасць да ўсяго новага, неспазнанага. Спалучэнне ўсіх гэтых якасцяў і дазволіла яму стаць высокім прафесіяналам, майстрам камерных спеваў. Зрэшты, ён спявае музыку самую розную: ягоны рэпертуар уключае, апрача шматлікіх камерных твораў, оперныя і аперэтачныя арыі, народныя песні. Дарэчы, у праграму свайго юбілейнага канцэрта М. Багданаў спецыяльна ўключыў разнажанравыя творы — і не толькі каб паказаць свой вялікі рэпертуарны дыяпазон. Проста ўсе творы, якія гучалі на гэтым канцэрце, былі фрагментамі яго сольных праграм розных гадоў.**

**Трэба сказаць, што М. Багданаў быў аднолькава пераканаўчым і ў народных песнях (рускай, украінскай і беларускай), і ў рамансах (выконваліся творы Даргамыжскага, Чайкоўскага, Рахманінава і Свірыдава), і ў оперных маналогах (асабліва пранікнёна і эмацыянальна прагучала арыя Рыгалета з аднайменнай оперы Дж. Вердзі), у неапалітанскіх песнях і ў старадаўніх рускіх рамансах.**

**Шмат гадоў поруч з М. Багданавым працуе канцэртмайстар В. Баравікоў — таленавіты музыкант, які адчувае самыя тонкія нюансы і адценні, закладзеныя ў музыцы. Вось і ў той вечар В. Баравікоў быў годным партнёрам М. Багданава, у іх атрымаўся цудоўны дуэт.**

**Публіка вельмі цёпла сустракала артыста, і пасля выканання асноўнай праграмы адбыўся своеасаблівы "міні-канцэрт": спевака доўга не адпускалі са сцэны, і на "біс" ён праспяваў пяць твораў, адно за адно лепш.**

**Вольга БРЫЛОН**

## У СТУДЭНТАЎ І ВЫКЛАДЧЫКАЎ

**Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта пабываў Іван Пташнікаў. Ініцыятарам сустрэчы стала кафедра беларускай літаратуры.**

**Адкрыла сустрэчу выкладчыца, крытык і даследчык літаратуры Т. Грамадчанка. Пра жыццёвы і творчы шлях І. Пташнікава расказаў загадчык кафедры, а яшчэ паэт і літаратуразнаўца М. Мішчанчук.**

**Гаворку пра знакамітага пісьменніка прадоўжылі студэнты. Яны ж прачыталі ўрыўкі з твораў Івана Мікалаевіча, перагарнуўшы, па сутнасці, выбраныя старонкі ягонай прозы.**

**Прыхільна сустрэлі прысутныя выступленні самога Івана Мікалаевіча. Ён падзяліўся некаторымі сваімі пісьменніцкімі сакрэтамі, расказаў аб працы над сваімі творамі, аб задачах, што стаяць на сучасным этапе перад беларускай літаратурай. І, вядома ж, адказаў на пытанні, якіх было вельмі шмат.**

**Н. К.**

# З ГЛЫБІНІ МІНУЎШЧЫНЫ

## ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ АДНОЙ КНІГІ

Кніга А. Тарыкава "Зарніцы ў глыбінях азёр" прысвечана Глыбоччыне — аднаму з цікавейшых куткоў Беларусі. Адсюль паходзяць мастак Язэп Драздовіч, тэатральны дзеяч Ігнат Буйніцкі, артыстка Паўліна Мядзёлка, пісьменнік Тадэвуш Мастовіч-Даленга, першы электрыфікатар "Паўночна-Заходняга краю" граф Плятэр, слынны дзеяч беларускага Адраджэння К. Дуж-Душэўскі, прэм'ер-міністр БНР Вацлаў Ластоўскі, авіяканструктар Павел Сухі...

19 раздзелаў, з якіх складаецца кніга, ахопліваюць гісторыю Глыбоччыны ад сівой мінуўшчыны да нашых дзён. У кожным з раздзелаў цікаўны чытач знойдзе не надта вядомыя звесткі, што датычаць непасрэдна гэтага рэгіёна і беларускай гісторыі ўвогуле. "Зямля полацкіх крывічоў", "Паўстанні і дзесяцігоддзі міру", "Гордасць Глыбоцкага краю", "Рэвалюцыя і вайна" — назвы раздзелаў, нібы каталог музейнай экспазіцыі. Мяне ж асабліва ўразілі тыя старонкі, дзе апавядаецца пра падзеі, сведкам якіх даводзілася быць мне самому альбо чуць пра іх ад блізкіх людзей.

У 12-м раздзеле "Крэсы ўсходне" расказваецца пра становішча ў Заходніх абшарах Беларусі, якія амаль на два дзесяцігоддзі трапілі пад польскую акупацыю. "Крэсы ўсходне" — аналаг "Северо-Западного края". У тыя часы ў Глыбоцкім краі дзейнічалі Беларуская сялянска-рабочая грамада (БСРГ), Таварыства беларускіх школ (ТБШ), якое змагалася за права вучыць дзяцей на роднай беларускай мове, стварала бібліятэкі, драматычныя гурткі. У 1929 годзе яно было забаронена. К 1933 году на тэрыторыі Заходняй Беларусі ўжо былі зачынены ўсе беларускія школы. Дзейнічала 16 так званых утраквістычных — двухмоўных школ, у якіх навучалі на польскай і беларускай мовах, але дамінавала польская з мэтай асіміляцыі і паланізацыі беларускіх дзяцей. А. Тарыкаў апавядае, як у Глыбокім была наладжана мастацкая выстава. У дыскусіі з выкладчыкам малявання Глыбоцкай гімназіі Язэпам Драздовічам дырэктар гімназіі спрабаваў даказаць свайму апаненту, што беларускага мастацтва наогул не існуе. У адказ Я. Драздовіч прачытаў яму цэлую лекцыю пра беларускае мастацтва, за што на наступны дзень быў звольнены з працы.

13-ы раздзел "Верасень—чэрвень" прысвечаны падзеям ад 17 верасня 1939 г. (уз'яднанне Беларусі) да акупацыі краю немцамі ў чэрвені 1941 года. Гэтыя падзеі майму пакаленню добра памятныя. Усюды просты люд сустракаў "вызваліцеляў" з вялікім энтузіязмам: абдымаліся, цалаваліся. Але насцярожвалі смуродныя "рожкі" з газетнай паперы, набітыя "корешками", худаваты выгляд, слабае абмундзіраванне і харчаванне салдат і боязь іх гаварыць пра жыццё ў савецкім "раі", якога так чакалі сяляне. Гэта быў час мітынгаў, дэманстрацый, агітацыі, паказаў кіно пра перамогі бальшавікоў, судоў (судзілі за малейшыя праступкі), расправ з "ворагамі народа", спустошаных крам і чэргаў... Энтузіязм "вызваленых" хутка пайшоў на спад, асабліва пасля таго, як сялян прыціснулі прагрэсіўным падаткам.

Ужо ўвосень 1939 года, праз месяц, працавалі школы на беларускай мове, і вучылі ў нашай Лужкоўскай школе пераважна тыя ж самыя настаўнікі. Маляванне ў нас выкладаў Язэп Драздовіч, якога мы, вучні, называлі "дзядзькам Язэпам". Я яго добра помню. Гэта быў выдатны настаўнік, добры і вельмі прыемны чалавек. Вакол яго заўсёды гуртаваліся вучні. Ладзіліся выставы малюнкаў школьнікаў.

Пасля "вызвалення" ў святыні краю Беразвеччы, старажытным духоўным і культурным асяродку, "вызваліцелі" зрабілі адну з двух самых вялікіх у Беларусі турму НКВД для дзесяці раёнаў. Прэстыж савецкай улады хутка падаў, людзі чакалі вайны...

Пра вынікі бальшавіцкіх рэпрэсій на Глыбоччыне за няпоўныя 2 гады бальшавіцкай улады з 17 верасня 1939 года па 22 чэрвеня 1941 года, пра лёс беразвецкіх вязняў нічога не сказана. Гэтае балючае пытанне аўтар асцярожна абышоў маўчаннем.

15 раздзел — "Акупацыя". Тут таксама шмат фактычнага матэрыялу, але ён падаецца з пункту гледжання афіцыйнай камуністычнай гістарыяграфіі. Атрымліваецца, нібыта ўсе жыхары краю былі на баку савецкай улады, Чырвонай Арміі і КПСС. Гэта было не так. Як? Раскажу, як тое памятаю і ведаю я асабіста.

Немцы занялі Глыбокае 3 ліпеня 1941 г. Яно стала цэнтрам гебіта (вобласці), у склад якога ўвайшлі 10 даваенных раёнаў.

У верасні 1941 года ў Беразвеччы быў створаны шталаг (стацыянарны лагер) для ваеннапалонных. Яны пастаянна знаходзіліся пад адкрытым небам. У кастрычніку націсковыя нямецкія інспектары. Незалежна ад узросту, на вучняў прагімназіі накладвалася бронь ад вывазу ў Нямеччыну на працу. Хлеб з вотруб'я выдаваўся па картках. Даводзілася галадаць. Прагімназія многіх выратавала ад гібелі. Некаторыя настаўнікі пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў бальшавіцкай уладай былі рэпрэсіраваны.

Да сказанага аўтарам кнігі пра намесніка гебіткамісара па ідэалогіі Вятвіцкага магу дадаць добра вядомыя мне факты. У 1944 годзе Вятвіцкі са сваімі карнікамі месціўся ў гарадскім палацы графа Плятэра, адкуль рабіў карныя экспедыцыі пераважна ў Падзісенне. На яго сумленні расстраляныя сыны Пацэвіча з Ляскова, старaверы з Германавіч, партызанка-настаўніца Бельская. Вятвіцкі ўласнаручна катаваў майго бацьку Мірончыка Мікалая Васільевіча за тое, што ён выраб-

нулі маразы. Палонныя гінулі ад голаду і холаду. 14 кастрычніка 1941 года яны паўсталі, штурмам падавілі агнявыя кропкі і вырваліся з лагера. Партызанскі рух у Глыбоччыне зарадзіўся ў 1942 годзе. А ў снежні пачаліся карныя экспедыцыі немцаў.

Вясной 1943 года ў Глыбокае прыбыў полк Гіль-Радзіёнава ў форме эсэсаўцаў-франтавікоў з нарукаўнымі павязкамі "РОА" ("Российская освободительная армия"). Тут яны не паладзілі з немцамі, іх знялі з патрульнай службы і накіравалі на барацьбу з партызанамі: штаб перамясціўся ў Докшыцы, дзе полк наладзіў кантакты з партызанамі, правёў у Пліскім раёне мабілізацыю і выступіў супраць немцаў. У жніўні 1943 года радзіёнаўцы знішчылі нямецкую роту, якая ўдзельнічала з імі ў аперацыі супраць партызан, занялі вузлавую станцыю Крулеўшчына, знішчылі яе гарнізон і ўсе стратэгічныя аб'екты. Полк ператварыўся ў 1-ю антыфашысцкую брыгаду. Памёр Гіль-Радзіёнаў ад ран падчас Полацка-Лепельскай бітвы.

Аўтар расказвае і пра італьянскіх ваеннапалонных, якіх немцы расстралялі ў Глыбокім, аб расстрэле ксяндзоў каля вёскі Мікалаеўка, знішчэнне яўрэяў, пра баі па вызваленні Глыбокага 3 ліпеня 1944 года.

На Глыбоччыне, якая зусім нядаўна была пад польскай акупацыяй і ўжо паспела адчуць, што такое акупацыя бальшавіцкая, аб усенародным супрацьстаянні нямецка-фашысцкім захопнікам і размовы быць не магло. Тыя, хто зведаў бальшавіцкі "рай" за няпоўныя два гады (17 верасня 1939 г. — 22 чэрвеня 1941 г.), чакалі нямецкага вызвалення ад расстрэлаў, турмаў, "вывазаў", лагераў смерці, прымусовай калектывізацыі і г. д. Іншыя, пераважна польскай нацыянальнасці альбо "касцельныя палякі", чакалі вяртання з дапамогай заходніх саюзнікаў польскай улады. Нацыянальна свядомыя беларусы спадзяваліся на нацыянальнае адраджэнне і стварэнне сваёй дзяржавы. Мясцовы і прышлы люмпен быў за бальшавікоў. Але большасць насельніцтва была проста заклапочана тым, каб выжыць. Партызанаў з карэннага насельніцтва на Глыбоччыне было няшмат. Імі былі пераважна "васточнікі". Па ўласнай ініцыятыве, па палітычных ці ідэалагічных матывах і на баку немцаў ваявала нямнога. Звычайна гэта былі слаба адукаваныя паліцаі. Праводзілася мясцовая мабілізацыя ў РОА Гіль-Радзіёнава, "самаахову", у паліцыю Вятвіцкага.

У Глыбоцкім гебіце было акупацыйнае цывільнае кіраўніцтва. З самага пачатку акупацыі Беларусі немцы адпускалі ваеннапалонных беларусаў дадому, саўгасы і калгасы былі распушчаны. Падаткі сяляне плацілі меншыя, чым пры бальшавіках. З восені 1941 года працавалі школы на беларускай мове. У Глыбокім былі адчынены 10-месячныя настаўніцкія курсы і прагімназія, пра якую А. Тарыкаў нават не ўпамінае. У прагімназіі працавалі выдатныя настаўнікі, такія, як А. Сабалеўскі. Умовы для вучобы былі кепскія, шмат было пераросткаў, асабліва сярод хлопцаў. Многія тут не толькі вучыліся, а і хаваліся ад ваеннага ліхалецця. Час ад часу ў класы нечакана прыходзілі ад гебіта вай-











ляў скуры нібыта для партызан. І каб шляхціц Шыпіла (знаёмы Вятвіцкага) не заступіўся, бацьку забілі б.

Пасля адной карнай экспедыцыі ў Падзісенне Вятвіцкі прыгнаў у Лужкі вялікі статак кароў, забраных у тамашніх жыхароў, каб не кармілі малаком партызан. Змучаныя дарогай, голадам, застаўшыся без сваіх гаспадароў, нядоеныя каровы так раўлі, што людзі, гледзячы на іх, плакалі. Вось такі Вятвіцкі быў "ідэолаг", і гэта толькі тое, што ён тварыў у нашай мясцовасці.

У 16-м раздзеле "Пасляваенны дзень горада" аўтар расказвае пра галоўныя вехі ў жыцці Глыбокага і краю пасля вызвалення ад нямецкіх захопнікаў. Вялікая цяжкасць перш за ўсё лягла на сялян: трэба было здаваць збожжа, бульбу, лён, малако, мяса, яйкі, масла, плаціць грашовыя падаткі, прымусова падпісвацца на пазыку. А як абклалі падаткамі сады, людзі сталі іх высякаць. Акрамя таго, прызначаліся вялікія нарады на загатоўку лесу, па рамонце дарог. У кнізе аўтара не расказана, як у былы прыгранічны край, дзе былі прыватныя і фермерскія сялянскія гаспадаркі, за вайну асабліва не разбураныя, нахлынула шмат галоднага люду з усходняй часткі краіны, дзе бальшавікамі і акупантамі

людзі былі даведзены да поўнай галечы і дыстрафіі, і таму сталі злодзеямі і рабаўнікамі.

Значную цікавасць уяўляюць прыведзеныя ў кнізе А. Тарыкава звесткі аб нацыянальным складзе Глыбокага раёна і яго дынаміцы. На 1 студзеня 1945 года ў ім пражывала 89,2% беларусаў, 10% палякаў, 0,5% яўрэяў, 0,3% татар. Аднак ужо ў лютым таго ж года зарэгістравана 676 рускіх (у студзені ні аднаго), "палякаў" — 1/3 частка насельніцтва, украінцаў — 44 чалавекі. Аўтар такую этнічную метамарфозу тлумачыць не міграцыяй насельніцтва на працягу каля аднаго месяца, а палітычнымі фактарамі. Рэч у тым, што 9 верасня 1944 года новымі ўладамі Польшчы быў заключаны Дагавор з СССР аб узаемным абмене цывільным насельніцтвам, у якім гаварылася, што ён будзе весціся строга добраахвотна, без якога-небудзь прымусу. Перад вайной людзі ўжо зведалі бальшавіцкі "рай", баяліся рэпрэсій, непасільных падаткаў, прымусовай, амаль бясплатнай, працы, калектывізацыі, рэлігійнага, ідэалагічнага і палітычнага прыгнёту, абвінавачванняў у супрацоўніцтве з немцамі. Гэта і паслужыла такому "рэвалюцыйнаму" і масаваму польскаму нацыянальнаму самавызначэнню карэннага беларускага каталіцкага насельніцтва. І нават праваслаўнага! Усе, хто меў хоць які-небудзь польскі дакумент, скажам, пасведчанне, што калісьці вучыўся ў польскай школе, пісаліся палякамі. Пад польскай псеўданацыянальнасцю беларусы "добраахвотна" перасяляліся ў Польшчу. Утвораны вакуум хутка запаўняўся камісарамі, партыйнымі работнікамі, будаўнікамі савецкай улады, прадстаўнікамі карных ведамстваў, рознымі спецыялістамі, вайскоўцамі і іх сем'ямі, сваякамі, пераважна рускімі. У краі знаходзілі ратаванне ад голаду многія людзі з мясцін, дзе ён лютаваў.

Увосень 1944 года ў Глыбокім было адкрыта педагагічнае вучылішча. Я мог бы расказаць пра побыт і вучобу ў ім, бо сам там вучыўся. Але толькі зазначу, што аўтар кнігі не расказаў аб маладых беларускіх патрыётах з Глыбоцкага педвучылішча, якія ў тыя змрочныя часы разам з іншымі такімі ж патрыётамі з Пастаў, Слуцка адстойвалі незалежнасць Беларусі, яе бела-чырвона-белы сцяг і Пагоню, за што новыя "вызваліцелі" з імі жорстка расправіліся. Многія з гэтых юных беларускіх патрыётаў загінулі ў турмах і канцлагерах ці дачасна памерлі. Да гэтага часу іх памяць не ўвекавечана, хаця ўсе яны рэабілітаваны. Іх патрыятызм і грамадзянскі подзвіг павінны быць прыкладам для беларускай моладзі.

У Глыбокім, як і ўсюды ў Беларусі, назіраецца густая засмечанасць каланізатарскай і бальшавіцкай тапанімікай. Вось назвы вуліц: Леніна, Савецкая, Камуністычная, Маркса, Кірава, Горкага, Маскоўская, Камсамольская і г. д. А чаму ж іх не замяніць імёнамі сваіх, беларусаў — гордасці краю?

Нічога аўтар не расказаў у сваёй кнізе, як праходзіла "добраахвотная" калектывізацыя на Глыбоччыне. Вось як, напрыклад, яна праходзіла ў маёй вёсцы Жарсцвянцы. На арганізацыю калгасаў былі мабілізаваны партыяй усе дзяржаўныя служачыя — ад урачоў да КДБ. Прыйдуць арганізатары калгаса ў вёску, а сяляне разбягуцца хто куды, пахаваюцца. Урэшце, уладам надакучыла гуляць у жмуркі. Каб зламаць вяскоўцаў, пожні жарсцвян аддалі сялянам з суседняй вёскі Лапунова, якія іх скасілі сабе. Каб скаціна на зіму не засталася без сена, жарсцвяне ў лапуноўцаў сена адабралі, не без бойкі. План калектывізацыі праваліўся. Знайшлі другі метад (вопыт у партыі ўжо быў вялікі). У Жарсцвянцы трэба было прымусіць "добраахвотна" ўступіць самага аўтарытэтнага і паважанага чалавека — Міколу Лабяка, але як? Яго малалетняму сыну з дапамогай правакатара ўсучылі абрэз вінтоўкі, а назаўтра кэдэбісты прыйшлі, забралі хлопца і свой абрэз. Сына адправілі на катаргу, а бацька яго цяпер ужо сам "добраахвотна" падаў заяву ў калгас, а за ім "добраахвотна" падалі заявы і астатнія сяляне, усе малазямельныя, небагатыя. Тым не менш, у нашай вёсцы падчас вайны сяляне не галадалі, нават ратавалі ад голаду бежанцаў. Пухлі ж ад голаду пасля таго, як уступілі ў калгас.

У 70—80-х гадах Глыбоцкі раён, дзякуючы працавітасці, таленту і самадысцыплінаванасці людзей, у эканамічных і культурных адносінах стаў адным з найбольш заможных у рэспубліцы. У горадзе з насельніцтвам каля 20 тысяч чалавек 950 чалавек з вышэйшай і 2057 — з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй.

17-ы раздзел "Росы на камянях" дакладней было б назваць "слёзы на камянях". Тут гаворка ідзе аб знішчаных і запушчаных помніках краю. У пачатку 1960 года знішчана глыбоцкая аўстэрыя (дом для прыезджых, месца для правядзення ўрачыстасцей, карчма), на яе месцы пабудаваны адзіны ў горадзе фантан, названы чамусьці "слёзы Карэпавай". У канцы 60-х гг. быў знішчаны беразвецкі касцёл, якому, па выразу Напалеона, не сорамна было б стаяць у Парыжы разам з Нотр-Дамам. Непадалёк ад Варганскай гары разбурана драўляная царква XIX ст. Знікла драўляная царква, што стаяла каля вёскі Вялец, пабудаваная ў XVIII стагоддзі. Запушчаны старажытныя пабудовы ў Гарадцы (чамусьці перайменаваны ў Дзіўнае). Новую назву мясцовыя жыхары тлумачаць пасвойму: яна дадзена таму, што граф Плятэр, каб убачыў цяперашнія беспарадкі і запушчанасць у яго былым маёнтку, вельмі б здзівіўся.

У апошнім 19-м раздзеле аўтар разважае аб будучыні Глыбокага і краю. Многія прапановы слушныя, але кардынальныя праблемы краю і горада ён абыходзіць. Гэта — выхаванне ў людзей беларускага патрыятызму, нацыянальнай самасвядомасці, адраджэнне роднай мовы, паўсюдная замена чужынскай тапанімікі сваёй, беларускай, увекавечанне памяці слаўных людзей Беларусі, што аддалі свае веды, здароўе і жыццё народу і Бацькаўшчыне; ліквідацыя дзяржаўнага феадалізму ў сельскай гаспадарцы; раздзяржаўленне і прыватызацыя мясцовай прамысловасці, рэарганізацыя мясцовых органаў улады, пад'ём традыцыйных галін эканомікі краю (льнаводства, жывёлагадоўля, лясная і водная гаспадарка); ператварэнне Беразвечча — старажытнага цэнтра духоўнага і культурнага жыцця краю — у сучасны цэнтр культуры і навукі. Тут проста грэх трымаць турму. Неабходна адбудаваць у колішнім выглядзе разбураны беразвецкі касцёл. Богаслужэнне ў цэрквах і касцёлах неабходна перавесці на беларускую мову, законам забараніць русіфікацыю і паланізацыю насельніцтва краю праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі.

Зробленыя мной заўвагі, удакладненні і некаторыя дапаўненні ніяк не зніжаюць каштоўнасці кнігі.

**Іван МІРОНЧЫК,**
**прафесар**







*На здымках: куточкі старога Глыбокага.*

# ЯШЧЭ НЕ ЎСЁ СТРАЧАНА?

Карціна "Белае возера" рэжысёра Леаніда Мартынюка з Мінска атрымала прыз дзіцячага журы на Міжнародным кінафестывалі фільмаў для дзяцей, што адбыўся ў кастрычніку гэтага года ў Коўне.

Бадай, гэты твор мог бы прэтэндаваць на галоўную ўзнагароду, але... Але таму, што ў конкурсе ўдзельнічалі толькі тры поўнаметражныя ігравыя стужкі, "дарослае" журы, якое ўзначальваў знакаміты літоўскі кінарэжысёр Арунас Жабрунас (пэўна, гледачы старэйшага ўзросту памятаюць яго карціну "Дзяўчынка і рэха", што была адзначана ў свой час у Канах), вырашыла шукаць лепшы фільм фестывалю сярод анімацыйных стужак. І такім чынам галоўны прыз дастаўся мультыплікацыйнаму фільму "Волат трапіў у бяду" маладога эстонскага рэжысёра Рыха Лувусэ.

І ўсё ж вострасацыяльную і адначасова паэтычную карціну "Белае возера", якая была знята на "Беларусьфільме", напаткала прыхільнасць літоўскіх школьнікаў, што ўваходзілі ў склад дзіцячага журы. Магчыма, іх кранула непасрэднае і шчырае выкананне галоўных роляў юнымі акцёрамі, якіх вельмі трапна падабраў рэжысёр. Удзел у гэтым фільме, здаецца, стаў удалым дэбютам у кіно для Алёшы Рудэрмана, сына вядомага беларускага кінадакументаліста Аркадзя Рудэрмана, што загінуў у Таджыкістане, і для маскоўскай школьніцы Машы Ліпкінай. Невыпадкова пасля "Белага возера" дзяўчынку запрасілі здымацца яшчэ ў некалькіх фільмах.

Ствараць дзіцячае кіно ў краінах былога Савецкага Саюза робіцца зараз усё цяжэй і цяжэй, — канстатавалі многія ўдзельнікі фестывалю. Дадамо, што яшчэ цяжэй дзецям убачыць гэтае кіно на тэле- і кінаэкранах.

**Павел МАГІЛІН**

# ПРЫЕХАЎ ГОСЦЕМ. З ПАРЫЖА

На пачатку канцэртнага сезона Беларуская дзяржаўная філармонія падарыла слухачам сустрэчу з надзвычай цікавым маладым піяністам. Аркадзь Валадось — гэтае імя ўжо было на мінскіх афішах, калі ў сезоне 1992-93 гг. у спектаклі ДАВТа "Царская нявеста" партыю Гразнога выконваў спявак з Францыі, ураджэнец Гродзеншчыны, выпускнік Беларускай кансерваторыі А. Валадось. Але ж цяпер на сцэну выйшаў ягоны сын, таксама Аркадзь. Малады піяніст, выхаванец музычнага вучылішча пры Маскоўскай кансерваторыі, з нядаўняга часу жыве ў Парыжы, шмат выступае, робіць запісы, удасканальвае сваё выканаўчае мастацтва ў Мадрыдзе ў Дзмітрыя Башкірава.

Канцэрт яго ў Мінску выклікаў вялікую цікавасць прафесійных музыкантаў, педагогаў, навучэнцаў. Слухачы трапілі ва ўладу надзвычай тонкага жывапісу "Адлюстраванняў" М. Равэля, былі ў захапленні ад фенаменальнай тэхнікі ў "Танцы смерці" Сен-Санса — Ліста — Горавіца ды Другой венгерскай рапсодыі Ліста — Горавіца. Як зазначалася ў анатацыі да канцэрта, "Валадось на слых, з дыскаў, літаральна "пераздымае" транскрыпцыі Горавіца". Слухаць такое выкананне ў канцэрце шмат каму давялося ўпершыню!

Безумоўна, гэткая ігра зачароўвае і захапляе. Саната Мі мажор Ф. Шуберта ды Восем п'ес ор. 76 І. Брамса вызначаліся выразнасцю трактоўкі, эмацыянальнасцю, шчырасцю выказвання. Але ж найбольш уразілі транскрыпцыі, выкананыя з уразлівай яркасцю ды бляскам, дзе віртуознасць маладога музыканта дасягнула дасканаласці. На "біс" прагучаліВарыяцыі У. Горавіца на тэмы оперы "Кармэн", "Турэцкі марш" В. Моцарта ва ўласнай апрацоўцы піяніста ды "Палёт чмяля" ў транскрыпцыі вядомага музыканта Ж. Цыфры, якога называюць "уваскрослым Лістам" (вядома, што ўражаны ігрой А. Валадося, Цыфра падараваў яму раяль і ноты сваіх транскрыпцый). Гэты музычны феерверк не меў нічога агульнага з халоднай рацыянальнай віртуознасцю: А. Валадось проста ўразіў публіку эмацыянальнасцю, найтанчэйшай градацыяй пачуццяў.

Наступным днём піяніст сустрэўся з навучэнцамі Рэспубліканскага ліцэя пры БАМ. У зале была і маці А. Валадося — выпускніца нашай кансерваторыі, колішняя артыстка хору радыё і тэлебачання. Яна адказвала на пытанні аўдыторыі пра дзяцінства і гады навучання сына. А той — іграў: зноў гучалі транскрыпцыі Горавіца, але больш было ўласных апрацовак. Рахманінаў, Чэрні, Штраўс, Хачатуран, — гэткую стылёвую ды характарную разнастайнасць прадэманстраваў малады віртуоз.

Безумоўна, у піяніста з фенаменальнай віртуознасцю — вялікі шлях у мастацтве. І няхай многае з таго, што ў маладосці атрымліваецца несвядома, інтуітыўна, будзе падмацавана рацыяй, сэрцам, сталасцю, вопытам. Будзем спадзявацца, што першая сустрэча з даравітым піяністам А. Валадосем станецца для Мінска пачаткам доўгага творчага знаёмства з ім.

**Іна ГУРАРЫЙ**

ЛіМ
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11534.
Нумар падпісаны 10.11.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

